Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

## ЦК ЛКСМБ і ГАЛОЎПАЛІТАСЬВЕТЫ БССР



# ДА ДНЮ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСІ АД БЕЛАПАЛЯКАЎ

ЗЛАЖЫЛІ:
**П. КАПАЕВІЧ**
**М. СЕЎРУК**



„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
МЕНСК—1927

# МАТАР'ЯЛЫ ДЛЯ ДАКЛАДУ

**У. Ігнатоўскі**

## У кіпцюрах белага арла

*(8, VIII, 1919 г.—11, VII, 1920)*

Многа цяжкіх бед пераждыла Беларусь, многа крыві пралілося на яе палёх, многа енку і стогну яе працоўнага люду чулі лясы, балоты і шляхі Беларусі. Але рэдка калі прыходзілася ёй перажываць тое, што прынесла апошняя польская акупацыя.

Мерным крокам адходзіла з Беларусі Чырвоная армія. Воласьць за воласьцю, павет за паветам захопліваліся белапольскімі легіёнамі. 8-га жніўня ў руках генэрала Шэптыцкага апынулася сталіца Беларусі—Менск. Праз некалькі дзён легіёны дасунуліся да Бярэзіны і тут павінны былі спыніцца, астаноўленыя Чырвонай арміяй.

Пачалося панаваньне над Беларусьсю кіпцяў „белага арла". Беларусь папала пад бацькаўскую апеку пана Пілсудзкага. Яшчэ 22 красавіка, захапіўшы Вільню, ён выдае вельмі цікавую адозву да насяленьня быўшага Вял. Княства Літоўскага. Гэтая адозва ў вялікім ліку зьявілася і на вуліцах Менску праз некалькі гадзін пасьля захвату горада акупантамі. Ось зьмест яе: Беларусь шмат гадоў ня ведае свабоды; яна увесь час находзілася пад гвалтам—расійскім, нямецкім, урэшце, бальшавіцкім. „Гэткая бязупынная няволя, добра вядомая і мне самому, як радзіўшамуся на гэтай нешчасьлівай зямліцы, павінна быць урэшце спынена". Польскае войска, прышоўшае на Беларусь, нясе ўсім вам свабоду. Хачу Вам даць магчымасьць разьвязаць унутраныя, нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як самі захочаце, без якога-небудзь гвалту або націску з боку Польшчы". На Беларусі яшчэ грымяць гарматы, але ўлада з ваенных рук перададзена ў цывільны загад, у каторы будуць запрошаны мясцовыя людзі. Мэты

ўраду такія: 1) „Даць магчымасьць жыхарам пагутарыць аб сваіх патрэбах праз абраных імі прадстаўнікоў. 2) Памагчы, каму трэба, жыўнасьцю, памагчы ў працы вытворчай абясьпечыць лад і супакой. 3) Апекавацца над усімі бяз розьніцы веры і нацыянальнасьці“. Канчаецца адозва прызывам зьвяртацца да пастаўленых уладаў „адкрыта і шчыра ў кожнай патрэбе і ў справах, каторыя ляжаць Вам на сэрцы і цікавяць Вас“.

Адозва напісана ў сантымэнтальна-рамантычным стылю многаглаголівага Керэнскага. Тут і „забытая богам старонка“, і „нешчасьлівая зямелька“, тут і „сэрца“ і „шчырасьць“. Але цікава тое, што тут ёсьць і „жыўнасьць“. Калі ня зробіш уплыву на сэрца, то рабі яго на жывот. У адозве гаворыцца толькі аб „унутраных“ справах, і нічога не сказана аб агульнай незалежнасьці. Само сабою зразумела, што аб соцыяльным пытаньні няма ні слова, бо разьвязываць соцыяльныя пытаньні—гэта справа бальшавікоў, каторых так ня любіць пан Пілсудзкі; апроч таго, калі паставіць у абвестку соцыяльныя справы, тады ня можна было-бы Пілсудзкаму гаварыць аб прызыве да ўлады „мясцовых людзей, сыноў гэтай зямлі“, каторых бальшавікі пагналі з іх беларускіх маёнткаў. Гэтыя „мясцовыя людзі“ потым у самой справе былі пакліканы да ўлады, і беларускае сялянства добра памятае іх.

У канцы жніўня выдаецца абавяшчэньне № 16, каторае таксама думае аб гэтых „мясцовых людзях“. Там ясна, чорным па беламу, напісана так: „Усякая прыватная ўласнасьць, ці будзе яна награбленай, ці мо‘ прыпадкова знаходзячайся ў незаконных уласьціцеляў, павінна быць безадкладна зьвернута. Уласьціцелі зямельнай маетнасьці, альбо іх правамоцныя намесьнікі змушаюцца да 10 верасьня прыняць у сваё ўладаньне зямельную маетнасьць“. Зразумела, што паны землеўласьнікі, „сыны гэтае зямлі“, пасьпяшылі выканаць прадпісаньне і пачалі забіраць свае маёнткі ад пасынкаў Беларусі, каторыя дзе-ні-дзе ў часы бальшавіцкай улады захапілі панскую зямлю.

Каб здаволіць нацыянальнае пытаньне, хутка пасьля захвату Менска (20 жніўня 1919 г.) выдаецца загад № 8 аб карыстаньні беларускаю моваю. Загад абвяшчае: „Арт. I. На абшарах, занятых польскімі войскамі ўрадавай мовай лічыцца мова польская. Урадавыя загады будуць выдавацца ў польскай мове побач з перакладам іх на мову беларускую. Першае месца займае аснова польскай мовы. Арт. II. У сваіх зносінах з уладай насяленьне можа ўжываць, побач з польскай, і мову беларускую“.

Гэты загад аб мове таксама вельмі двухсэнсовы. Так і ня ясна, што такое з формальна-юрыдычнага боку беларуская мова. Мова польская—урадавая. А беларуская? У ваўсякім разе не ўрадавая. Тым ня менш яе можна ўжываць

Праўда, гэтае ўжываньне, па загаду, не забясьпечана абавязковасьцю са стараны ўраду „разумець“ гэтую мову.

Пры ўступе ў Менск Пілсудзкі выдаў яшчэ адну адозву да беларускага насяленьня. У адозве вызначалася доўгае сужыцьцё беларускага народу з польскім народам. Гэтае сужыцьцё памалёвана ружоваю фарбаю. Адозва вызначае, што польскія войскі, заняўшыя Менск і прагнаўшыя бальшавікоў, адчынілі зноў для Беларусі магчымасьць далейшага шчасьлівага сужыцьця двух братніх народаў. Пілсудзкі заяўляе, што ён „хацеў-бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі; што датычыць да ўзаемаадносін з Польшчаю, то Беларусь будзе гаварыць з ёю, „як роўны з роўным і вольны з вольным“.

Сярод беларускіх незалежнікаў прыход Пілсудзкага, былшага пэпэса, падняў надзеі. Яны паверылі яго адозвам і ня бачылі ўсёй няяснасьці і адмоўных бакоў гэтых адозваў. Паміж раднымі Рады беларускай народнай рэспублікі пачынаецца жывая перапіска. Сутнасьць гэтай перапіскі зводзіцца да таго, каб радныя хутчэй зьбіраліся ў Менск і адразу прыступалі да будаваньня Беларусі. Радныя зьбіраюцца, але вельмі паволі.

У беларускай тагочаснай прэсе („Звон“, „Беларусь“) таксама на кожным кроку мы спатыкаемся з гэтай верай у Пілсудзкага і дэмакратыю польскага народу. „Мы зьвяртаемся да польскай дэмакратыі з гэткімі словамі: калісь з часоў былшага Вял. Княства Беларуска-Літоўскага нашы продкі памаглі Вашым продкам збавіцца ад нямецкай крыжацкай навалы; калісь супольна мы бараніліся ад нашых ворагаў і былі дужыя і культурныя, але калі Польшча перастала паважаць нашы дзяржаўныя і культурна-нацыянальныя патрэбы, то гэта прывяло да згубы і доўгалетняга полану і нас і вас“ (Звон. 25 VIII, 1919, № 1). Польшча павінна дапамагчы Беларусі. Яна павінна пасунуць свае войскі яшчэ на ўсход, каб адваяваць ад бальшавікоў Усходнюю Беларусь і такім спосабам аб'яднаць ўсю Беларусь. Беларусь мае права спадзявацца, што Польшча не забыла свайго даўнейшага саюзьніка і кампана. Стары друг—лепш новых двух. Няўжо-ж дзеля таго, што Беларусь так заняпала і абяднела і не бяз гістарычнай віны з боку Польшчы, дык яна ня мае права на братэрскую помач ад свайго вінавайцы ў гэты рашучы і адпаведны момант? Не, разам мы заняпалі, разам нам трэба і вясьці сваё адбудаваньне! Трэба рабіць да канца“! (Звон, 27, VIII, 1919, № 2).

На 18-е верасьня назначан прыезд у Менск Пілсудзкага. Захапленьне белых беларускіх „дзеячоў“ даходзіць да апагея. 17-га верасьня ў газэце „Звон“ вялікімі літарамі надрукаваны такія словы: „Гэтымі днямі прыяжджае да Менску Начальнік Польскай Дзяржавы, Язэп Пілсудзкі. Гэта, дзякуючы яму наш змучаны, абяздолены край збаўляецца ад крывавага панаваньнь-

ня маскоўцаў. Гэта ён зьвяртаўся да насяленьня Беларусі з адозваю, у каторай абяшчаў, што нясе нам волю і збаўленьне ад векавой крыўды і няволі". Далей ідзе вынятак з віленскай адозвы гэтага збавіцеля Беларусі. „Прывет табе, Начальніку Польскай дзяржавы, на тваёй роднай зямельцы Беларусі".

На другі дзень у Менск прыехаў Пілсудзкі. Урачыстае спатканьне яго было назначана ў Шляхэтнай залі (дзе цяпер клюб К. Маркса). Тут сабраліся сьліўкі польскай буржуазіі і чынавенства. Былі прысутнымі прадстаўнікі і рэлігій Беларусі —каталіцкі біскуп Лазінскі, праваслаўны епіскап Мелхісэдэк, мусульманскі мула і яўрэйскі рабін. Прыцягнулі з Заслаўшчыны і селянаў-кулачкоў. Сярод гэтай прыемнай кампаніі былі прадстаўнікі Беларускага Нацыянальнага Камітэту, каторы злажыўся ў Менску да сходу Рады. Старшыня Нац. камітэту выступіў з прывітаньнем „Пану Начальніку Дзяржавы Польскай". Зьмест яго такі: Ужо шосты тыдзень, як мы жывём спакойным жыцьцём. Разьвеяўся чырвоны туман, разьвеялася відмо галоднай сьмерці. Гэты цуд ёсьць дзелам гераічнага польскага войска, каторага Вы ёсьць начальнікам. Вітаю Вас ад імені нашых беларускіх дэлегацыяў, прадстаўляючых тутака беларускае насяленьне, выслаўляю гарачую падзяку за звальненьне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага нападу маскоўскага імпэрыялізму, каторы на гэты раз прыбраўся ў бальшавіцкую вопратку". Але „плачуць яшчэ маткі у Віцебску, стогнуць людзі ў Магілеве, маўчыць, бо забаронен, хаўтурны голас аб'імшэлых званіцаў Смаленску". Мы ім нічым памагчы ня можам, аднак-жа мы пэўны, што страшная мара разьвеецца і над імі. „Мы верым і спадзяёмся, што разам з вольнымі Менскам, Вільняй і сівым Гораднам вольнымі і шчасьлівым будуць у вольнай і незалежнай Беларускай Рэспубліцы нашыя адвечныя астрогі на рубяжох Масквы—Віцебск і Магілеў і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяёмся, у гэта мы верым, а гэтымі верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, каторага слаўнаму Прадстаўніку гатовы мы сказаць на Меншчыне ня толькі нашае сягоньняшняе „дзякуй", але і заўсёды: „здароў будзь, прыходзь да нас, наш госьцю мілы, суседзе дарагі".

Далей гэтага захапленьня няма куды ісьці. „Тут і чырвоны туман", тут і „відмо галоднай сьмерці". Відна і беларускіх дзеячоў зьбіла з толку тая „жыўнасьць", аб якой пісаў Пілсудзкі ў сваёй адозве. Даваць комэнтарыі да вышэйпаданага прывітаньня няма сэнсу. Праз некалькі тыдняў нават для саміх незалежнікаў стала ясна, што яны абмыліліся ў сваім захапленьні.

Аднačасна з гэтымі падзеямі Старшыня Польскага Савету міністраў Падэрэўскі выклікае з Парыжу А. Луцкевіча, старшыню Рады міністраў Р. Б. Н. Р. для размовы аб беларуска-польскіх адносінах. Размова іх была кароткая. Незалежнасьць Луцкевіча не спадабалася Падэрэўскаму. Луцкевіч быў

інтэрнован, а кіраўніцтва ўсходніх земляў абвясьціла Раду Б. Н. Р. распушчанай. Толькі праз месяц Луцкевічу ўдалося пры садзейнасьці Пэпэсаў дабіцца ў Падэрэўскага абяцанкі на созыў Рады.

Між тым у Менск ужо сабралася значная частка радных. Польская захватная палітыка ўжо ясна стала відна радавай большасьці. Сярод дэпутатаў вызначыўся рэзкі падзел на дзьве часткі. Эсэры і фэдэралісты былі проціў якога-бы то ні было згодніцтва з польскай ўладай. Група Нацыянальнага Камітэту, на чале каторай стаялі беларускія эсдэкі, выказывалася за згоду з акупантамі. Пры такім настрою Рада сабралася 12 сьнежня 1919 году. Адразу-ж выявілася, што абедзьве групіроўкі разам працаваць ня могуць. Радныя разышліся ўжо на такім драбязговым пытаньні, як пасылка прывітальнай тэлеграмы Пілсудзкаму.

13-га сьнежня рэволюцыйным шляхам сабраліся 50 радных (з 87-мі) эсэры і сац.-фэдэралісты і ўхвалілі рад пастановаў—яны абвясьцілі сябе запраўднай Радай, выключыўшы з Рады меншасьць; прынялі рэзалюцыю аб пацьвярджэньні акту незалежнасьці Беларусі; вынясьлі пратэст проціў акупантаў і абралі прэзыдыум Рады. Ластоўскаму (с. р.) дапаручылі сфармаваньне новага габінэту. Меншасьць Рады (37 радных) абвясьлі сябе Найвышэйшай Радай і аставілі стары габінэт Луцкевіча. Такім спосабам утварыўся раскол старой Рады на дзьве Рады з двума габінэтамі. Актыўная частка антыпольскай Рады хутка адбыла ў Літву. Найвышэйшая Рада асталася ў Менску і валачыла сумнае жыцьцё. Ёй удалося ўтрымаць толькі дзьве ўстановы: Беларускую вайсковую Камісію і Школьную Раду.

8-га жніўня 1919 г. польская армія, як мы казалі, увахадзіла ў Менск і лавінаю расшыралася па гарацешнай Беларусі. Армія, што і гаварыць, па надворнаму свайму выгляду была вельмі блескучая. Добрыя коні, зброя і вопратка; вялікі лік артылерыі і танкаў. Жаўнеры елі белы хлеб і сала. За арміяй цягнуліся абозы на фурманках з запаснымі коламі і тармазамі. Вельмі часта ў абозах і артылерыі магчыма было бачыць асобую пароду цяжалавозаў з доўгімі вушамі. Фурманкі былі набіты ўсякай жыўнасьцю.

Буржуазія і шляхцюкі спаткалі армію з захапленьнем. Часта магчыма было відзець, як паны і пані, адзетыя ў шырокія вопраткі, кідалі ў жаўнераў кветкамі і выходзілі з хлебам-сольлю. На галовах у паняў і паненак былі павязаны „амарантовыя“ хусткі, у паноў „амарантовыя“ ружэткі ў пятлічках. Зусім не такі настрой быў у пралетарскіх колах і ў колах гарадзкой і вясковай беднаты. Прышла армія на абарону фабрыкантаў, паноў, ксяндзоў і г. д. І чым больш яна была блескучая, тым цямней было ў сэрцы беднаты. У галовах будзіліся думкі, зьвязаныя са страхам і адчаяньнем. Чаму ў

нас, у беднаты, няма столькі багацьця, як у панства, каб так добра ўтрымаць нашу збавіцельку Чырвоную армію? Здавалася, што ніколі ня хопіць сілаў у пролетарыята і сялянства, каб прагнаць гэтае бліскучае бела-польскае войска.

Адразу пасьля ўходу арміі па гарадох, мястэчках і вёсках Беларусі пачаліся пагромы. Шукалі камуністаў, яўрэяў, сялянаў, каторыя спачувалі саветам. Даволі было каму небудзь з паноў ці падпанкаў паказаць на чалавека пальцам, што гэта бальшавік, як гэты чалавек ставіўся „да сьценкі". Шмат загінула народу, зусім непавіннага ў бальшавізьме. Дасталося каапэрацыйным і яўрэйскім крамам, каторыя таксама чамусь лічыліся бальшавіцкімі і аддаваліся на разгром. Па гарадох і мястэчках найбольш цярпелі яўрэйскі пралетарыят і бедната, па вёсках—батракі савецкіх маёнткаў і сялянская бедната.

Вярнуліся фабрыканты і паны. І тыя, і другія пачалі шукаць і забіраць сваю маетнасьць і зямлю аднятую ў іх бальшавікамі. Пашлі даносы, обыскі. Запоўніліся турмы гарадзкою і вясковаю беднатою. У турмах для лепшага сазнаньня намечаных праступнікаў былі пушчаны ў ход жастокія пыткі. Па вёсках разьехаліся канаркі—жандармы, утварылі вясковыя пастэрункі і разам з вярнуўшымся панствам вышуківалі тых, хто быў проціў пана. Загулялі па мужыцкіх карках, шомпал і бізун. Толькі і чулася па Беларусі „dwadziescia pięć". Паны паатрымывалі вышэйшыя пасады як у цэнтру, так і на мясцох. У паветах яны сядзелі як старасты, у валасьцёх—гмінах, як войты. Моц эканамічная злучылася з уладай палітычнай. Рабочыя па гарадох і сялянства па вёсках былі зусім без абароны.

Паўсюды насаджаўся зьвярыны каталіцка-польскі шавінізм. Католік і паляк сталі сінонімамі. Аднекуль зьявілася цэльная хмара ксяндзоў. Трымалі яны сябе з вялікаю пагардаю і сазнаньнем сваёй „бажэственна-польскай" вартасьці. Беларусы каталікі былі запісаны ў палякі. Назва „беларус" была для акупантаў пугалам, ня гледзячы на авечы настрой беларускіх „дзеячоў". Паны бралі пачуцьцём, што беларускі рух, як рух запрыгоненага імі сялянства, ёсьць рух у корані не нацыянальны толькі, але і сацыяльны. Па гарадох узяліся пры дапамозе рэлігіі і нацыі разлажыць рабоча-прафэсыянальны рух. Зьявіліся каталіцка-польскія і іудэйска-яўрэйскія рабочыя саюзы. Каталіцкім саюзам даваліся ўсялякія прывілеі. Нават коопэрацыю разьбівалі па рэлігійна-нацыянальным прыкметам. Пашла палёнізацыя школы. Падтрымываліся ўсякімі незаконнымі сродкамі каталіцка-польскія школы. Школы рускія чыноўнічыя і „истинно-русские" патрошку лічыліся, як магчымыя і цярпімыя. Асабліва даставалася беларускім школам. Ня выратаваліся і яўрэйскія хэдэры, хоць яны і былі клерыкальнымі школамі яўрэйскіх сінагогальных абшчы-

наў. Паўсюду раскінуліся аддзелы „Стражы Крэсавай“ і „Камітэту Абароны Крэсаў“. Гэтыя клерыкальна-культурныя організацыі шырока разьвінулі эканамічную працу, стараючыся перацягнуць у каталіцка-польскі бок незаможныя групіроўкі беларускага жыхарства той „жыўнасьцю“, аб якой пісаў Пілсудзкі ў сваёй адозве. Апроч таго, разам з „канаркамі“ яны несьлі на сабе політычную абарону крэсаў, займаючыся сыскам і даносамі. Асабліва разьвінулася праца гэтых крэсавых організацыяў, калі быў абвешчан „плебісцыт“ на Беларусі. Добра памятны ўсім крэсавыя зьезды, найчасьцей сялянаў, аб прылучэньні да Польшчы. Сялянаў заманівалі ў горад, „жыўнасьцю“, часам цягнулі пагрозамі, а то і сілаю, тут іх да зьезду запіралі і выпускалі толькі ў залю пасяджэньняў. Сяляне, даведаўшыся ў чым справа, уцякалі, як з турмы. Часам вынікала і опозыцыя, ня гледзячы на тое, што падбіралі самых забітых, пакорных і несьвядомых сялянаў.

У адказ на такія акупацыйныя злачынствы пачынаецца на Беларусі падземны рух, каторы ў гарадох носіць амаль што выключна політыка-соцыяльны кірунак, а на вёсцы яшчэ і нацыянальна-беларускі кірунак. Найраней пачаўся рух сярод маладых рабочых. Профсаюзы, у каторых дагэтуль меў вялікую сілу бунд і поалей-ціон, ня хочуць і ня могуць ісьці за гэтымі згодніцкімі партыямі. Шырока разьвіваецца тут комуністычная праца. Бунд павінен акрасіцца ў комуністычную фарбу. Падпольная організацыя Компартыі Літвы і Беларусі з кожным днём мае ўсё больш і больш староньнікаў. Вельмі хутка ад агітацыі і прапаганды партыя пераходзіць да падгатоўкі паўстаньня. Здабываецца зброя, організуецца разьведка і невялічкія атрады.

Заварушылася і вясковая беднота. Дагэтуль яна мела слабую сувязь з комуністычным рухам. Сялянства на Беларусі было пераканана, што бальшавікоў на Беларусі няма, што яны жывуць у Маскве, а сюды толькі прыяжджаюць, каб змагацца з панамі. Акупацыі імпэрыялістаў, праганяўшыя Вялікі Кастрычнік з Беларусі падтрымывалі гэты вясковы міф аб бальшавіках. Політыка-соцыяльны і нацыянальны ўціск над вёскаю прабудзілі вясковую моладзь. І сюды прышла Компартыя і Комсамол. Паралельна з імі вырастае „Беларуская падпольная організацыя“. Яна вырастае на каранёх беларускай вёскі. Складаецца яна большасьцю з сялянаў і вясковых настаўнікаў. Цэнтрам „Організацыі зьяўляецца Беларускі Пэдагагічны Інстытут у Менску“, на чале організацыі хутка ўтвараецца камітэт пад назваю Першай тройкі. Праграма „Організацыі“ зусім супадае з праграмаю Компартыі. Асаблівым сваім заданьнем яна ставіць абхапіць протэстуючыя колы вёскі, выдзеліць там беднату, а з яе выбраць актыўнейшыя элемэнты ня толькі для рэволюцыйнай, але і для комуністычнай працы. Для гэтых мэтаў Організацыя шырока карыстаецца „мужыцкай“ беларускай мовай. Апроч таго, Організа-

цыя ставіць сваёю мэтаю разлажыць белы беларускі рух, пакіраваць яго па чырвонаму руслу соцыяльнай, клясавай рэволюцыі і ўліць у інтэрнацыянальны рух пролетарска-сялянскага вызваленьня. Ня раз падымаецца пытаньне аб злучэньні Організацыі з Компартыяй Літвы і Беларусі, чаго-жадае і на чым настаівае Організацыя. Злучэньню прашкаджаюць падпольныя ўмовы існаваньня. Наступае час вялікага бою; няма часу займацца абфармленьнем. Яно адкладзена да лепшых часоў, каторыя ўжо не за-гарамі.

У выніку працы Комуністычных організацый вырастае паўстанскі рух, каторы з асаблівай сілай выбухае вясною 1920 году. Працуюць ува ўсю партызанскія групы, працуюць адзіночкі тэрарысты. Крывёю паноў і крывёю пастаўшых масаў пакрываецца змучаная Беларусь. Расстрэлы, турмы, шомпалы і бізуны ўжо ня могуць задушыць паўстаньня рабочых і сялянаў Беларусі. Тым больш, што і ў польскай арміі пачынаецца разлажэньне. І тут прасыпаюцца рабочыя і сяляне ў вопратках легіянэраў. Ужо ёсьць адказы ад стрэлаў у народ. Ужо партызанскія групы маюць сваіх людзей сярод легіянэраў. Слабнуць крылы белага арла. Ён пачынае разжымаць свае кіпці, упіўшыяся ў жывое цела рабочых і сялянаў Беларусі.

А тут яшчэ пачынаюцца недахваты эканамічнага кірунку ў польскай арміі. Справа ў тым, што „жыўнасьць“ у белапалякаў была не свая, а Антанты. Антанта зьменшыла порцыі жыўнасьці. Сталі падымацца цэны, стала ўніз падаць польская марка. Пачаўся летні наступ Чырвонай арміі. Зноў прышоў Вялікі Кастрычнік, на гэты раз ён прышоў на заўсёды. 11-га ліпеня 1920 году Менск быў заняты Чырвонай Арміяй.

Лік чырвонаармейцаў у раз дзесяць быў меншым, чым уцякаючая белапольская армія. Яна ўцякала ў поўным разлажэньні, пры поўнай адсутнасьці дысцыпліны. Куды дзелася тая бліскучая армія каторая 11 месяцаў таму назад прыходзіла акупаваць Беларусь? Яна растаяла, пагубіла сваю маетнасьць і зрабілася натаўпам. І зразумелая рэч. Перад працоўнымі масамі, калі яны падымуцца, калі яны злучацца са сваёй, рабоча-сялянскай арміяй, ня зможа ўстаяць самая лепшая белая армія.

Прышоў чырвонаармеец, змучаны, галодны, часта бяз ботаў. Працоўныя масы не абсыпалі яго кветкамі, а стараліся знайсьці для яго ў хаце кавалак хлеба. Пакойна, бодра, бяз шуму, бяз гвалтаў, зноў ён за працоўныя масы і разам з працоўнымі масамі Беларусі ішоў ён на Варшаву.

1-га жніўня была абвешчана незалежная Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка Беларусі імем паўстаўшых рабочых і сялянаў. Па гэтаму пытаньню была выдадзена Дэклярацыя такога зьместу: Змучаная Беларусь пры дапамозе Чырвонай

Арміі завяршае справу свайго вызваленьня. Цяпер рабоча-сялянскі народ Беларусі можа выявіць сваю волю. „Організаваны рабочы кляс і працоўнае сялянства Беларусі (Комуністычная Партыя Літвы і Беларусі, Беларуская Комуністычная Організацыя, Агульны Яурэйскі Рабочы Саюз „Бунд“ і Цэнтральнае Бюро Прафэсыянальных саюзаў г. Менска і Менскай губэрні) грунтуючыся на волі працоўных масаў, выяўленай на першым Зьезьдзе Саветаў Беларусі ў Лютым 1919 году ў шэрагу рэзалюцый, у поўнай згодзе з Чырвонай Арміяй і Рэволюцыйным Ваенным Саветам заходняга фронту, імем паўстаўшых рабочых і сялянаў правазглашаюць незалежную Социялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусі“. „Яшчэ раз пацьвярджаецца, што права прыватнай уласнасьці на зямлю касуецца на заўсёды“. Да сазыву Зьездаў Саветаў уся паўната ўлады на Беларусі перадаецца Ваенна-Рэвалюцыйнаму Камітэту, у каторы Компартыя Літвы і Беларусі дэлегуе трох прадстаўнікоў, Агульны Яўрэйскі Рабочы Саюз „Бунд“—аднаго прадстаўніка, Беларуская комуністычная Організацыя—аднаго прадстаўніка.

З гэтага часу на тэрыторыі быўшай Менскай губэрні, у ўтворанай тут Беларускай рэспубліцы, пашла праца па адбудаваньню зруйнаванага жыцьця на асновах вялікага кастрычніка. Будуецца цэнтр, каторы ў будучыне аб'яднае рабочых і сялянаў усёй этнаграфічнай Беларусі.

---

# Да пытаньняў аб становішчы Польшчы і Заходняй Беларусі

*З дакладу т. Крыніцкага на X зьезьдзе КП(б)Б*

КП(б) праводзіць працу ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва далейшага політычнага, экономічнага і культурнага росту БССР,—рэспублікі Саюзу, якая знаходзіцца на самай заходняй акраіне, на мяжы соцыялістычнага і капіталістычнага сьветаў.

Ня дзіўна, што з аднаго боку КПБ і ўсім працоўным БССР даводзіцца асабліва ўважліва наглядаць за тымі працэсамі, якія адбываюцца за граніцаю, у капіталістычных краёх, асабліва ў нашых суседзяў, за тымі плянамі, якія маюць гэтыя суседзі; з другога боку ўся наша праца сама па сабе адбіваецца і ня можа не адбівацца сярод працоўных за кардонам.

Нам на Беларусі, як часткі СССР, трэба асабліва ўважліва наглядаць за тым, як Англія праводзіць усё далей і глыбей сваю старую палітыку сярод нашых суседзяў, імкну-

чыся ўтварыць моцнае варожае кола сваіх агэнтаў—дзяржаў навакол СССР. Гэта палітыка Англіі выяўляецца далей пасьля перавароту Пілсудзкага і заснаваньня ўраду, які зьяўляецца агэнтураю Англіі і ў перавароце ў Літве, які таксама здарыўся не бяз удзелу Англіі. Фашысцкая Літва зараз на справе аказваецца таксама адным звеньнем капіталістычнага ланцугу навакол СССР, адным з паслухмяных звеньняў ангельскай палітыкі.

У гэтым сэнсе ўвесь СССР і асабліва мы, рэспубліка, якая прымушана будзе ў выпадку малейшай спробы нападу на СССР, узяць на свае плечы першыя ўдары, мы павінны быць асабліва на варце. Увесь наш Саюз і ўся наша партыя цьвёрда стаяла і стаіць зараз на пазіцыі палітыка міру, толькі такая наша палітыка забясьпечвае ўсяму нашаму краю патрэбныя ўмовы экономічнага і культурнага разьвіцьця на соцыялістычным шляху. Аднак характар пэрыоду часовай частковай стабілізацыі капіталізму такі, што капіталістычны сьвет можа спрабаваць выступіць проці нас. Толькі глыбокія ўнутраныя супярэчнасьці перашкаджаюць яму, паралізуюць яго пляны. Гэта не выключае розных ваенных спроб проці нас з боку фашызму ў капіталістычных дзяржавах. Бяспрэчна, што першымі агэнтамі капіталізму ў такіх спробах акажуцца Польшча, Румынія і іншыя суседнія з намі краі. Вось чаму для нас асабліва важна пастаянна сачыць за тым, што адбываецца ў Польшчы, Літве і сярод іншых нашых суседзяў. Як і раней ўрад Пілсудзкага, не зважаючы на агульнае цяжкае становішча Польшчы, не адмаўляецца ад старых плянаў, фэдэралістычных плянаў, ад аднаўленьня Польшчы ў яе гістарычных межах 1772 г. Орган, блізкі да Пілсудзкага „Пшэглёнд“ у артыкуле наконт перавароту ў Літве так і ацэньвае гэты пераварот, што ён спрыяе далейшаму ўзмацненьню ваінственных пазіцый Польшчы проці СССР. Гэтай політыкай тлумачацца значныя вайсковыя падрыхтоўкі ў Польшчы. Вайсковая прамысловасьць у Польшчы энэргічна разьвівае сваю дзейнасьць, праводзіцца шмат закупак выключна вайсковага характару, будуюцца стратэгічныя чугункі, як чыгунка Вільна-Літоўскай граніцы. У бюджэце Польшчы на 1926 г. вайсковае міністэрства займае вялічэзнае месца—554 міл. злотых. Калі сюды дадаць выдаткі на міністэрства ўнутраных спраў, (паліцыя, дэфэнзыва і г. д.)—у 178 міл злот., а таксама частку выдаткаў па міністэрству фінансаў (разам з пэнсіямі і дзяржаўным, пераважна ваенным доўгам) у 371 міл. злотых, дык будзе зразумела, якую вялікую частку бюджэту Пілсудзкі траціць на ваенныя падрыхтоўкі, на „ўнутраную падрыхтоўку“ і фашызацыю краю для гэтага выступленьня. Характэрна, што па міністэрству асьветы і веры ў гэтым-жа бюджэце прызначана толькі 270 міл. злотых (глядзі дан. у V кніж. „Сацыялістычнай гаспадаркі“—1926 г.).

Гэту сваю палітыку Пілсудзкі разьвівае пры надзвычайна цяжкім унутраным становішчы Польшчы, пры якім усе ваінственныя пляны лёгка могуць сарвацца. Экономічнае становішча Польшчы з канца лістападу і пачатку сьнежня 1926 г. адзначае значны пералом у бок пагоршваньня. Выкрываецца ложная актыўнасьць балянсу пасьля сканчэньня ангельскай забастоўкі. Польшча прымушана хлеб ужо ня вывозіць, а прывозіць. Беспрацоўе расьце і, згодна даных „Роботніка“—орган ППС, лік беспрацоўных за апошнія тыдні сьнежня складаў 228 тыс. чалавек. Згодна тых-жа афіцыйных даных, у кастрычніку было 197 тыс., а ў лістападзе 198 тыс. беспрацоўных. Дарагоўля расьце. У Польшчы сёлета вялікі неўраджай у параўнаньні з леташнім годам. Усе спробы Польшчы выбрацца з эканамічнага тупіка да апошняга часу ня маюць посьпеху. Адзіным хоць і часовым выхадам з гэтага становішча для Польшчы зьяўляецца замежная пазыка, якой да гэтага часу яна ня здолела атрымаць. Спрабавала яна дастаць яго ў Англіі,—сарвалася. Зараз Польшча пры дапамозе Англіі спадзяецца атрымаць патрэбную пазыку ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах. Але Амэрыка ня вельмі ахвотна зьмяшчае свой капітал у дзяржаве, якая вядзе палітыку вайны. Амэрыка лічыць нявыгадным зьмяшчаць у такой дзяржаве свае грошы. Вось чаму ў палітыцы Пілсудзкага, у палітыцы па сутнасьці ваенных авантур, мы заўважаем імкненьне падмануць Амэрыку сваім падкрэсьліваньнем жаданьня жыць мірна з СССР. Мы ведаем, што гэта за мірная палітыка.

У Заходняй Беларусі, найбольш блізкай да нас частцы Польшчы, мы бачым, што гэтыя адмоўныя эканамічныя фактары выяўляюцца яшчэ больш востра. Яшчэ вастрэй беспрацоўе. Неўраджай у Заходняй Беларусі дасягнуў значна большых разьмераў, чымся ў іншых частках Польшчы.

У некаторых мясцох Заходняй Беларусі сяляне ўжо зараз даядаюць апошні хлеб, пераходзячы на бульбу, якая ў Заходняй Беларусі, як і ўва ўсёй Польшчы, вельмі дрэнна ўрадзіла. Да вясны ў шмат якіх мясцох Заходняе Беларусі трэба чакаць поўнага голаду. Пры гэтым ня спыняецца нажым ураду ў галіне спагнаньня падатку і нядоімак.

У палітычным жыцьці Польшчы ў огуле адзначаецца далейшае павялічэньне фашысцкае дыктатуры, далейшая кансалідацыя буржуазнага лягеру (асабліва характэрны пераход „Левіатана“ саюзу гандлёўцаў і прамыслоўцаў на бок Пілсудзкага), прымірэньне інтарэсаў розных груп унутры яго, і больш умераны тон унутры яго, зразумела за кошт далейшага пагоршаньня працоўных мас. У шмат якіх пытаньнях—выразны палітычны рэгрэс (зьнішчэньне сацыяльнага законадаўства, пагоршаньне выбарнага закону ў органы самакіраваньня ў Верхняй Сілезіі і Галіцыі, праэкты пагоршаньня выбарных законаў у сойм, законы аб друку і г. д.).

Згодніцкія партыі, як ППС, Вызваленьне, Сялянскі Саюз (Брыля—Домбскага) і інш. аказваюцца памоцнікамі фашысцкай дыктатуры і спрабуюць праводзіць фашызацыю рабочага руху і профсаюзаў.

Аднак, эканамічнае становішча ўсё больш спрыяе зжываньню прыемных мар сярод шырокіх мас, усё большаму паляваньню і адгэтуль рэвалюцыянізаваньню працоўных мас, зьмяншэньню ўплыву рэформістаў. Вялікую вагу ў гэтым сэнсе мае апошняя перамога — на выбарах у Варшаўскую больнічную касу,—комуністаў, дзе яны атрымалі 21 мандат, а ППС толькі 16; таксама на камунальных выбарах у Верхняй Сілезіі ППС атрымала значна меншы лік галасоў, чымся ў папярэдніх выбарах, у той час, як лік галасоў са сьпіскам партыі і левых прафсаюзаў вырас. Сярод пролетарыяту значна ўзьнялася актыўнасьць і жаданьне барацьбы. Ажыўляецца забастовачны рух, пераважна барацьба проці павялічэньня працоўнага дню.

Сярод сялянства Польшчы распачалася таксама нарастаньне настрояў расчараваньня Пілсудзкім, і як правіла, зараз крытыка і выкрыцьці фашысцкага ўраду Пілсудзкага сустракаюць спачуваньне і адобраньне тых мас, якія раней не дазвалялі гаварыць адмоўна наконт Пілсудзкага.

У Заходняй Беларусі таксама адзначаецца ажыўленьне рабочага руху і эканамічнай барацьбы пролетарыяту, а таксама рост і ўплыў компартыі. З посьпехам прайшлі забастоўкі ў Беластоку, Гродні, Вільні, на лясных распрацоўках, у Брэсьце.

Характэрна вялікая перамога кампартыі пры выбарах у Брэстскую гарадзкую думу.

У Заходняй Беларусі значна павялічваецца ў апошні час масавы рэвалюцыйны рух сялянства. Польскія газэты, а таксама агалошаныя дакумэнты сойму (напрыклад, апэляцыі) адзначаюць масавыя сялянскія дэманстрацыі ў 5-6 тысяч чалавек. Гэтыя дэманстрацыі разганяюцца ўзброенай паліцыяй. Даходзіць да крывавых стычак. Характэрна, што сярод сялян Заходняй Беларусі шырока прайшла кампанія подпісаў за вызваленьне палітычных вязьняў. У шмат якіх мясцох Заходняе Беларусі адбываецца стыхійны байкот польскіх школ, стыхійная нявыплата падаткаў,

Агульны настрой беларускай вёскі так характарызуецца манархічнай віленскай газэтай „Слово“ ад 30 сьнежня 1926 г.

„Спакойнаю, ціхаю вёскаю заўладала нейкае калектыўнае вар'яцтва, людзі кідаюць працу, выконваюць толькі часткова і без жаданьня свае штодзённыя абавязкі: усімі заўладала нэрвовая атмасфэра чаканьня нейкіх буйных прынцыповых дзяржаўных і сацыяльных зьмен. Гэтыя зьмены павінны зараз надыйсьці, амаль што заўтра. Ніхто яшчэ нічога добра ня ведае, але ўсе адчуваюць, што гэта павінна прысьці. Адны

прадсказываюць прыход бальшавікоў, іншыя—беларускую рабоча-сялянскую рэспубліку з сваёй міліцыяй, войскам, грашыма і падзелам усёй гарадзкой і вясковай маемасьці“.

Такое становішча ў вёсцы Заходняе Беларусі тлумачыцца гнётам польскага ўраду і праз яго прыгнечаньнем памешчыкаў і фабрыкантаў у галіне і эканамічнай, і палітычнай, і ў нацыянальнай.

Праўда, Пілсудзкі ў апошні час спрабуе стварыць нейкую прыемную мару зьмены курсаў у нацыянальнай палітыцы. Аднак, на справе расьце прыгнечаньне і рэпрэсіі ў дачыненьні сялян, у дачыненьні ня толькі радыкальных палітычных арганізацый, але нават і ў дачыненьні розных культурна-асьветных арганізацый у Заходняй Беларусі.

Тым ня менш, рост гэтых арганізацый прадаўжаецца, наўпрэкі ўсім рэпрэсіям фашысцкага тэрору. У росьце сялянскіх, радыкальных, рэвалюцыйных організацый праяўляюцца ўсе эканамічныя, палітычныя і нацыянальныя супярэчнасьці ў Заходняй Беларусі, якія бясьсілен вырашыць польскі ўрад і якія выяўляюцца ў рэвалюцыйных настроях і пратэстах з боку сялянства.

Таксама Пілсудзкі вядзе палітыку рэпрэсыяў у адносінах да беларускіх школ. Ня гледзячы на дэклярацыі з боку сялянства аб іх адкрыцьці, школы амаль нідзе не адчыняюцца, нават тыя, якія існавалі раней, зачынены.

Сыплюцца таксама канфіскацыі на радыкальную беларускую прэсу („Наша справа“, „Народны звон“); канфіскуюцца нават соймавыя прамовы і інтэрпэляцыі беларускіх паслоў. Адначасна атрымоўвае ўсялякую грашовую дапамогу чорнасоценная, згодніцкая беларуская прэса. Зноў адноўлена выданьне „Беларускага Слова“, а „Сялянская Ніва“, орган сялянскага саюзу, пачаў выдавацца два разы на тыдзень.

Пры гэткім становішчы ў Заходняй Беларусі, натуральна, што палітыка фашысцкага ўраду мае на мэце, каб ва ўмовах надыходзячага голаду на вёсцы і пагоршаньня матар'яльнага становішча рабочых давесьці масы да роспачы, справацыраваць іх на асобныя выступленьні і прывесьці да крывапусканьня, паставіўшы нарастаючы сялянскі рух у крыві.

Вельмі важна для нас ведаць, што пры гэткім становішчы шырокіх мас Польшчы і асабліва блізкай да Заходняй Беларусі наш рост і ўмацаваньне БССР, далейшае палепшаньне становішча рабочае клясы і сялянства зьяўляецца рэвалюцыянізуючым фактарам для працоўных Польшчы і асабліва Заходняй Беларусі.

Ня толькі радыкальныя газэты, але нават гэткія газэты, як газэта ксяндза Станкевіча (хрысьціянскія дэмакраты) піша аб значных дасягненьнях БССР. Напрыклад, у № 34-м „Бела-

рускае Крыніцы“ ад 21 кастрычніка 1926 г. маецца адказ на запытаньне „Пропадем ли мы“ (прамова ксяндза Станкевіча ў сойме).

„Можа быць гэта і здарылася-б, калі-б мы мелі няшчасьце быць толькі пад урадам Польшчы, але мы не зьмяшчаемся выключна ў межах Польшчы. Мы знаходзімся і па-за межамі Рэчы Паспалітай і там у некаторых умовах знаходзімся ў лепшых умовах, якія нам даюць надзею на будучае“.

„Хоць, мажліва, к вялікаму задзіўленьню большасьці з вас я шмат у чым не хвалю савецкую палітыку, адношуся да яе крытычна, аднак павінен прызнаць з некаторай асьцярожнасьцю, што на культурнай народнай беларускай ніве дасягнуты там вялікія посьпехі. Гаворачы аб гэтым, каб вас тут адьвярозіць (голас: „ксёндз напэўна адьвярозіў, калі-б быў там“). Мажліва, але факт застаецца фактам, што жыцьцё беларускага народу зрушана з месца, што беларускія школы ў Савецкай Беларусі налічваюцца тысячамі. Магу вам паказаць цэлыя кучы савецкіх беларускіх выданьняў. Вы здолееце самі паехаць туды і паглядзець ці папытаць у тых, якія езьдзілі. Наогул, я дзіўлюся, што вы ня хочаце чорнага назваць чорным, а белага—белым“.

„Кур‘ер Віленскі“ (№ 226—канец перадавой) так характэрызуе палітыку савецкага ўраду ў Беларусі:

„Час працуе супроць нас, а гэніяльная палітыка савецкага імпэрыялізму ўмела выкарыстоўвае кожную нашу памылку“..

У другім нумары „Кур‘ер Віленскі“ піша:

„Зусім іншую палітыку ўжывала Савецкая Расія ў Заходняй Беларусі. Самым рашучым чынам Расія прыдушыла ўсе мажлівыя спробы стварэньня якіх-небудзь беларускіх палітычных партый і вядзеньня самастойнай палітычнай дзейнасьці, але ўзамен гэтаму дала шырокія мажлівасьці для культурнай працы, адчыніла беларускі унівэрсытэт, арганізавала Інстытут Беларускай Культуры, стварыла некалькі спэцыяльных школ. У сучасны момант цэлы шэраг палітычных супрацоўнікаў камунізму знайшоў у Савецкай Расіі прыстасаваньне для сваіх сіл. Нават гэткія дзеячы, як Смоліч, які ў свой час арганізоўваў беларускія легіёны на польскім баку, займае сёньня кіруючае становішча ў галіне творчай культурнай працы. Трэба прызнаць, што палітыка Савецкай Расіі ў гэтых адносінах зьяўляецца мудрэйшай за польскую“. Рост і ўмацаваньне радыкальнай арганізацыі „Беларускай Грамады“ (газэта „Кур‘ер Віленскі № 237 ад 13 кастрычніка 1926 г.) тлумачыць так:

„Сучасны рост і посьпех „Грамады“ зьяўляецца вынікам некалькіх першарадных грахоў крэсавай палітыкі незалежнай Польшчы. Першым такім грахом была аддача Расіі Менску і разьдзел Беларусі па рыскаму дагавору. Гэта мы далі баль-

шавіком вялізны козыр у ігры і пазбавілі сябе магчымасьці вядзеньня паступовай фэдэрацыйнай палітыкі ў будучым".

У гэтых словах нашых разумных ворагаў апроч шмат якіх нагавораных палітычных недарэчнасьцяў (савецкі імпэрыялізм і іншых), ёсьць адно важнае прызнаньне вялізарных дасягненьняў БССР ужо цяпер, якія нікому не пасільны, апроч савецкае дзяржавы.

Нашы культурныя сьвяты ў БССР, якія прайшлі на працягу апошніх месяцаў: правядзеньне акадэмічнай канфэрэнцыі па беларускаму правапісу і азбуцы, маючай вялікае значэньне ў справе разьвіцьця беларускай культуры, далучэньне Гомельскай і Рэчыцкай акруг, як вялікі акт нацыянальнае палітыкі нашай партыі і пралетарыяту, пяцігодзьдзе Беларуск. Дзярж. Унівэрсытэту,—гэтыя і шэраг іншых фактаў, якія сьведчаць аб культурным росьце БССР,—усё гэта ўсё больш уплывае ня толькі на працоўных Заходняй Беларусі і Польшчы, а нават на больш нэйтральныя і вагаючыя пласты беларускай інтэлігенцыі за кардонам. Усе гэтыя факты яскрава сьведчаць аб тым, што толькі дыктатура пралетарыяту, толькі пралетарская рэвалюцыя маглі правільна вырашыць нацыяльнае пытаньне ў адносінах да Беларусі і паставіць на шлях шырокага разьвіцьця беларускую культуру.

Якія-ж задачы КПБ у зьвязку з агульным міжнародным становішчам усяго Саюзу ў прыватнасьці, у адносінах да становішча ў Польшчы і Заходняй Беларусі? Яны гэткія-ж як задачы ўсяго Саюзу, усёй УсеКП(б).

КПБ і далей будзе кіраваць справай далейшага росту і разьвіцьця па сацыялістычным шляху БССР. Так, існаваньне і разьвіцьцё БССР усё ў большай меры будзе аказывацца фактарам, рэвалюцыянізуючым масы суседніх нам дзяржаў— Польшчы, Літвы, Літвіі, якія будуць бачыць у БССР і ў Беларусі прыклад таго, як трэба дзейнічаць.

КПБ і далей, побач з гаспадарчай і культурнай працай, павінна рабіць сваю частку працы па лініі ўмацаваньня абароны краіны, узмацненьня Чырвонай арміі, ваенізацыі насельніцтва, бо гэта толькі і можа забясьпечыць нашу палітыку міра і папярэдзіць мажлівыя, наглыя вайсковыя наскокі на нас Польшчы і іншых фашысцкіх урадаў па дырэктыве Англіі.

Мы, КПБ, як і ўся партыя і наша краіна павінны зрабіць усё, каб узьняць грамадзкую думку ў нашай краіне і сярод працоўных заграніцай супроць страшэннага бязьлітаснага тэрору фашысцкай дыктатуру Пілсудзкага і фашыстаў у Літве, супроць комуністаў, супроць працоўных рабочых і сялян Польшчы і Заходняй Беларусі, супроць нават радыкальных, ня толькі палітычных, але і культурных арганізацый. Мы ў КПБ выконваем наш інтэрнацыянальны доўг і ў тым сэнсе, каб растлумачыць працоўным БССР неабходнасьць матэр'-

яльнай дапамогі сялянству Заходняй Беларусі, усё больш падыходзячаму да становішча цяжкага голаду.

Мы, КПБ, павінны будзем і далей усюды казаць аб тым, што рабочым і сялянам Заходняе Беларусі трэба асьцерагацца правакатарскай палітыкі Пілсудзкага, які гатоў зруйнаваць рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі яшчэ да таго моманту, як ён поўнасьцю зьбярэ свае сілы, зьяднаецца з рэвалюцыйным рабочым і сялянскім рухам усёй Польшчы. Наш камуністычны абавязак зрабіць усё, каб перасьцерагчы нашых братоў Заходняй Беларусі ад разрозьненых выступленьняў, каб яны не паддаліся правакатарскай палітыцы фашысцкай дыктатуры Пілсудзкага.

---

**А. Смоліч**

# Да падзей у Заходняй Беларусі

Дзьве зьявы характарызуюць умовы палітычнага і грамадзкага жыцьця Заходняй Беларусі ў мінулым годзе: нястрыманы ўціск польскай уладай беларускага насяленьня і стыхійны рост сялянскага руху і ягэ першай легальнай масавай організацыі—беларускае сялянска-работніцкае грамады. Абедзьве зьявы адбываюцца на фоне гаспадарчага заняпаду, культурнае адсталасьці вёскі і страшэнных зруйнаваньняў ваеннага часу і адбіваюць у сабе саўсім рэльефна і яскрава сутнасьць беларуска-польскіх адносін апошняга часу.

Пад Польшчай знаходзіцца звыш 100 тыс. кв. км. беларускай зямлі. Уся гэтая прастора ўжо здаўна была аблюбована польскімі імпэрыялістычнымі палітыкамі і прызначана пад калёнізацыйны фонд для перасяленьня на яго сялян-палякоў і так званых асаднікаў Польшчы. Пры гэтым польскі ўрад хацеў дасягнуць паслабленьня напору польскага сялянства на маёнткі сваіх паноў у самой Польшчы, а разам з тым новаздабытыя землі з дапамогай ваеннай калёнізацыі мацней зьвязаць з Польшчай. Усё спрыяла гэтаму пляну: насяленьне ў Заходняй Беларусі моцна пастрадала ад вайны, адтуль адных бежанцаў выехала да паўтара мільёны, сялянства беларускае цёмнае і несьвядомае; значная яго частка (каталікі-беларусы) пад уплывам ксяндзоў-палякоў гатовы падтрымліваць польскую палітыку. Перашкоды толькі дзьве: вялікая пролетарская рэвалюцыя на Ўсходзе, уплывы якой пранікаюць праз самыя шчыльныя кардоны, і з другога боку—абуджэньне нацыянальна-рэвалюцыйнага руху сярод самога беларускага сялянства, сярод гэтых шэрых і пакорных мас, дагэтуль такіх ціхіх і паслухмяных.

Адсюль зусім зразумела тая барацьба з рэволюцыйнымі ўплывамі і з нацыянальным адраджэньнем беларусаў, якую

вяла і вядзе буржуазная Польшча. Яны зьяўляюцца пагрозаю самаму існаваньню польскае ўлады над Заходняй Беларусьсю і раскідваюць пляны, якія хціва песьціліся політыкамі буржуазнай Польшчы ад правіцы і эндэкаў да ППС уключна.

Гэтым і тлумачыцца ўпартасьць і зацяжнасьць барацьбы, у якой польскі ўрад не перабірае спосабаў. Сыстэму адміністрацыйнага націску і ўціску ў Заходняй Беларусі ён давёў да нячуваных зьдзекаў з нацыянальнае, грамадзкае і чалавечае годнасьці.

Умовы культурнага жыцьця беларусаў зрабіліся ў шмат разоў горшыя, чым былі пры панаваньні царызму, і могуць быць прыраўнены толькі да ўмоў часу паншчыны. Эконамічнае палажэньне сялянства і ўсяе гаспадаркі краю дайшло да поўнай руіны. Тады як у часы паншчыны пан-прыгоньнік разглядаў сялянства, як жывы інвэнтар свае гаспадаркі, і з гэтае прычыны павінен быў клапаціцца аб яго захаваньні,—сучасны-ж уладар Заходняй Беларусі такіх мэт сабе ні ставіць, наадварот для яго мэтаў аказваецца выгодна фізычнае зьнішчэньне беларускага сялянства, і мы бачым, як у часы павароту „бежанцаў“ на бацькаўшчыну польскія ўрадаўцы стваралі ўмовы для іх масавага выміраньня. Прыціснаная да апошняе вайны нямецкім і царскім расійскім урадам буржуазная Польшча пасьля атрыманьня незалежнасьці імкнецца падзесяцерыць той прыціск, які раней сама адчувала, над народамі, што трапілі пад яе ўладу. Асабліва востра адчуваецца прыціск гэта на масах Заходняе Беларусі.

Сялянства Заходняй Беларусі пераважна сярэдняе і дробнае. Да 400 тысяч гаспадарак маюць зямлі ад 2-х да 20-ці гэктараў (гэктар—9/10 дзесяціны), 65 тысяч гаспадарак менш 2-х гэктараў і толькі 30 тысяч гаспадарак больш 20-ці гэктараў. Шмат дзе вельмі востра адчуваецца малазямельле. Паводле лічбаў статыстыкі здаецца, што яшчэ большае малазямельле павінна быць у самой Польшчы; але там значна лепшыя экономічныя ўмовы для гаспадаркі, значна больш разьвіты рынак на прадукты гаспадаркі і заводзкае перапрацоўкі яе прадуктаў, многа большы процант гарадзкога і наогул неземляробскага насяленьня, густая сетка шляхоў; апроч таго ў найгусьцей заселеных провінцыях Польшчы значна лепшыя глебавыя і кліматычныя ўмовы, чым у Беларусі.

Дворнай зямлі ў Беларусі ёсьць шмат. Пяць тысяч двароў уладаюць 3 з пал. мільлёнамі гэктараў зямлі, але блізка ўсе двары належаць памешчыкам-палякам, якіх польскі ўрад ні за што ня згодзен пакрыўдзіць. І затым зямельная рэформа ў Заходняй Беларусі зьвялася толькі да рэгістрацыі таго продажу дворнай зямлі сялянству па дужа высокіх цэнах, якую двары вялі ўвесь час да вайны самі, дзеля таго, што гаспадарка не давала ім пажаданых зыскаў. Такім спосабам за першыя пяць гадоў існаваньня Польшчы да сялянства ады-

шло ў Заходняй Беларусі ўсяго каля 50 тысяч гэктараў (45 тысяч дзесяцін). Урад ня толькі не дапамагаў беларускім сялянам купляць зямлю, а наадварот, перашкаджаў аж да апошняга часу, імкнучыся сяліць на прадаванай дварамі зямлі польскіх калёністых. Гэта, зразумела, абурала мясцовае сялянства, тым больш, што побач у Савецкай Беларусі сялянства ў выніку рэволюцыі атрымала 1.450 тысяч гэктараў зямлі. Яшчэ большае абурэньне і ненавісьць беларускага сялянства выклікае раздаваньне ўрадам зямлі г. зв. „асаднікам“.

Дзеля полёнізацыі краю ўсе землі, якія належылі расійцам-памешчыкам, а таксама і бежанцам сялянам, што не вярнуліся ў пэўны тэрмін, раздаюцца афіцэрам і салдатам польскай арміі кавалкамі гэктараў па 50 у сярэднім (на лепшых землях 25—30 гэктараў, а ў Палесьсі да 100 гэктараў). Звычайна асаднікі самі на зямлі не гаспадараць, бо ня ўмеюць, або ня хочуць гэтым займацца, і здаюць зямлю ў арэнду мясцовым малазямельным сялянам, у выніку ствараецца тып дробнага памешчыка-чужаеда, які адносіцца да суседняга сялянства яшчэ горш чым абшарнік.

Вельмі цяжка прыходзіцца сялянству ў Заходняй Беларусі з дрэвам. Як дворныя, так і скарбовыя лясы няміласэрна нішчацца і дрэва вывозяцца заграніцу для падтрыманьня польскага гандлёвага балянсу, насяленьне-ж ня мае дрэва ня толькі на будову, а і на апал і мусіць, шукаючы апалу, езьдзіць за дзесяткі вёрст і плаціць непасільныя цэны. Тым часам будынкі шмат дзе за вайну зьнішчаны. Урадавая статыстыка лічыць у Заходняй Беларусі да 550 тысяч зьнішчаных будынкаў і з іх толькі каля паловы адбудованых. На ўсёй прасторы, дзе шоў даўнейшы расійска-нямецкі фронт (Дзьвінск, Баранавічы, Пінск), насяленьне і дагэтуль жыве ў сырых і цёмных зямлянках. Дрэва на адбудову ўлада дае толькі сваім прыхільнікам. Рэшта-ж насяленьня, калі не пасьпела паставіць будынкаў у 1920 г., у часы наступу Чырвонай арміі, дык і дагэтуль застаецца жыць у руінах альбо зямлянках.

Нарэшце вельмі цяжка адбіваюцца на сялянскай гаспадарцы агульныя ўмовы эконамічнага заняпаду ў Заходняй Беларусі, якая дзякуючы штучна выкраеным граніцам апынулася ў тупіку, з перарэзанымі важнейшымі шляхамі зносін і самымі непамыснымі ўмовамі для разьвіцьця прамысловасьці і гандлю. Моцна цісьнуць таксама і падаткі—шмат цяжэйшыя, чым былі да вайны.

Дае сябе моцна адчуваць у Заходняй Беларусі і голад у зьвязку з недародам. Ні ўрад, ні мясцовая ўлада галадаючаму сялянству ніякай дапамогі ня робіць. Бедныкі прадаюць панам свой будучы ўраджай. Увясну становішча беларускіх сялян і бяз таго цяжкае стане зусім нязносным. Становішча сялян пагоршваецца яшчэ і тым, што ўрад бязьлітасна сысквае з іх непасільныя падаткі.

Пад націскам такіх эканамічных абставін і эканамічнай палітыкі польскага ўраду, пасыўнае і маласьвядомае дагэтуль сялянства Заходняй Беларусі добра зразумела патрэбу арганізацыі і самаабароны.

Ужо ў 1920-22 г.г. мы бачым у Заходняй Беларусі моцнае разьвіцьцё беларускага коопэрацыйнага руху. Аднак гэты рух удалося польскаму ўраду пры дапамозе некаторых пэпэсаўскіх коопэратараў задушыць і падпарадкаваць польскай коопэрацыі. За тое ў 1922 годзе ў часе выбараў у сойм, беларускія сялянскія масы даволі згодна галасавалі за беларускіх кандыдатаў, якія неспадзявана атрымалі ў сойме аж 12 мейсц. Нарэшце ў канцы 1925 г. арганізуецца шырокая масавая арганізацыя—беларуская сялянска-работніцкая грамада. З казачнай шыбкасьцю закладаюцца і растуць на вёсках яе гурткі, лік якіх за паўтара года перавысіў тысячу, а лік членаў дайшоў да ста тысяч чалавек. Такіх разьмераў партыі ніколі дагэтуль у Беларусі ня было. Мала таго, у самай Польшчы ні адна з партый ня мае нават блізка такога ліку членаў.

Арганізацыйная ўдача грамады гаворыць перад усім аб немагчыма цяжкіх умовах існаваньня беларускага сялянства і з другога боку яна паказвае, што сялянства гэтае ўжо настолькі палітычна вырасла, што ўсе даўнейшыя ўяўленьні аб ім павінны быць адкінуты. Цяпер яно, пры ўмовах самага цеснага саюзу з пролетарыятам, зможа адыграць вялікую ролю ў гісторыі ня толькі свайго краю, але нават і ўсяе Польшчы.

Сучасны разгром грамады, арышт яе лепшых правадыроў і сотняў найбольш выдатных працаўнікоў ёсьць, бязумоўна, цяжкі ўдар па організацыі і па ўсім беларускім нацыянальна-рэволюцыйным руху на Захадзе. Але ўдар гэты далёка не сьмяртэльны. Калі арыштаваны сотні і калі яшчэ будуць арыштаваны нават тысячы членаў грамады, дык усё-ж гэта толькі малая доля ўсяе організацыі. У Польшчы ня хопіць астрогаў, каб пасадзіць у іх усе жывыя сілы, якія будавалі грамаду і вялі яе працу. А яшчэ важней, што няма тае сілы, якая-б магла згасіць ужо разбуджаную сьвядомасьць масаў.

Цяперашні разгром грамады, аднак, адзначае ў гісторыі змаганьня беларускіх сялян канец першага пэрыоду барацьбы.

Разгром 14-га студзеня зьліквідуе апошнія надзеі на магчымасьць мірнага разьвіцьця польска-беларускіх адносін у рамках сучаснае буржуазнае Польшчы.

Толькі рэволюцыйная барацьба рабочых і сялян Польшчы пад кіраўніцтвам компартыі, толькі ўлада рабочых і сялян прынясе нацыянальнае вызваленьне ўсім прыгнечаным народам Польшчы і толькі тады Заходняя Беларусь зможа зьдзейсьніць свае правы на самаазначэньне.

---

# АПАВЯДАНЬНІ

**Шаранговіч**

## У штабе паўстанцаў

Лес. Стаіць ён моцны, наліты, высокі.

У тым Гатаўскім лесе зямлянка. Зьверху нічога нявідаць. Гладка, зямля, мох, купіны.

А зямлянка—штаб.

Недалёка ў Койданаўскім лесе—така-ж яма была выкапана.

Яма—штаб.

Самыя старыя лясьнікі, каравыя, што з лесам вырасьлі, і тыя няведалі, што таіцца ў лесе.

Адсюль, з нашых штабаў тыя, хто паўстаў супроць шляхецкай улады—партызанскія атрады—атрымоўвалі ўказаньні, сюды паведамлялі аб сваіх перамогах, аб сваіх перашкодах

Тут хавалася наша зброя. А зброі было шмат. Былі ў нас вінтоўкі, рэвальвэры, ручныя гранаты, разрыўныя шашкі, міны...

Усе мы штабныя ў лес прыходзілі апранутыя ў сялянскіх сьвітках і ніхто і непадразумеваў, хто мы такія.

Задаліся мэтаю мы—падарваць з нутры шляхецкую ўладу—занядужыць шляхцічаў—падарваць іх вайсковую дапамогу, аказаць дапамогу наступаючым чырвоным войскам. Першай справай—парашылі зьвязацца з вёскай. Накіравалі мы таварышоў па вёсках, раскідалі яны там лістоўкі, пакідалі на відным месцы агітацыйныя брошуры.

На „раданіцу“ ў Самахвалавічах перад сьвятам усё мястэчка і могілкі ўкрылі нашымі лістоўкамі.

Сяляне ахвотна бралі лістоўкі і цішком перадавалі іх па ўсіх хатах. Лістоўкі заклікалі арганізавацца, паўстаць супроць паноў.

Хутка пачалі мы вярбоўку ў атрады. Гэта наша ідэя знайшла шырокі водгук сярод сялян, асабліва сярод вясковага маладняка.

І раскінуліся нашы атрады па ўсёй Беларусі. Атрадамі паўстанцаў у раёне Менску было організавана 400 чалавек, у Ігумене да 200, у Барысаве 200-250, у Маладэчыне 250. Атрады настолькі разрасьліся, што стала неабходным разьбіць раёны на вучасткі.

І прыступілі мы тады да опэрацыйнай работы: узрываць масты, разьбіраць чыгунку, на польскія абозы нападаць, браць на адкос ашалоны.

Шрубачны ключ, кірка служылі нам аружжам для разбурэньня.

Вось чакаўся прыезд Пілсудзкага ў Менск. Маладэчынскія хлопцы парашылі зьнесьці ашалон Пілсудзкага. Разьнесьлі станцыю Радашковічы, а на станцыі Аляхновічы паставілі свайго стрэлачніка, свайго начальніка, прынялі цягнік, далі пуцёўку, пусьцілі ў тупік, разьбілі кавалерыйскі ўланскі ашалон у дрэбязгі, а самі схаваліся.

Ува ўсіх партызанскіх атрадах пераважвала моладзь. Начальнік лепшага Старадароскага раёну быў комсамолец Перамейчык, селянін вёскі Радуцічы.

Працаваў ён у Смаленску, але захацеў рабіць рэволюцыю ў Беларусі—вярнуць Савецкаю ўладу—і настаяў на сваім, паслалі яго ў Беларусь весьці падпольную працу.

У Старых Дарогах былі вялікія польскія склады зброі. Мы меркавалі ў выпадку наступленьня ўзарваць гэтыя склады ці адняць іх. Цяжкая, небясьпечная справа—пагэтаму і паслалі ў гэты раён сьмельчака Перамейчыка.

Доўга ад яго ня было паведамленьняў. Думалі—згінуў. Аказалася, цэлы месяц прахварэў чорнаю воспаю. І хворы прыехаў да мяне: „Давай працы"! І хворы за працу прыняўся. За адзін месяц стварыў атрад з 200 чалавек. Яму была дадзена дырэктыва: вылучыць дзясяткі і накіраваць іх для папсаваньня жалезнага мосту ў раёне Бабруйск-Асіпавічы і спаліць мост на рэчцы Птычы. Адрэзалі-б тады Бабруйск, з Бабруйску польскія войскі нікуды не змаглі-б адступіць.

А ён зразумеў гэта ўказаньне так, што трэба проста зрабіць паўстаньне і забраць Старыя-Дарогі. Сабраў атрад з вясковых хлапцоў, узброіў усіх, каго вінтоўкай, а каго дубінкай. Мост спаліў, абвясьціў уладу Саветаў у 4 воласьцёх.

Па свайму зразумеў распараджэньне, але не падкачаў. Палякі перапалохаліся Старадубскага паўстаньня і пакуль адцягнулі тры палкі з фронту Бабруйск—Менск для таго, каб ліквідаваць хваляваньні. Жандармэрыя баялася заставацца ў паўстаўшых вёсках. А ў сялян гэта паўстаньне яшчэ больш веры, бадзёрасьці выклікала—яшчэ больш зблізіліся паўстанцы і сяляне.

Пасьля паражэньня Перамыйчык са сваім атрадам стаў хавацца ў Старадароскіх лясох і з лесу ён утвараў напады на абозы, зьбіраў, капіў зброю, абмундыраваньне для чырвоных.

У турме атрымаў я ад яго пісульку, дзе ён запэўнівае, што атрад яго пашоў і што, пры наступленьні нашых чырвоных ён зробіць сваю справу ў тылу: узарве уноў адбудаваны мост—снараджэньне супрацiўніка прыдзе, на самай справе прыдзе, на падмогу наступаючым бальшавікам.

---

Ц. Гартны

# Сымонка-інжынэр

I

Сымонку Кеплю было дзесяць гадкоў ад роду; ён быў старшым дзіцём у сваіх бедных бацькоў, гарбара Андрэя і яго жонкі Луцэі Кепляў... Сымонку любілі і бацька і маці дужа шчыра й крэпка; ды было завошта яго любіць. Сымонка быў хлопчык рэзвы, дасьціпны, заўсёды вясёлы і, галоўнае, паслухмяны да сваіх бацькоў. Ніколі ён не адказваўся выпаўніць бацькава ці матчына даручэньне і ня словам не пярэчыў іх прыказаньням. Ці пашлюць Сымонку ў краму купіць што, ці да суседзяў—што-колечы пазычыць, ці прыкажуць вартаваць хату, пашоўшы самі ў заработкі—Сымонка да дробязі выпаўняе паложаную на яго павіннасьць.

Да ўсіх іншых якасьцяй меў ён і розум ды здольнасьць не па гадох.

За гэта Сымонку бацькі ставілі ў прыклад, калі заходзіла ў іх гутарка аб дзецях. „Наш Сымонка, будзь ён здароў, удаўся хлапчук“, казалі яны.

А між сабою ў вольны час разважалі Андрэй і Луцэя Кеплі так:

— Ведаеш, Луцэя, мы свайго Сымонку вучыцьмем і вучыцьмем, аж пакуль сілы нашае хопіць. Скончыць ніжэйшую школу, пасьля аддамо вышэй, а там яшчэ вышэй і да канца...

— Вядома, што так было-б вельмі добра, каб выстарчыла нашых сіл. Але тое блага, што гэта гатова стацца, нам не пад сілу. Заработкі нашы не вялікія—толькі што пражыць сяк-так хапае...

Луцэя судзіла пасвойму, як і заўсёды, а ў нутры сваім думала: „будзем старацца з усіх сіл“.

II

Мястэчка Ступы, у якім жыў Сымонка з бацькамі й сёстрамі, стаяла пры рэчцы Плаўні. Пачынаючы з пятнаццатага году, яно ўвашло ў.вадакрут вайны і не пазбаўлялася яе ажно да прыходу на Беларусь бальшавікоў. Праз чатыры гады ўсякія страхі абымалі Ступу і ступаўцаў жалезным колам стра-

ляніны, чырвоным полагам пажараў. Забыліся падлічыць, колькі раз пераходзіла мястэчка з рук у рукі: адны прыходзілі—бралі, выдавалі свае законы, пасьля аднекуль зьяўляліся другія—адбіралі ад першых, адмянялі іх законы й парадкі. І кожны раз у гэтых выпадках ішла страляніна, валяліся па вуліцах раненыя і забітыя людзі, стаяў шум, трaскатня. Міжвольна ступаўцы прымірыліся да гэткай сваёй долі. Найбліжэй зрадніліся з неспакоем дзеці. Іх цікаваму задзёру хапала досыць яды, а на дзіцячую чулую душу было чаму ўплысьці. Захапіла ваеннае паветра і Сымонку. Ён часта станавіўся праваднікам у дзіцячых гульнях у вайну. Гэта да таго падабалася Сымонку, што ён і слухаць не хацеў бацькаўскай гутаркі аб інжынэрстве.—Зрабіце з мяне лепш афіцэра і я буду з палякамі ваяваць,—адказваў бацьком Сымонка. Тым болей яго падбівала вайсковасьць, калі бацькі, гутарачы аб забраўшых Ступы і ваколіцы палякаx, праклінaлі іх і чакалі скорага збаўленьня.

Сымонкаў бацька больш сямі месяцаў пры палякаx ня меў работы і два разы быў заарыштованы за лаянку польскіх парадкаў. З вялікімі труднасьцямі прышлося ўсадзіць Сымонку ў школу. „Кепля—бальшавік“, казалі палякі й рабілі ўсякія злачынствы яму. За гэта Сымонкавы бацькі і клялі і лаялі палякаў. Ды не адны бацькі! Сымонка бегаў да таварышоў і таксама чуў, што таварышовы бацькі таксама точаць зубы на „паноў-захопнікаў“. Запала і ў яго чулую дзіцячую душу гарачае пачуцьцё крыўды і помсты да агульнага ворага. І з гэтага часу ў сваіх гульнях з дзяцьмі Сымонка перамяніў характар і выразнасьць дзей, ахрысьціўшы немцаў—палякамі, а расійцаў—чырвонаармейцамі. Кожны раз ішла бойка ў іх між двума гэтымі станамі. Сымонка заўсёды быў начальнікам чырвонаармейцаў. Ён чуў, як бацька цішком паведаў мацеры аб хуткім прыходзе іх у Ступы, і з нецярплівасьцю чакаў. Абы раніца—выходзіў з хаты на вуліцу, узлазіў на шула і глядзеў на ўсход, за рэчку, ці ня йдуць чырвонаармейцы. Сымонка чакаў, што яны прынясуць яго бацьку работу, а дзеля ўсіх—вызваленьне, штосьці вялікае і каштоўнае, бо вельмі ўсімі пажаданае.

— Татачка, ці-ж скора прыдуць чырвонаармейцы—часта пытаўся Сымонка ў бацькі.

— Скора, скора, сынок. Ты толькі маўчы, нябож, не плявузгай дзе ня трэба,—перасьцерагаў бацька.

Сымонка слухаў бацькі—баяўся каму кольвечы казаць пачутае ад яго. Але затое сам-на-сам ні на хвілю ня мог звольніцца ад думкі аб чырвонаармейцах, яны здаваліся яму на кожным кроку. А далей сталі сьніцца. Абы лёг на пасьцель, заплюшчыў вочы і сумеўся, як адразу цэлыя грамады людзей перад ім з песьнямі, са сьцягамі, з падарункамі для ступаўцаў. Уваходзяць у Ступы, праганяюць палякаў, надзяляюць

яго бацькоў, бацькоў Якава, Грышкі і Мікіты і ўсіх, усіх падарункамі звальненьня, гасьцінцам усякім.

Раніца ў раніцу прачынаўся Сымонка вясёлы і здаволены, падбягаў да бацькоў і пераказваў ім свае сны, а скончыўшы расказваць, дадаваў:

— Хай толькі сапраўды прыдуць чырвонаармейцы ў Ступы—дык я разам з імі пайду біць паноў.

Андрэй усьміхаўся, гладзіў Сымонку па галаве і казаў:

— Ваяка мой залаты, рэволюцыянэр мой адважны!

— А вы пойдзеце?—пытаўся Сымонка ў бацькі.

### III

Аднэй раніцай, як раз у сяродку лета, разбудзіў Сымонку гучны стук гармат. Ён сумеўся ад страху і выгукнуў на хату:

— Тата! Мама! Што гэта?

Але ў хаце нікога, апроч сястрыц, ня было. Тады Сымонка хутка начапіў на сябе порткі і кашульку і пабег з хаты. Выбег у двор і жахнуўся: была поўна вуліца войска. Ішлі, ехалі вярхом на конях і на вазох. А дзесь за местам, ля могілак, на адгоне двух-трох вёрстаў ад іх хаты, ішла частая страляніна. Па мястэчку стаяў шолам, як у лесе, як у дні вялікіх кірмашоў. Усё гэта ўзьюшыла Сымонку, прыдало яму бадзёрасьці, імпэту, пацягнула з двара на вуліцу.

— Сымонка-а, куды-і ты прэшся—супыніла хлапчуку маці, запрымеціўшы, куды той бяжыць,—ці ты ашалеў, ці якое ліха? Бачыш, страляніна гэткая, што не давядзі госпад...

— А дзе тата наш?—запытаў Сымонка ў мацеры.

— Тата? Не глядзі на тату... Ён пашоў з цёмнага, дык і цяпер няма. Можа таксама дзе-кольвечы кулю атрымаў.

Пачуўшы гэта ад мацеры, Сымонка больш нічога не сказаў, як уюн порстка шмыгануў з двара і захаваўся ў гушчы чырвонаармейцаў, падвод. . . . . . . .

. . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . .

### IV

Праз некалькі хвілін ён ужо быў у лагу, у густой мяккай траве, на адгоне вёрстаў паўтары ад могілак.

Між кустоў і ўзгоркаў, дзе хаваліся крыжы, ня сьціхалі раздавацца то частыя, то аднаразовыя стрэлы. Паміж імі чуліся людзкія выгукі. Сымонку памарылася, што ў агульным голасе „гура“ адмецен голас яго бацькі. Ён узорыўся ў адну прагаліну, між нізкага густога куста арэшніку і стромага пакату ўзгрудку. Прытуліўшыся шчыльна да зямлі, ляжаў там чалавек і мерыўся з стрэльбы наўкасяк. Палкае выабражэньне

Сымонкі стварыла з чалавека яго бацьку: рудаватая шапка на галаве, кароткі чорны курцік—акурат. Хлапчук нязьмігутна ўзіраўся і ўсё пайней і выразьней адзначаў бацькавы рысы. Сэрца трапятала вострым жаданьнем хутчэй апынуцца каля яго, каб хоць раз стрэліць з ружжа ў пана. Жаданьне гнала Сымонку ўбежкі. Адно, мігцелі белыя ножкі ў высокай мятліцы, путаючыся ў дзяцельніку і сьвірэпе. Сагнуўшы ручкі на востры вугал і падняўшы іх роўна з плячыма, ён рытмічна, як на гімнастыцы, пасоўваў іх то ўзад, то ўперад. Часта сапучы, Сымонка ціха шаптаў адны і тыя словы: „хутчэй-бы дабегчы! хутчэй-бы дабегчы!“

Праз поўгадзіны ён ужо быў на грудку, за якім ляжалі могілкі. У вочкі кінуліся крыжы, жоўты пясок на могілках, бегатня людзей.

— Тата-а! Тата, дзе ты?—гукнуў Сымонка.

Зусім недалечка, як-бы над самым яго вухам, раздаўся гулкі залп; аглушыў Сымонку, ажно зьбіў з ног. Хлапчук упаў, але раптам падняўся і кінуўся ў бок. Знаёмая прагалінка, нібы вынікла з зямлі перад яго вачыма і нявызнанаю сілаю пацягнула Сымонку да сябе.

— Та-та-а!—выгукнуў ён, бягучы і з радасьці разьняў рукі.

Той-жа чалавек, якога ён бачыў здалі ў прагаліне і які выдаваўся Сымонку за бацьку, глядзеў яму насустрач, выставіўшы вінтоўку.

— Тата-а!—пераказаў выгук Сымонка, прабегшы яшчэ некалькі крокаў. І не пасьпеў адсапнуцца, як штосьці грукнула і адначасна моцна стукнула яму ў пах, паваліўшы ніцма на зялёную мураўку. У вушох зазьвінелі кусочкі раструшчанага шкла, а па ўсім целе расплылася цяплыня і санлівая ўтома. У паясьніцы да таго моцна закалола, што Сымонка хапіўся рукою, думаючы, нібы яго хто рэжа. Вочы заплюшчыліся, і як ні тужыўся ён адчыніць іх - ня мог. У вушох стаяў працяжны бразг...

---

Праз нейкі час Сымонка пачуў над сабою чыйсьці голас, які пытаў:

— Хто ты, малы?

— Я... я Андрэяў...

— Чаго ты сюды папаў?

— Тут бацька мой...

Пяцера чалавек з вінтоўкамі—два паўстанцы з мястэчка Ступы, а тры чырвонаармейцы—стаялі над хлапчуком, які шоргаўся ад болю па зямлі, і з бацькаўскаю спагадаю суцяшалі яго. Але Сымонка ня чуў іх слоў—памяць пакідала яго.

Ня чуючы адказу на свае словы, двое стаяўшых каля яго паўстанцаў паднялі Сымонку на рукі і пашлі з ім да блі-

жэйшых кусьцікаў, дзе асьцярожна палажылі яго на зялёную мураўку.

— Ты пабудзь з ім, Сідар, а я пабягу к курганом, пазаву Андрэя; ён павінен быць з левага флангу,—сказаў адзін паўстанец да другога.

Сідар згодліва кіўнуў галавою, узяў на плячо вінтоўку і паціху затупаў каля Сымонкі;—другі хутка, бягом кінуўся праз могілкі да курганоў. Сідар чуў, як ён, адбегшыся мо' на гоні, гукнуў—Андрэ-й! Андрэй—і пахіліўся да хлопчыка, каб зазірнуць яму ў вочы. . . . . . . . . .

„Дарма хлапчук прапаў"!—парашыў сам з сабою Сідар. „Каб карысьць якую зрабіў? Бацьком гора набыў..."

Ён адвярнуўся ў бок курганоў і пільна паглядзеў, зрабіўшы пальцамі казырок над вачыма.

— Ня відаць нікога! Дзе ён дзеўся? Пакінуў тут аднаго...

Сідар зрабіў некалькі крокаў узад і ўперад, адцягнуўшыся ў думках зусім на другія рэчы і выпусьціўшы з галавы Сымонку.

— Сідар, га, Сідар!—раптам перабіў яго роздум нейчы вокліч.

Сідар азірнуўся—то аклікаў яго таварыш.

— Няма, брат, і Андрэя!—матнуў той рукою з нейкім азлабленьнем:—ляжыць, вунь, пад курганом. Кінуўся, кажуць, пярэднім на польскі разьезд і адразу-ж атрымаў кулю...

— Давай панясем да бацькі!—парадзіў Сідар.

Пачапіўшы вінтоўкі цераз плечы, паўстанцы схіліліся над Сымонкам і асьцярожна ўзялі яго на рукі.

— А мо' ён яшчэ не дашоў?

Сідар крануў рукою Сымонкавага лобу, пасьля прылажыў вуха да грудзей.

— Ды ўжо па ўсім. Вечны пакой... Удваіх ляглі за сьвятую справу... Хадзем, брат Сымонка, да бацькі!..

Паўстанцы сьпешна панясьлі няжывога Сымонку к курганом.

---

**М. Нікановіч**

# Адплаціў

## I

Трапечацца чорная сажа ночы і адхіляецца за кусты, ублытаныя водблескам вогнішча. Раскошныя кусты папараці прыкрылі сваімі парасонамі кучу начлежнікаў, а дрэвы-сасоньнік пахмурны і сярдзіты абступіў грамаду іківае сваімі каравымі лапамі-сукамі, злуе...

— Гэй!.. Мікола, сукоў падлажы... Дагарае!..

Мікола, абросшы чорнымі жорсткімі, як чарот, валасамі, з „зладзейскімі“ вачыма павярнуўся набок, падцягнуў аднэй рукой нагавіцы, пазяхнуў, аж сківіцы трэснулі і кінуў у вагонь кучу „пеўнікаў“—сучкоў-смалякоў.

Мятнуўся агонь, спахмурнеў, а потым выскачыў гадзючымі языкамі і затрымцеў на тварах...

Перамяшаліся лапці з галовамі. Сярод узьнятых тарчком кален галава кудлатая паднялася з падпухшымі, заспанымі вачыма... Вусны к носу закасаліся...

— Ты-ы-а!.. Тых... Падла!.. Пусьціў!.. Хоць тапор вешай!..

— Пусьціў, кажаш?..

— Гы-гы-гы...

— Га-га-га!..

Кудлатая галава перавярнула сваю асобу ў другі бок і ў расстаўленыя калені суседа ўпёрла свае боты рудыя...

Воддаль вогнішча за сьвежа зробленым плотам цяжка ўздыхала і глядзела за плот разумнымі вачыма, жуючы жвачку, карова... За ёй другая, трэцяя, чацьвертая.

Ня спалася начлежнікам і баязьлівая, працягнула густая гамонка кралася па-за кустоўю...

— І чорт яго ведае, што за жыцьцё сібернае выдалася... Гаруй, кармі сваёй крывёю камароў ды аваднёў, пухні з галаду і сырасьці сярод балота гэтага... А ўсё яны!—чарвяком запоўзаў Мікола, пыхнуў дымам самасейным угору і лёг на пуза... І згадаць было трудна, ці вочы гарэлі ад агня, ці агонь ад яго вачэй...

— Дармо!..—працадзіў Мікола і цвыркнуў скрозь зубы ў прысак!—дармо!. Мы іх маць іх гэтае... пакажам ім гэтае...

— Што дармо?.. Што дармо?.. Сягоньня пяражыць немагчыма, а назаўтрае і ня думай!.. Скацінка вось гаруе бедная... Каровы малака ані думаюць... Коні—вунь толькі рэбры...

Хапіла за сэрца ўсіх і закоўзаліся па траве. Лес сэрдаваў і шкаматаў верхавінамі, дым сольлю ўеўся ў ваччу.

Потым падняўся адзін на локаць, вытыркнуў шапку аблавухую з-пад папараці, усьміхнуўся сьмехам гіронічным, агледзеў усіх...

— Ну што?! Вы-ж казалі раней, што палякі добра! Вы казалі, што цяпер пойдзе жыцьцё, усяго будзе, дзяшоўка адчыніцца, зямлі дадуць... Ці-ж вы хацелі бальшавікоў?!. Добра цяпер, га?..

Ня ўсьпеў кончыць дзяцюк, як падняўся тлум і гом, кожын стараўся перакрычаць, перагаварыць другога, кожын стараўся выказаць свае думкі, стараўся ўпэўніць усіх у сваіх пачуцьцях, імкненьнях, кожнаму як-бы здавалася: калі ён ня выкажа таго, што ёсьць на сэрцы, дык з прыходам бальшавікоў

(а што яны прыдуць, у гэтым быў кожын селянін пэвен) ня мае права сесьці побач з імі за жыцьцёвым сталом...

— Хто гаварыў?.. Каб таму язык адсох!.. Каб сьвету заўтра ня ўбачыў!..

— Што ты маніш?!. Хіба ад шляхты гэта чуў!..

— Ідзі ты к... разам з тваімі палякамі! . Зладзеі...

— Кравапіўцы!..

— Гы-ы-ы-х! . Т-ттваю маць!..

І лаянка прарвалася. Брудная, ядраная, перасыпаная нясутрыманаю злосьцю, распранулася помста... Ня сутрымаць іх. Гэта прарвалася за ўвесь час сутрыманае, нявыказанае. Ніхто не жадаў сунімацца, ды ніхто і не сунімаў, бо кожын гаварыў.

Стух агонь. Тлелі галавешкі канцамі недагаранамі. Разпо-разу ўсхліпваў хваравіта-пераломаны агонь, асьвячаў на момант разьюшаную грамаду з фантастычнымі рухамі і тапіўся ў прыгаршчах ночы...

Раптам нехта з грамады:

— Браткі!.. Гараць Ямны!..

— Ну?!.

Раўнула грамада, хаця водбліск пажару распаўзаўся і над начлежнікамі па верхавінах хвой.

— Гараць!..

Усхапіліся некаторыя і пабеглі шукаць ямчэйшага месца, каб убачыць пажар, хаця за лесам нічога ўбачыць было немагчыма. Пастух Яначка палез на хвою.

— Ну відаць?.. Хто гарыць?..

— Чорт яго ведае, хто... Не разабраць... На Зьмітра Званцовіча паказвае... О-ё-ёй! Як сьвечка гарыць!..—сядзеў Яначка на хвоі і перадаваў свае ўражаньні у той час, калі на яго ўжо ніхто не зьвяртаў увагі.

Рвуцца дамоў, кідаюцца па палянцы, галаву згубіўшы. Сэрца есца пякучай крыўдай, чэмерам...

— Палякі запалілі! Яны!..

— Гы-ы-ы-х-х!.. Сволачы!

— М-м-м-г-г-г-х!..

Заскрыгіталі зубы. Нехта кулаком каравым рэзнуў каля вогнішча, ды па канцы галавешкі.. Заскакала тая, рассыпаючы вугольлі-зоры...

Змоўклі. Вульканам у кожнага крыўда закіпела. Крыўда на таго, хто злодзеем увабраўся ў ціхае сямейнае шчасьце ціхіх і добрых вяскоўцаў і скамячыў яго ды кінуў пад ногі, на таго, хто за пакорлівасьць, за гатоўнасьць на ўсё, што скажуць—пажарам, бізуном, зьдзекамі і сьмерцю плаціць, крыўда на іх, чужых, зьвяроў-людзей, паноў, якія ў чужой ім хаце гаспадара парабкам сабе зрабілі...

Змоўклі. Сабака завыла, заскігітала каля выгарадзі...

— Сьціхні, каб цябе воўк еў!.. Сьціхні, а то як рэзну!..

Змоўкла і сабака, толькі вецер крапчэў, гуляў у дрэвах ды трапаў закамянелыя твары сялян. Стухла пажарышча.

— Неяк няёмка!.. Падкладзі смолі і падзьмухні...

— Няхай тлее... Весялей...

Нехта нагроб рукамі ўпацёмку „пеўнікаў“ і сухога суччa і ўскінуў на прысак. Потым прыгнуўся і, надзьмуўшы вусны, заросшыя рэдкай рудой шчацінай, заплюшчыў вочы і пачаў старанна дуць пад суччa, прыцiскаючы зьверху рукою, каб ямчэй прыстала яно да вугольля...

Зноў заскакаў агоньчык, падыхнуў дымок.

Сабака, якая падышла к агню, раптам натапырылася і з лемантам кінулася ў гушчарнік к сьцежцы, якую ведалі толькі сяляне.

— Хто-б гэта быў?!.

— Палякі сюды ня зойдуць, бо тут гэтае... Свае, мусіць...

— З вёскі. Пэўна з навінамі...

На ўсякі выпадак усе адхінуліся ад агню і шмыганулі пад папараць, каб ямчэй было драпануць у гушчар.

Сабака замоўкла. Нехта йшоў ў ляпцёх.

Там-сям залатаная шэрая сьвітка, перахвачаная пастронкам, кудзельныя нагавіцы—мокры да кален. З-пад шапкі, якая падобна была на вялізны стары разьедзены жукамі баравік, бегалі спуджана вочы, запаленыя нэрвовым бляскам, сымпатычны твар з правільнымі рысамі быў бляды і яшчэ чорная барада, украінскія вусы з сівізною, рабілі гэты твар яшчэ бялейшым...

— Браткі! Гэта Зьмітрок!..

— Зьмітрок прышоў... Ну, як дома?..

— Палякі выехалі ўжо, ці...

— Хто гарэў?..

Закідалі начлежнікі Зьмітрака пытаньнямі. Адарваныя ад ходу жыцьця, выгнанцы, яны радаваліся кожнаму сьвежаму чалавеку.

Зьмітрок падышоў к агню і сеў. Палажыў сваю бараду на пастаўленыя калені, абхапіў іх рукамі і ўтаропіўся распаленымі вачыма цераз агонь у пацёмкі...

Усе адчулі, што нешта здарылася дрэннае. І маўчалі, якбы адчуваючы кожын за сабой невядомую, але цяжкую перад Зьмітраком віну...

— Ну, Зьмітрок, хто гарэў, мо' мая...

— Кажы, ня муч нас!..

— Я, браткі, згарэў... Усе полымем пашло... Палякі падпалілі... Выбралі-ж такі мяне аднаго з усёй вёскі... Казалі, каб паказаў, дзе ўсе мужчыны з коньмі... Я адмовіўся... і за гэта...

Гаварыў аднатонна надтрэстнутым голасам і не пазіраў нікому ў вочы. Жудасьцю веяла ад яго слоў. І здавалася, што Зьмітрок зараз павінен зьмяніць сваё няёмкае палажэньне, паві-

нен зьмяніць інтонацыю голасу, і тады нешта здарыцца надзвычайнае...

— Палыснула ўсё дабро, вякамі нажытае... Скатавалі мяне... Жабраком пусьцілі...

Сьцішыўся на момант Зьмітрок, а потым:

— Браткі!.. Ды яшчэ-ж і сын мой згарэў... у полымі... у хаце... ня ўсьпеў...

Скруха працяла начлежнікаў. Кінуў Зьмітрок на ўсіх вачыма, усхліпнуў па дзіцячаму, закрыў каравымі, чорнымі ад працы далонямі вочы і, седзячы, заківаўся ўбакі. А потым прарвалась жальба: загаласіў-захныкаў чалавек...

Усім няёмка зрабілася; нібы бачаць яны перад сабой нябожчыка, у сьмерці якога яны ўсе вінаваты...

Сьціх шолам лесу і пагнуў свае здаравенныя рукі, каб уцешыць, аблашчыць гэтага чалавека, людзьмі скрыўджанага. Лес здаецца, гаварыў:

— Суніміся!.. Ня трэба!.. Мы зможам так адплаціць за сваю крыўду, што ш-ш-ш-у-у-г-а-а-а!..—зноў зашумеў, засердаваў лес.

— Стой, Зьмітрок!.. Ня плач!.. Ты-ж ня баба...—загаварыў прыдушана Мікола.—Мы ім, брат, яшчэ гэты... Мала ня будзе!..

— Ціха, Зьміцер... Абы толькі вышлі яны... З кожнага рыла возьмем, цябе адбудуем, цябе не забудзем ніколі!.. А вось ім, сабакам сіберным гэтым, адплацім!.. Аж забарабаніць усё...

— Ядрыт-тваю макаўку, мы такое вясельле справім, што іга!..

— Адплацім!..

— Крывёй!.. Іх-жа крывёй ды іх і напоім...

Крывавы водблеск агоньчыка асьвяціў зноў твары сялян. На іх ляжала пячатка нявымоўнае злосьці, роспачы.

За плячыма недзе стракацеў кулямёт...

II

Шарэе...

Сонца чырвоны касьнік па сінім полі пусьціла, шчэбетам абуджаецца лес маркотны. Спахмурнеў нешта за ноч, мусіць, наслухаўся-падзей нечалавечых, жудасных.

Абудзіліся хлопцы, зноў к агню прыхінуліся: раніцай ядрана, хочацца пагрэцца. Сьпіць Зьміцер, а нэрвова ўздрыгвае, калоціцца целам азябшым.

— Не!.. Даволі!.. Я сягоньня прыпільную!.. Я ім, сукіным сынам...

— Каму гэта?..

— Ды гэтым...—і Мікола, шырока расставіўшы каля агня ногі і адвярнуўшы ўбок галаву, гаварыў сьпяшаўся, пагла-

джваючы сваю сьвітку і нагавіцы, каб часамі не паджуралі:— Мордзе панскай!.. Сабаку аршаўскаму...

— Так, так!.. Гы-гы-гы-ге!.. Так... ты ім узмыль!..

— І ўзмылю!.. Даволі ўжо...

Каровы вышлі з-за загарадзі і разбрыліся па палянцы. Заірзаў недзе ў пушчы конь.

— На астраўку коні?..

— Угм...м...

Адазваўся, ні на кога ня гледзячы, Васіль—малады хлапец, які быў нібы загадчыкам над коньмі... Ён ляжаў дагары, кусаў зубамі травіну і нешта напружнаважка думаў.

— Ведаеш што, дзядзька Мікола, праўду ка'аш... Даволі пакутваць тут у балоце! Нагараваліся ўжо досыць! Ды і яны нас усё роўна за сялян, за людзей ня лічаць... Партызаны... Бач, шукаюць ды баяцца сюды паткнуцца к нам... Бальшавіка баяцца... А нам чаго зяваць?! Бальшавікі тут-жа вось за намі... з вярсту мо', а калі трохі далей...

— З табой удвох мы нічога ня зробім!

— Дык усе мы!.. Усе мы такія, як ты да я...

— А Зьмітрок?..

— Праўда кажаш!..

Паўставалі ўсе, абмыліся ў крыніцы, прыгатаваліся сьнедаць: хто сала пячэ на ражончыку, хто малако ўчарашняе пракіслае з „духам“ бэрляе ложкай чорнай...

І раптам тры дзяўчыны на сьцежцы з бору паказаліся. Убачыўшы начлежнікаў, бягом к агню пусьціліся. Здрыганулася сэрца ў кожнага, кожын ведаў, што нясуць яны нярадасную навіну... Падняўшы галовы і кінуўшы сьнеданьне, усе чакалі, што скажуць дзяўчаты...

Зьмітрок—той не чакаў нічога. Ён ведаў, што для яго навін няма. Гаспадаркі няма. Толькі ў сэрцы помста адна была, яна запаўняла розум, усю істоту Зьмітрака. Гэта займала Зьмітрака.

...Лес калаціўся водгульлем стрэлу. Спачатку адзіночкі.

Кулямёт.

Бомба ўзарвецца.

А потым засакатала, заскрыгітала ўсё, заварылася...

Жудасьць працяла сэрца кожнага, устрапянуліся міжвольна, а разам, запаўняючы ўсё, хвалявалася, рвалася наверх, на волю, на прастор радасьць нявыказаная...

— Пагоняць палякаў-паноў!..

— Бальшавікі прыдуць!..

І ў трывозе, з радасьцю перамешанай, чакалі.

— Дзядзячкі даражэнькія!.. Паны ўсіх дома катуюць... Старых кабет бізунамі сьцягаюць... Насту Рыгораву зусім прыбілі,—яна нешта агрызацца стала з імі... Дзяўчат ловяць...—гвалцяць...

Апавядаюць дзяўчаты, а ў саміх сьлёзы самі сабой па вышыванай сарочцы коцяцца... Уняцца няма як. Паразяўлялі раты мужчыны, у вачох страх залунаў, а потым аганькі злосьці парассыпаліся.

— ...Катуюць... Кажуць, каб вялі іх, дзе ўсе вы, дзе хлопцы нашы... дзе коні... Пагражаюць, што вёску спаляць...

— А злосныя, злосныя, як ваўкі...

— Ох, гора наша, гора!.. Усё роўна там усіх пазабіваюць...

Галасілі ўжо дзяўчаты.

Сьціхлі мужчыны. Гэткая ціша—страшна; яна бывае перад жудаснай навальніцай.

— Мужчыны!.. Дык што-ж гэта будзе? Што-ж мы, бабы?..

— Як гэта можа быць, каб які чорт баб нашых катаваў...

— Дзяцей забіваў!.. Ды гэты...

— Рук мы ня маем?! Зломачкі?..

— Бяры, хто што мае, ды, можа, і туды! Абараняцца!..

Заблішчэлі вочы. Заблішчэлі ў руках сякеры. Разьюшыліся мужчыны.

— Ці мы—ці яны!!!

Раўнулі ўсе, як адзін. І лес сполах узяў, затрымцеў, зашаптаўся на ўсе лады; гамоніць, дзівіцца аб новым жыцьці новых людзей. А сонца шчодрым праменьнем сваім цалуе, песьціць твары іх, сьмяецца золатам на сякерах сялянскіх. У Міколы ў аднэй руцэ сякера, у другой—паядынка.

Хто яго ведае—ці то сякерай, ці то стрэльбай уладаць?..

А страляніна разносіцца па лесе. Ніхто не запрыкмеціў, як Янчка, засопшыся, прылапацеў да сялян.

— Хлопцы!..—не зважаючы на тое, што кожын мужчына тут яму ў бацькі гадзіцца, крыкнуў Янчка. Ня было калі разьбірацца ў старшынстве.—Палякі ў лесе... Сваімі вачыма бачыў... Бягуць... Па адным...

Замітусіліся ў грамадзе, нібы спужаліся. А потым...

— Гэй, хлопцы, нечага чакаць, калі так!.. За мной!.. Абводзячы ўсіх запалёнымі вачыма, стаўшы ва ўвесь рост, гукнуў Зьмітрок, патрасаючы ў руцэ сякераю.

Ужо ніхто ня думаў ні аб чым. Перад вачыма стаялі толькі яны, агідныя, страшныя... Гэтым напоўнена была ўся галава кожнага.

Помста!..

Махнулі ў гушчарняк у кірунку к дому. Адны дзяўчаты асталіся каля вогнішча. Ім ня было куды ісьці: дома страх, у лесе з-за кожнага дрэва глядзела сьмерць шклянымі вачыма.

Паселі. Прыслухоўваюцца к калатніне, к надзвычайным гукам лесу...

А Зьмітрок, у вагульным, раскінутым ланцугу, стаяў за вялікай, аб'ехаўшай да зямлі сваім суччам, елкай з сякерай напагатове.

Чакаў ненавісных гасьцей.

А з няпрывычкі рука трымцела, сэрца то цішэй, то мацней калоціцца:

— Цюк... цюк... цюк...

Здаецца, калышуцца грудзі з сьвіткай. Кожын няясны шолах здаецца крокам паляцкім...

А за лесам, там у сваёй вёсцы, кулямёт сакоча. Сьціх потым. Сыплюцца ўжо рэдкія стрэлы ў беспарадку.

— Хрусь! Хрусь!

Ломіцца сухое сучча. Бяжыць нехта, сапе.

Яшчэ мацней застукала сэрца ў Зьмітрака, крапчэй сьціснула рука сякеру.

Трэба трымаць яе добра—яна ня здрадзіць, яна адплоціць!

Зірнуў, прыгнуўшыся, Зьмітрок скрозь лахматае сучча елкі і... спазнаў яго... пана.

Тыя-ж сьвярдзёлкам упіваючыяся вочы, той-жа рабы, брудны твар, мундзір і „ожэл"... Спазнаў яго Зьмітрок. Гэта той, што прыходзіў к яму, той, што першы бізуном так балюча рэзнуў па галаве, той, што першы запалку сунуў у страху саламяную... Трэба-ж гэтак сустрэцца! Бяжыць проста на яго; у руцэ карабін.

Спачатку замуціліся вочы Зьмітрака і ў галаве шумам баравым загуло, а потым і ня помніць добра Зьмітрок, як ён сякеру чамусь перавярнуў: абухом зажадалася рэзнуць... Крыві спужаўся—ня йначай!

Ужо раўнуецца паляк з Зьмітраком, крануў лапы елкі... Не запрыкмеціў пан.

— Р-р-р-а-з!..

Навотмаш пальнуў Зьмітрок у самы лоб панскі. Ні слова ня рэкнуў ён і грузна адваліўся назад... Пастаяў крыху Зьмітрок, апусьціўшы тапор. Сэрца як ня вырвацца хоча. З няпрывычкі. А потым прысеў на каленцы і, адхінуўшы сучча, глянуў. Паляк, раскінуўшы рукі, ляжаў ужо мёртвы.

Падпоўз. Вырваў сілай з халадзеючай рукі карабін, зьняў патронташ. Як устаў, дык нагой кавярнуў убок, паракаціў ніц...

— Сабаку і сьмерць сабача! Вот, маць твая дыхала, атрымаў!.. Гэта за дабро, за скарб мой!..

І адвярнуўся. Зноў стаў на сваё месца: нельга сыходзіць, каб не папсаваць справы.

Агледзеў карабін. Набіт, як сьлед.

— Але што лепей цяпер: карабін ці сякера?—мільганула думка ў галаве.—Не! Карабінам потым, ня варта даваць

стрэлу—не пабягуць тады сюды палякі... Трусы гэтакія! А трэба, каб усе хлопцы нажылі карабіны. Тады карабіны пусьцім у ход.

І, перакінуўшы за плечы карабін, усыпаўшы ў кішэні сьвіткі патроны, Зьмітрок зноў стаяў з сякарай на варце...

Але падумаў.

— Які-ж ка мне дурань прыбяжыць, калі перада мной ужо адзін ляжыць?!.

Схапіўшы за ногі, ёмка і скора Зьмітрок адвалок у гушчарняк забітага ворага.

Сусед па варце, Мікола, ціха кінуў:

— Маладзец, Зьмітрок! Палажыў аднаго?!

— Палажыў!..

Неўзабаве часта ўжо пачалі хрустаць рэшта мужчын уцякаючых ворагаў. Зьмітрок стаяў і дрыжэў ад радасьці...

Па ланцузе пачуліся стрэлы. Нечага было трымаць сякеру; яна ўжо мала, ато і зусім ня дасьць карысьці. Трэба брацца за карабін. І Зьмітрок заткнуў ззаду за пастронак сваю сякеру. З-за сьпіны яго дастаў, агледзеў.

— Ня міну ніводнага!

І трэба было верыць, бо ў імпэрыялістычную вайну Зьмітрок быў адмысловы стралок, а цяпер трэба яшчэ лепш падцягнуцца: цяпер Зьмітрок добра ведае, каго ён бароніць, стоячы ў гэты час з карабінам у руках за елкай.

Часьцей стрэлы каціліся ў лесе. У вёсцы—ціш ужо.

Асалапеўшы і пакідаўшы карабіны, бягуць яны—ворагі Зьмітрака і ўсіх такіх, як Зьмітрок, лапцюжнікаў.

Чорт ведае, як біць іх бязбройных, але Зьмітрок не такі...

— Адплата!..

І цэлка браў іх на мушку. Скаціў каля дзесятка.

...І заціхла...

— Хлопцы!.. За мной!..—раўнуў на ўвесь лес Зьмітрок і сам зьдзівіўся сваёй харобрасьці. Усе рынуліся ўпярод, к вёсцы.

Дзе лес радзее, у гаі, яшчэ заляглі яны, адстрэльвацца пачалі, але дарэмна. Ужо не страляў, а прыкладам біў іх галовы Зьмітрок...

Зьнішчылі...

Вось і вёска на ўзгорку глядзіць уніз к лесу. Але што гэта?..

...Яскрава-чырвоны з залочанымі літарамі сьцяг палошчацца ў паветры на вуліцы, палошчацца ў дыямэнтных праменьнях сонца... Людзі нейкія на конях, непадобныя да палякаў... Мітусяцца шапкі чырвоныя...

А воодаль бягуць з пералеску сяляне, бягуць і крычаць:

— Гу-у-у-р-а-а-а!..

— Бальшавікі!.. Бальшавікі!..

Зьмікіціў Зьмітрок. Нявымоўнай, нязьмернай радасьцю сэрца працялося, у нутро, здаецца, новая, маладая, шматжыцьцёвая сіла ўлілася... Азірнуўся на сваіх сяброў—яны такія-ж.

— Браточкі! Гэта-ж яны... Дарагія... Бальшавікі!.. Браточкі!..

І раптоўна, схапіўшы ў абоймы Міколу, стаў цалаваць яго.

На вачох у Міколы сьлёзы забуялі. Але гэта была сьлёзы радасьці...

— Кгхе!.. Братка, праўда, сьвята сягоньня... Вялікдзень хяровы перад сягонешнім... Я брат, пайду бабе скажу, каб яна гэты...

І ўцёр каравымі пальцамі вочы Мікола.

Васіль, той, падняўшы рукою карабін, заскакаў каля грамады.

Ня ведаюць, як дашлі сяляне ў сваю вёску. Але помняць добра і век не забудуць, як чырвонаармейцы, абступіўшы вакол усёй узброенай чарады, з радасным сьмехам казалі:

— Во якія партызаны!..

— Во якія бальшавікі!..

— Малайцы сяляне, вы нам дапамаглі... Мы чулі, як вы іх там лушчылі... Падзяка вам чырвонаармейская!..

І захапіліся радасьцю ўсе, ап'янелі... Цалаваліся сяляне з чырвонаармейцамі, з сьлязьмі і сьмехам на вуснах...

А чырвонаармейцы, як родныя браты, цалавалі чорных ад дыму і гразі, каравых сялян-партызан, усьміхаліся.

Як даведаўся камандзір аб падзеях усіх, што паны зрабілі з Зьмітраком і як ён ім адплаціў за гэта, падышоў к яму і з шчырым сэрцам руку паціснуў, за плечы ўзяў, трасянуў яго...

— Баявая табе бацька, удзячнасьць! Ты варт насіць імя грамадзяніна Савецкай Рэспублікі. Эх, больш-бы такіх!..

А Зьмітрок толькі плакаў ад радасьці: сэрца слабее...

І здалося:

Што сьвята зьявілася сягоньня вялікае, надзвычайнае, шчасьлівае, што сонца засьмяялася сьмехам агніста-залатым, ярчэй засьвяціла, што птушкі запелі, лес зашаптаў інач, верхавінамі заскакаў, што вуліца пашырэла, вёска вадой крынічнай умылася, ахарошылася, што людзі, радасьцю нязьведанай натоўпілася, памыўшыся, абчысьціўшыся жывой вадой вызваленьня ад прыгону ненавіснага...

Але-ж ці здалося?..

Не. Гэта была праўда.

---

**Олікер**

# Камэра № 13

*(Комсамольцы ў Менскай турме)*

Пусты тратуар перад Сярпухоўскай 5, далёка яго абыходзяць падарожнікі—там „дэфэнзыва“.

Прывялі мяне туды. Паставілі тварам да сьценкі—„стой“ і не паварачвайся. А тут убачыў сваіх: Бампі, Кэйліна, хочацца пагутарыць з імі праведаць, як ўсё гэта здарылася, а нельга. Салдат ашчаціўся „багнетам“ і злосна пакрыквае.

Прайшла гадзіна.

Аднак прыстаўлены да нас салдат аказаўся не з раўнівых абаронцаў „айчызны“. Як толькі афіцэр выходзіў, мы ўсе зьбіваліся ў кучу і пачыналі размаўляць, распытваць адзін у другога. Але не на доўга, страмглаў кідаліся мы на месцы, пачуўшы шагі афіцэра.

Прыходзілі лашчаныя афіцэры,—бліскучыя боты, манoклі, разглядвалі нас, насьміхаліся...

Вечарам прышоў сам „шэф“. Абышоў усіх, пытаў імены, прозьвішчы. І пасыпалася самая адборная кляцьба.

* * *

Убягае жандар, выклікае:

— Хто тут Мядзьведзяў?

— Ніхто не адзываецца.

Праз паўгадзіны зноў.

— Мядзьведзяў, выходзь!

І так некалькі раз.

— Тваё прозьвішча як?

— Олікер.

— Пойдзем,

Увялі ў вялікі пакой. Падвялі да століку і вытнулі кулакамі па твару. А ў пакоі паненкі, афіцэры глядзяць, насьмейваюцца.

Скрозь пялёнку я адчуў, што абвясьцілі адпачынак на 15 хвілін.

А для таго, каб „адпачнуць“, увялі ў „габінэт“, маленькі, брудны, уборная—дзе ні стаць, ні сесьці.

Прывялі да „самага“ Красуцкага. Тут ужо зусім іншае. Шэф пачаў па „добраму“.

— Ты-ж яшчэ зусім маленькі... ня бойся прызнацца... нам ўсё вядома... мы цябе да хаты...

Маўчу.

Шэф „дзейнічае“ так, каб не засталося сьлядоў ад удараў. Наском лакіраванага боту б‘е па касьці нагі. Б‘е на працягу поўгадзіны.

Маўчу.

— Вазьмеце яго ў „габінэт“.

Праз 15 хвілін загад. „Выходзь палуднаваць!“

Але замест полудня—выкручваюць рукі, сьціскаюць галаву рэмнем...

— У апошні раз, абдумай.

Парашыў „змайстрыць“ паказаньне.

— Беспрацоўныя, служачы, меў патрэбу ў заработку... прапанавалі раскідаць праклямацыі... за грошы... я згадзіўся.

— А хто табе праклямацыі даваў.

— Хто яшчэ раскідваў?

Блытаўся ў адказах, але не выдаю.

Пытаньні падмацоўваюцца ўдарамі ў твар, у галаву. Толькі праз дзьве гадзіны адпускаюць. Аказваецца, у гэты час дапрашвалі Кэйліна, Бампі і іншых.

Ноччу павялі нас у турму.

* * *

Прывялі нас у „Карантын“ (часовая камэра), адкуль разьмяшчалі. Камэра з удушлівым пахам згружаных цел. На два вакны і 30 нар там зьмяшчалася 86 чалавек. Уночы спалі мы —6 чалавек у папярок двух ложкаў. Падлога пад нарамі была ўслана людзьмі, і крочылі па целах.

У „Карантыне“ ўлада, у залежнасьці ад большасьці камэры, то пераходзіла ва ўладаньне крымінальных, то пападала ў рукі палітычных.

Калі нас прывялі, улада была ў крымінальных. Пагэтаму нам і прышлося адыграць некалькі „гульняў“, якія скончыліся для нас няўдала.

Рабілася гэта не з ненавіджаньнем да „палітычных“, ніколькі, нават, наадварот, „палітычныя“ карысталіся, любоўю.

Але пад канец мы так асвойчыліся, што набылі нават некаторы аўтарыт. „Падаяньне“ (турэмны выраз—пасылка лістоў з гораду) мы падзялялі з крымінальнымі.

* * *

Прывялі да нас правакатара, Яшку Розэншайна.

Але яго пазналі.

Ноччу крымінальнікі наладзілі „вэласыпэд“. Заклалі паперку паміж пальцамі ног і падпалілі. Ён праснуўся і ад болі стаў адважна паднімаць ногі, быццам езьдзіць на вэласыпэдзе.

Раніцай ня стрымаў сябе Левін (з саюзу мэталістых) і вытнуў яму па фізыі...

Дзяжурны надзорца зараз-жа пад моцны сьмех выпусьціў яго.

* * *

Нас разьмясьцілі па камэрам.

* * *

Набліжалася першае мая.

Сталі згаварвацца камэры, як правесьці сьвята. Праз цырульніка (хадзіў па ўсіх камэрах) перадалі пісульку наверх.

Парашылі ўзяць чырвонае ў пятлічкі. Рыхтавалі хор. Умовіліся, што напярэдадні першага мая ўвечары расьпяваць па ўсіх камэрах Інтэрнацыянал і рэволюцыйныя песьні.

Цэлы месяц рыхтаваліся. І напярэдадні сьвята ва ўсіх вокнах запалілі сьвечкі. Зацягнулі „Паўстань, праклятцьцем катаваны“.

На шпацыр мы вышлі з банцікамі, але „грамафон“ (надзорца, які сачыў за шпацырам) стаў іх зрываць.

* * *

Пашлі аднолькавыя дні. Хіба часам яны ўбіраліся вобыскам ці якой небудзь надаеўшай турэмнай „гульнёй“.

Напісалі ў „Работнік“ і „Арбэйтэр Цайтунг“ ліст аб пабоішчах. У выніку прыехала вялікая камісія з сойму, усё аглядзела і толькі.

---

**І. М.**

# На камароўскім полі

*(Апавяданьне старога рабочага)*

Гэта было пры паляках. Загналі нас тады, не давалі зьбірацца.

Сяджу я гэта так у сябе дома, на Камароўцы. Раптам— чую з вуліцы даносіцца шум, крыкі: Я выскачыў на вуліцу— паглядзець у чым справа.

А што ўбачыў, таго не забуду.

12 маладых хлапцоў—амаль дзеці. Яны ішлі па два і ланцугамі былі скуты адзін з другім.

За імі ступалі „жалнежы‘, і павольна рухаліся аўтамобілі, напоўненыя афіцэрамі.

А ззаду жудасна галасіла жанчына. „Брат мой, Аляксей, куды цябе каты вядуць!“ Бегла за імі баба, пакуль не зваліўся на яе цяжкі прыклад.

Але страшней гэтых крыкаў быў спакой засуджаных. Па дарозе яны з сябе здымалі вопратку, шынэлі і аддавалі падарожным. „На вошта гэта нам, усё роўна паміраць“.

Правільна дзіваваліся вылашчаныя афіцэры сьмеласьці нашых партызан, перашэптваліся ў аўтамабілях.

А нашы сэрцы трывожна дрыжалі, боль зьмяшалася з гордасьцю. „Так, так, браточкі, пакажэце як нашы паміраюць“.

А калі падвялі да ямы моцна забіліся сэрцы ў сотках грудзей—але ня дрогнулі партызаны.

Проста сталі яны тварам для ямы—12 маладых, моцных, як тонкія бярозкі, сталі на краю ямы.

Доўгі прысуд.

Страляць!

Падалі тварамі ў яму, але ня сразу ўсе палі, кепска стралялі пазнанчыкі. Услужлівы „жаўнеж“ праткнуў яшчэ каго патрабавалася штыком.

Насьміхаліся потым над целамі байцоў, кавыралі, доўга кавыралі іх штыкамі.

Але баяліся ўлады, што прыдуць адпомсьціць за іх.

І доўга, шмат дзён і начэй стаялі на тым месцы людзі з аружжам і грозна выклікалі:

Хто ідзе!

---

**Р. Мурашка**

# Каваль Максім

## I

Бура страшыдлам-марой надвячоркам у Асінаўцы разгулялася. Асабліва ў канцы ёй лахва: з усёй моцы хапае і цісьне, гне да зямлі карчакаватыя старыя дубы і вязы. Дужа гуляе, моцна гамоніць. Але часам стараецца нешта буру перагучэць, паказаць быццам хоча, што моцнае і яно.

Гэта каваль Максім са сваім цяжкім молатам, што так лёгка ўзьлятае і апускаецца на чырвона-гарачыя грудзі жалезныя.

Так заўсёды бывае ў маленькай Максімавай кузьні, складзенай з трухлявых бярвён старэнькае хаты. У буру заўжды стукаціць мацней молат, а запэцканы вугальлём твар Максімаў робіцца пруткa-сталёвым, як тая сталь, што гартуе ў карытцы ў кутку ён.

Сёньня молат яго стукаціць яшчэ мацней і таму, што ён хоча кончыць плужок Юрку Голіку. Юрка і сам прышоў у кузьню пасабляць Максіму. Вось таму жвава так і перaклікаюцца два малаты. Адзін малы фунтаў на дзесяць, а другі мо' і паўпуда заважыць. Першы пад сілу якраз будзе Юрку, а другога Максім не дае нікому, бо валодаць ім толькі ён можа.

Круцяць і плешчуць жалеза наясьненае малаты моцналобыя. З грудзей Максімавых вылятае толькі цяжкае з ударамі молату ў тахту:

— Га-а-ах, га-а-х...

А бура нібы стараецца перагучэць, перасіліць гаворку сталёвую двух малатоў. Хутка заціхлі яны. Запыхкаў, задзьмуў у горане мех.

— Трэба выйсьці зірнуць на надвор'е.

Гэта Юрка гаворыць танклявым такім галаском.

— Выйдзі, брат Юрачка, выйдзі, зірні!

Ніхто яго ў вёсцы іначай і ня кліча, як Юрачка: „Юрачка, дай", „Юрачка, на", Юрачка, пасоб", „Юрачка-дурань", „Юрачка—сякі-такі". Усё—Юрачка. А Юрачка заўсёды сагнуты, маленькі такі, пакорліва адказвае: „добра". Крыўдзяць яго часта, кпіны строяць нярэдка, а для яго ўсё добра. Ні на вошта ня скардзіцца Юрачка Голік.

Да яго асаблівую жаласьлівасьць мае Максім. Затым ён і працуе так позна. Каб якому-небудзь Тарасу Махрачу—ніколі, ні за якія грошы ня стаў-бы рабіць дасюль. О, Тарас на кожнага глядзіць зьверху ўніз. Ходзіць пабудзёнку ў адных ботах, а па сьвятах—у другіх. А ў Юрачкі—адны лапці і на будні і на сьвяты.

У прачыненыя дзьверы ўскочыла—завіхрылася бура.

Яшчэ больш зацьвярдзеў-загартаваўся твар Максіма. Пад скураю шчок заскакалі, забегалі гургункі. У дрыжачым сьвятле маленькае лямпы ён страшным здаваўся.

— Паглядзі толькі... нібы ў тую ноч...

Прашаптаў ціха і з жорсткасьцю мехам закалыхаў, заскрыгатаўшы зубамі.

Прышоў Юрка.

— Ну, як надвор'е? Упадабала?

— А братачка-ж ты мой, што ў магілу папаў—так цёмна. Вочы на кончыкі пальцаў залазяць. Анінюсенькі ня відаць нічога, вось надвор'е! А бура, прыслухайся, усхліпвае, галосіць, нібы па нябошчыку, а то засьвішча сьвістуном, зараз зарагоча вар'ятам—аж жудасна робіцца!

— Жудасна... Гэта што! Ты такое буры мусіць ніколі ня ўбачыш, як я бачыў.

Вочы яго ўставіліся ў цёмны кут, нібы там бачыў ён тую буру, нібы яна ўваскрасала там.

— Паслухай вось,—цьвёрда сказаў ён.—Служыў я на моры, як забралі ў салдаты мяне. Адзін раз паехалі ў вучэбнае плаваньне. Было яснае надвор'е. А на другі дзень невядома адкуль наляцеў рэзкі ветрык. Пачалі выпаўзаць адна за другою з-за далёкага небасхілу чорныя хмары. Вецер мацнеў. Вада хлюпала з рокатам, шумам каля бартоў карабля. Хвалявала мора. Усё вышэй і вышэй уздымалася вада, круцілася, разьбягалася, мылася ў белым шуме, расступалася, чорным бяздоньнем пужала. Наш крэйсэр спатыкаўся аб белыя грабянцы хваль, куляўся з высокай гары ў страшны ніз. З вечарам хмары заслалі ўсё неба, і стала цёмна, як сёньня

вось. Нас было некалькі караблёў—эскадра, як кажуць. У цемры іх усе параскідала куды каторы. Зрэдку відаць дзе-ні-дзе былі аганькі далёка-далёка на моры. Гэта ліхтары пазапальвалі на караблёх, каб ня згубіцца адзін ад аднаго. Пашоў дождж усё часьцей і часьцей, і потым—паліў, як з вядра. Камандзір карабля (капітан) з камандзірскага месца ўзіраўся праз бінокль удаль. Што яму ўвашло тады ў галаву — я ня ведаю, але толькі загадвае зараз-жа шлюпку спусьціць на ваду і аднаму з афіцэраў на чале каманды з шасьцёх матросаў ехаць на флагманскі карабель (гэта самы большы, на якім едзе начальнік эскадры).

— У такую буру, у дождж?!

— Так. Прыходзіць гэта ў каюту афіцэр. Ніхто ня спаў, бо нельга было—так калыхала—як калыска гайдаўся карабель. Афіцэр, сьмешна расставіўшы ногі, выклікаў пяцёх чалавек, а ў самым канцы і мяне. А праз дзесяць хвілін чапляючыся за снасьці, мы былі ўжо на вялікай палубе. Там зараз каманда: „Па аднаму ў шлюпку, садзісь!“ Самага злоснага афіцэра выбраў капітан; надта ня любілі матросы яго, але паехалі.

Хоць і маладым матросам я быў, але добра ўжо ведаў мора, прывык не палохацца яго. Усё-ж такі, як толькі адплылі на якое паўвярсты, страх залез у душу. Вадзяныя вялізарныя горы з шумам куляліся праз нашу лодачку. На што ўжо прывычныя матросы старыя, а і тых страх апанаваў, і адзін з іх, які ўжо служыў пятнаццаць год, зьвярнуўся да афіцэра з просьбай вярнуцца назад. Гад афіцэр быў з графоў ці князёў там нейкіх. Як крыкне на Ваську:

— Маўчаць! У карцар захацеў?

— Паволі, паволі,—буркнуў пад нос той.

— А, ты яшчэ агрызацца! Недысцыплінаванасьць!

— Р-раз...

Важкі кулак сьвіснуў у галаву матросу.

Душа-хлопец быў Васька, але абразы такой ня мог сьцярпець. Кінуўся на афіцэра. Некалькі чалавек з ім таксама Праз дзьве хвіліны афіцэр ляжаў нежывы на дне шлюпкі. Задушылі ката. Потым—кароткая нарада, і мы парашылі вярнуцца назад. Усе далі абяцаньне не казаць праўды, бо за гэта—сьмерць. Узяўся сам Васька расказаць капітану больш-менш праўдзівую гісторыю, а афіцэра, завязаўшы ў некалькі шынэляў, кінулі ў мора. Паламаўшы добрую палову вёсел наўмысьля, павярнулі назад. Намучыліся тады мы, але-ж прышвартвалі да карабля ўжо бяз усякіх здарэньняў.

— Ну, і што-ж было?

— Эх, было... Расказалі капітану, што на якой поўдарозе вялізарным шквалам перавярнула шлюпку, паламаўшы палову вёсел, і, як толькі вышкрабаліся ды селі зноў у шлюп-

ку, паміж нас ня было ўжо „іх благародзьдзя“. Доўга тыкаў кожнаму ў нос кулака пагражаў карцарам за тое, што не знашлі.

— І так прашло?

— Дзе там! Слухай, што далей было!

— Бурную ноч правялі, не зачыніўшы ні на хвіліну вачэй,—апавядаў далей Максім.—Надасьветкам бура ўгаманілася трохі. Прыляглі адпачыць... Каюта занурылася ў сон. Чую—штурхае нехта пад бок. Ускочыў. Усе надзяваліся шпарка і выходзілі на палубу. Мора яшчэ хвалявалася сярдзіта, але карабля ня калыхала так, як раней. З-за чыстага блакітнага небасхілу выплывала залацістае сонца. „Чаму так рана ўзбудзілі“, пыталіся ўсе. Ніхто нічога ня ведаў. Выстраіліся, Пахмуры прышоў капітан. Ня вітаючыся, нешта на вуха шапнуў боцману і выклікае Ваську. „А ну, рапартуй, ды папраўдзе, што ўчора было“. Пачаў той рапартаваць па ўчарашняму, як з афіцэрскай каюты адчыняюцца дзьверы. Задам выходзіць чамусьці боцман, а за ім матросы з чужога карабля нешта нясуць. Прынясьлі і паклалі перад капітанам. „Дык кажаш, у мора сарвала яго? Машэньнік, зірні ў вочы яму і скажы праўду“. Боцман адкінуў пакрывала і ўсе ўбачылі нашага афіцэра. Упарта гаварыў сваё Васька. Пачаргова выклікаў усіх капітан. Усе казалі адно. „А чаго царапіны на твары і на шыі мярцьвяка“? Ніхто не адказваў на гэта. „Пад суд мярзаўцаў, у карцар“. Пасадзілі. Праз тыдзень на тым-жа караблі суд.

Кожны трымаўся цьвёрда, але калі пагразілі карай сьмерці ўсім, дык тады Васька ўсё расказаў, як было.

— Што-ж суд прысудзіў?

— О, каты! Свае-ж хлопцы ў той дзень расстралялі Ваську, а астатніх нас на два гады ў турму запраторалі. Вось за што і ў турме я сядзеў.

Нічога не сказаў Юрачка, толькі дзіўна зірнуў на Максіма.

— І вось заўжды, як толькі бушуе бура, успамінаецца мне тая ноч, успамінаецца Васька... Ну, сёньня... бура... цёмныя хмары абляглі ўсё неба залозамі. Я ўжо параўнаў — тая ноч якраз сьведчыць аб гэтым... У жыцьці, брат, таксама. Ты вось ходзіш у лапцёх, а ці спагадае табе калі солтыс, жандар, войт?

— Дзе спагадае, братка Максімка.

— Дык, вось, хадзі ў лапцёх, а той, хто ходзіць у чобатах, будзе лупіць з цябе тры скуры, каб ты нават і ня думаў аб тым, што табе таксама трэба такія чобаты.

— Скажы мне, Максімка,—раптам спытаўся ён,—няўжо ніякай палёгкі няма табе ад палякаў?

— Няма.

— Ня-а-а-ма? Твой-жа брат Сідар солтысам. Чаму-ж гэта так?

— Няма і ня трэба. Палёгкі ад катаў і зладзюг, што мучаць народ, мне не патрэбна.

— Ты выбач мяне, братка, але скажы—чаму ты дрэнна жывеш з братам так, за што ты ня любіш яго?

— Чаму, за што? За ўсе яго „палёгкі" такім вось лапцюжнікам, як ты, Юрка, за добрую верную службу паном. Ен... ты апасайся яго, ніколі нічога не кажы пры ім...

Сагнуўся і без таго маленькі Юрка, надта спужаўся.

— Ек служыць у патайной жандармэрыі. З-за яго арыштавалі і засадзілі ў турму Язэпа. Мала таго, што ня люблю я яго, я ўзьненавідзіў яго... Зашрубоўвай вось тут, а потым тут. Ну, гатоў твой плужок, Юрка, — дзелавіта скончыў Максім.

— Сто-ой... тут... ту-у-ут прывязвай.

Пад прысьвістаньні, гул і рогат буры ў кузьню ўкаціўся Сідар з жандарам.

— Вось і каваль табе, — п'яным голасам праказаў Сідар.

— Слухай!.. Ты мусіш—ік—падкоўваць мне коня... ік...

— Цяпер?

— Так, тэраз мусіш.

— Цяпер позна і цёмна—няма як каваць.

— Не размавяць... ік... прэнтко!..

— Максім, прысту... гік... да работы, а то дрэнна будзе,

— Што? Мяне пужаць! Дык знарок ня буду. Каб якому-небудзь такому, як Юрка,—зрабіў-бы, а сваім ворагам—ні за якія грошы.

— Цо мувіш... ік... з курвы сын? Нехцэш. Ото я зараз прымушу цябе... ік... лайдак... большэвіцы.

Жандар п'янымі пальцамі палез да кабуры рэвальвэру.

— Да зброі, пан? Ха-ха-ха-ха!

Страшна прагучэў голас Максіма. Быццам марозік прашоўся па сьпіне Юрачкі, калі ён зірнуў на Максіма. Вусы ў таго тырчэлі старчмаком. Вочы блішчэлі іскаркамі. І зараз-жа Юрачка ўбачыў нешта страшнае. Поўпудовы молат мільгнуўся ўгару, і жандар брыкнуў далоў. Сідар, колькі спрытнасьці стала, даў дзёру з кузьні. Але, мусіць, ня ўсё яшчэ бачыў Юрка, бо скокам у цемру дагнаў Максім брата. Друг раз храбуснула пад молатам цемя.

— Максімка...

Толькі і мог сказаць Юрачка, бо язык не вярнуўся больш ні на што.

— Юрачка.. Нікому не кажы, бо... нашкодзіш сабе. Цягаць будуць усюды... згінеш у турме. Забірай плужок... платы ня трэба, мо' пасобіш зрабіць што сям'і... пасьля аддзякую...

Ён усё яшчэ моцна трымаў акрываўлены молат.

— А цяпер уцякай... хутчэй, хутчэй...

Кінуў у кут молат. Рэвальвэр жандара, апырсканы мазгамі і крывёю, ляжаў на зямлі. Схапіў яго і паклаў у кішэню. Выкінуў за дзьверы труп, і праз хвіліну ўсё ціха было каля кузьні. Лесавым толькі зьверам шалястала бура, на прасторы гальмачыла.

## II

І жонка Сідара, і жонка Максіма—плачуць абедзьве, рэкамі сьлёз разьліваюцца над работаю, у сьвята, дзе толькі ні йдуць. Ніхто ня ведае, дзе дзеўся Максім — як у ваду кануў.

У паўгода справіла Сідарава жонка памінкі па мужыку.

А на другі дзень па ўсёй Асінаўцы разышлася вестка: Максіма заўтра расстрэльваць будуць палякі.

Кульгавы Янка Ўдот быў у горадзе, а там яму знаёмы шапачнік Лэйзар чытаў прыклееную на сьцяне абвестку, у якой гаварылася, што ў нядзелю ў поўдзень на Грацкоўі адбудзецца кара сьмерці над кавалём Максімам з Асінаўкі, якога ўжо даўно шукалі.

Дачуўся і Юрачка аб гэтым, і мімаволі гарачыя сьлёзы як боб пасыпаліся з яго вачэй.

— Алёна! Алёнка, ці чула?

— Чула,—праз сьлёзы адказала тая.

— Я заўтра пайду ў горад. Пагляджу ў апошні раз на чалавека, каторы толькі адзін рабіў дабро мне.

— Схадзі.

— Татка, куды? Чаго ты плачаш? І мама?

— Нікуды. І табе няма чаго ведаць, чаго мы плачам.

Са злосьцю, якая толькі магла быць у Юркі, адказаў ён свайму пяцігадоваму сыну Мікітку.

Нецярпліва чакаў на заўтра Юрка.

Вечар. Не павячэраўшы, спаць лёг. Сон не бярэ. Доўга крактаў і варочаўся з боку на бок пакуль дрымоты ружовыя не зацалавалі вочы яго.

Ноч праходзіць. Раніца нудная. Крапіць часьценька дождджык, сьлізіць крывенькую вуліцу.

Юрка пасьнедаў калатушы і, узяўшы кіёчак у рукі, у сваім абшарпаным халаціку патупаў да гораду.

Прыходзіць у горад, а там куча людзей насупроць турмы ўжо чакае, калі будуць выводзіць Максіма. Тут і з Асінаўкі, тут і з суседніх вёсак, знаёмыя і незнаёмыя Юрку.

Раптам расчыніліся дзьверы, і пад канвоем чатырох палякоў з ланцугамі на руках і нагах вышаў Максім. Не зьмяніўся ні каплі—такі, як і быў, толькі галава нізка зьвісла на грудзі. Ланцугі зазьвінелі журліва, ды так, што Юрка ня вытрымаў і, толькі моцы ставала, крыкнуў на ўсю грамаду:

— Людзі! Чаго стаіцё, глядзіцё чаго? Палюбавацца прыйшлі, як нашага брата расстрэліваць будуць за тое, што абараняў беднату, такіх-жа, як вы. Хіба ў руках вашых моцы няма ўжо, каб перадушыць вось гэтых паганцаў, што зьдзекуюцца з нас?

Два жандары кінуліся на яго, але ўся грамада загойдалася, падняліся ў гару кулакі, зашумелі, закрычалі, нахінуліся на канвой і вызвалілі Максіма. Паляцкімі стрэльбамі пастралялі саміх-жа палякаў. Максім радасна абняў Юрку, так моцна сьціснуўшы ў руках, што той ледзь не заплакаў. Ні то з болю, ні то з радасьці і...

Прачнуўся. Алёна штурхала пад бакі.

— Пара ўставаць, сьнеданьне гатова.

Сонейка ясна сьвяціла ў забруджаныя мухамі вокны. У двары верашчэлі нечыя парсюкі. Здаволена кукурэкаў певень.

Горкая сапраўднасьць стрэла Юрку. Значыцца ўсё было ў сьне толькі.

Шпарка адзеўся і пасьнедаў крупніку. Не абуваючыся, дзеля эканоміі лапцёў пашоў.

Па дарозе ўсё думаў аб тым, што ўбачыць у горадзе, але ніяк ня мог уявіць сабе гэтага. Думкі блыталіся, адна перабівала другую, і нічога ня выходзіла.

Прышоў у горад і зайшоў да Бэркі, што гандлюе цукеркамі і мылам.

— Дзень добры, Юрачка! Што скажаш? Чуваць што ў вас?—пявучым галаском нарасьцяг пытаўся Бэрка.

— Эх, брат, няшчасьце. Хіба ты ня чуў?

— Гэта Максіма? Чуў, як ня чуць. Ай шкада, ай шкада. Добры такі чалавек быў.

— Я, Бэрачка, знарок прышоў. Паглядзець прышоў, апошні раз паглядзець на харошага чалавека.

— Харошы, ай харошы. І я пайду, разам пойдзем. Таня, а Таня, хадзі сюды! Ты пасядзі тут, пакуль я ня прыду.

У нядзелю заўсюды зьбіраецца многа людзей да гораду. Сёньня іх больш было, чымсь калі, бо суседнія вёскі амаль ня ўсе прышлі. Вестка аб расстрэле мужыка-каваля ўзварухнула ўвесь уваўкрэст гораду.

Прыйшлі Юрка з Бэркам да рынку.

Нейкі яўрэй прывітаўся за руку з Бэркам і пачаў апавядаць яму штосьць, азіраючыся па баках.

Зрэдку праходзілі з блішчастымі белымі каўнярамі і пагонамі паручнікі. Жалнежы культурнага панства, ідучы выдумвалі розныя штукі для зьдзекаў „з жыдоў“. Апошнія, асабліва з старых з барадамі, палахліва абягалі іх, калі ішлі на сустрэч.

Хвілін дваццаць гергатаў Бэрка са сваім знаёмым.

— Знаеш што, Юрка?

— А што?

— Максіма злавілі параненага ў бойцы з партызанамі пад Жаўноюю.

— Ну?

— Так. Іначай ня ўзяць было-б яго. Паранілі ў галаву. З ім захвацілі яшчэ двох параненых партызанаў. У тэй бойцы забіта пятнаццаць палякоў.

— Ай-яй-яй-яй. І праўда, я ніколі ня думаў і паверыць ня мог, каб Максіма голымі рукамі ўзялі. Ззаду пачуліся галасы, шум ідучай грамады.

Азірнуліся і загонаў за два ад сябе ўгледзілі кучу людзей на ўсю вуліцу.

— Ідуць. Юрка, хадзем на Грацкоўе і там збоку пачакаем.

Грацкоўе—гэта могілкі. Тут і праваслаўныя, і каталікі, і протэстанты хаваюцца. Тут-жа палякі адвялі месца і для расстрэлаў. Людзкая грамада заліла жывым морам той бок могілак, дзе гатова была ўжо яма.

Атрад жандараў штурханцамі, ударамі карабінаў расчысьціў ад людзей вакол ямы месца. Над ямай паставілі трох чалавек. Максім быў з завязанаю галавой. Брудная ануча была чырвонаю ад запёклае крыві. Два другія былі з падвязанымі рукамі.

Хутка вышаў наперад з папераю тоўсты паляк і пачаў чытаць. Як ні ўслухоўваліся Юрка з Бэркам, а не зразумелі—што ён чытаў. Імя і прозьвішча толькі і разабралі.

— Хочуць застрашыць. О, сволачы! Гэта толькі і паглыбіць нянавісьць да вас.

— Атрады партызанаў шпарчэй яшчэ будуць расьці і вы прымеце сьмерць ад іх рук.

Азірнуўся Юрка. Каля яго стаяў незнаёмы, чыста адзеты хлапец. Яго вочы блішчэлі, а рукі сьціснуліся ў кулакі.

Жандары выстраіліся ў шарэнгу. Ружовы, блішчасты паручнік, сын тутэйшага памешчыка, махнуў шабляй.

Юрка зірнуў на Максіма. Той, здалося яму, паглядзеў у яго бок і нібы нешта сказаў. Гукі стрэлаў ня далі магчымасьці ўчуць.

Ахнула ўся грамада, і прарэзьліва-немы крык пачуўся з боку Юркі. Расьпіхаючы ўсіх, з чырвонымі ад сьлёз вачмі, прабіралася жонка Максіма. Прарвала шарэнгу жандараў і пабегла да ямы, але спрытны, дужы жандар схапіў і далёка адкінуў яе ў кучу людзей. Юрка з Бэркам узялі пад рукі яе і вывелі на вуліцу, упрашаючы, самі са сьлязьмі на вочах ісьці да дому.

III

Ужо некалькі месяцаў, як прышлі доўгачаканыя чырвоныя. Сьвятло свабоды, спакою асьвяціла змучанае сэрца мужыка беларускае вёскі.

Усіх тых, каго расстралялі палякі за рэволюцыйнасьць, за партызаншчыну, новая ўлада, улада мазольных саветаў перанесла з пашанай у сярэдзіну горада. Могілкі турботліва абгароджаны, і на кожнай стаіць па маленькаму драўлянаму помніку. Комсамолкі і дзяўчаты з вёсак напялі з кветак і зеляніны прыгожых вянкоў. Жоўценькім жвірам усыпаны, вянкамі і стужкамі аздоблены прыгожа. Людзі выказваюць сваю падзяку тым, хто галовы свае паклаў за народ у барацьбе з панамі.

Многа людзей у сьвята прыходзіць на гэтыя могілкі.

Кожны раз, калі толькі бывае ў горадзе, заходзіць і Юрка. І кожны раз яго вочы вільгатнеюць з жалю па Максіму і з радасьці, што недарма ён аддаў сваё жыцьцё.

Жонка Максіма мала ў чым адчувае патрэбу, бо камітэт узаемадапамогі заўсёды пасабляе ёй ва ўсім, нават кузьню ў арэнду ўзяў і плаціць добрыя грошы. Толькі, калі дзеці пытаюцца: „А дзе тата“, тады заліваецца горкімі сьлязьмі і адказвае:

— За шчасьце такіх вось, як вы, памёр.

---

**А. Александровіч**

# Два ліпнёвыя дні

## I

У бязладзьдзі, суматосе прашло жыцьцё двух дзён. Каляндар, як звычайна, спакойна казаў:

— Сёньня 10 ліпня.

Не пасьпела яшчэ сонца залязгаць капытамі-праменьнямі, як у Менску пачаўся грабеж.

Босаму нельга прайсьці па вуліцы.

Дробнымі кавалкамі шкла, як дыванам, убраны брук.

Крамы з узламанымі вокнамі...

Сваволяць сьпевы разгулу...

Каменьнямі, каламі падпірала брамы беднае жыхарства, але не абараніла—абіралі да кашулі...

Стогны, енкі мянчан глытаў дым, які валам расплываўся па вуліцах, нясучы з сабою нядолю...

## II

Уцякаючы праз беларускія вёскі, палякі пазабіралі ў сялян апошнюю скаціну.

Прыгналі яе ў Менск, на вакзал. Сагналі ў вагоны, а вывезьці яе ў Пазнань—позна: партызаны. Цягнік газай аблілі, падпалілі...

Жывёліна, здабытая горкай працай селяніна, хрыплым задушаным ад дыму голасам прасіла дапамогі...

Польскія салдаты з карабінак—па скаціне, каб спыніца яе енкі, каб спыніць яе дзікі, разрываючы сэрца плач.

Узьняўся агонь...

Запалаў Аляксандраўскі вакзал...

Жудасьць абхапіла Менск...

Не пасьпела мінуць паўгадзіны, як мост па Савецкай вуліцы кашлянуў узрывам.

Тут-жа, ля маста, стаяла шавецкая фабрыка „Арол“. Рассыпалася яна цаглінкамі па маставой. Языкі вогнішча спраўляюць баль крывавы...

Перакінуўся агонь на драўляныя хаты рабочых, запалаў квартал—Бабруйская вуліца.

А зьлева корчыцца ад разгулу вогнішча—лесапільны завод.

Менск у пажары...

Нібы п'яны, хістаецца дым, абвіваючы гоман няшчасьця.

Тлеюць Кашары...

Віленскі вакзал—разбураны, зруйнованы.

Вясёлая вуліца глуха раскідае трэск народнага багацьця: фабрыка-хлебапякарня палаючымі іскрамі раскідаецца.

Ламаюць крамы, рабуюць жыхарства... Сьпевы разгулу, горкія сьлёзы...

Гуляе вуліца...

III

Ля Траецкай гары тлее дваццаць дамоў. Пажар узьняўся дзён некалькі назад.

Была ў Менску „ўлада“, абвясьціла загад—зачынілі вадакачкі, пажарнікі сталі бясьсільнымі.

А цяпер толькі дзе-ні-дзе, як з люлькі дзеда старога, пярсьцёнкамі віўся дымок.

На руінах бедная бабка, прытуліўшы галодных дзяцей, закапцелаю хусткай трэ вочы ад горкіх сьлёз.

Небасхіл пакрыўся малінавай істужкай і як-бы шаптаў:— сьветлае, новае, шчаснае...

IV

Паволі, згорбіўшыся ад страху, прыпаўзла ў Менск ноч. Месяц памыкаўся глянуць на руіны, але хмары адціскалі за свае плечы.

З нецярплівасьцю чакалі ўваходу чырвоных...

Раптам —

Гарматы, кулямёт.
Бліжай,
Бліжай...
Гоман,
Топат коняй,
Лязг аружжа,
Сьвіст...

Бадзёра йшлі чырвоныя. Вось адзін адстаў.. Пакрыўся твар яго палосамі крыві...

Рука ўпілася ў вінтоўку. Рука застыгла... Чорная ад ручкі плуга, чорная далонь...

Я падышоў. З яго кішэні выняў дакуманты і ўбачыў— сын беларускага сяла: Андрэй, бацька Зьміцер, прозьвішча— Залескі, ад роду—22 гады.

Ізноў узьняўся сьвіст, ізноў лязг аружжа...

Палякі вышлі.

Прабегла першая лінія чырвоных.

V

Раніцой па вуліцах хадзілі рабочыя.

Кожны расказваў пра бурную ноч, кожны вітаў перамогу.

Віталі раніцу, шчыра, папросту віталі.

Ветрык узьняўся і як-бы гнаў усё панскае.

Песьні!

„За власть советов“...

Па Мікалаеўскай вуліцы ішлі чырвонаармейцы. У запыленых зялёных вопратках, маладыя, але змучаныя.

З песьняй увашлі яны ў Менск.

Яны стварылі новую старонку ў нашай старой гісторыі— 11 ліпня.

Горда мігаюць на вінтоўках чырвоныя сьцягі, з такімі-ж гордымі чырвонымі сьцягамі сустрэў іх чырвоны беларускі Менск.

VI

Андрэй Залескі быў. . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

---

# П'ЕСЫ

Васіль Гарбацэвіч

## „Чырвоныя кветкі Беларусі“

### Драма ў 4-х дзеях*)

*(З жыцьця ў часы польскай окупацыі)*

### АСОБЫ:

*АНДРЭЙ—малады вясковы хлопец, быў у матросах.*
*НАДЗЕЯ—надта прыгожая маладая дзяўчына.*
*АГЕЙ—бацька Андрэя, гадоў 60.*
*СЫМОН—бацька Надзеі, гадоў 50.*
*ПАНІЧ—памешчык-паляк з суседняга двара, гадоў 30*
*ГАННА, НАСТА, АЎДУЛЯ і інш.* — *таварышкі Надзеі.*
*МІРОН, ПАНАС і інш.* — *таварышы Андрэя.*
*ТОДАР, ПЯТРОК, АСТАП і інш.* — *вясковыя мужчыны.*
*МІХАСЬ, САМУСЬ* — *дваровыя хлопцы.*
*МІХАСЬ РУДОВІЧ—студэнт Марына-Горскага Тэхн., прыгожы.*
*ЗОСЯ—сястра Рудовіча, маладая дзяўчына.*
*ХЛОПЧЫК.*
*ПАРУЧНІК.*
*Салдаты-палякі, чырвонаармейцы, народ.*

### ДЗЕЯ І

Лес. Сьветлы, цёплы, *веснавы* дзень. Пяюць птушкі, кукуе зязюля. Як адчыняецца заслона, чутна песьня, якую пяюць, зьбіраючы *грыбы*, дзяўчаты.

---

*) У нардамох і клюбах, дзе няма адпаведнага памяшканьня, р а скарыстоўваць для пастаноўкі толькі чацьвертую дзею. (П. К. і М. С.).

„А ў лесе, лесе
Ды на верасе...
Вясна-красна на ўвесь сьвет.
Там хлопчычак ды каня пасе.
Вясна-красна...
Яму дзевачка ды абед нясе.
Вясна-красна. .
Сядам, хлопчычак, паабедаем.
Вясна-красна...
Паабедаўшы, скажу табе дзіва.
Вясна-красна...

*Песьня спыняецца; чутна, як крычыць адна з дзяўчат:* „Вой, заяц!“ *Зараз-жа чуваць, як заяхкаў сабака. З двух бакоў выбягаюць дзьве дзяўчыны.*

ЗЬЯВА 1

Н а д з е я. Аўдулька, любка, як-жа я спужалася! Ледзь ледзь не наступіла на зайца. Як падскочыць ён—ды бегчы! Зараз-жа ззаду ў мяне сабака: „Гаў, гаў! Ях, ях!“ І чый гэта сабака? Вялізны, кудлаты. У нашай вёсцы такога няма. Няўжо гэта з двара? Можа, паніч выйшаў на паляваньне?

А ў д у л я. Ай! Во дабрычок сядзіць. *(Кідаецца к кусту ялоўца).* Які-ж харошанькі!!

Н а д з е я. Ну, а я-ж зусім не набрала грыбоў. Табе— вось дык шанцуе. З-пад носу ў мяне хапаеш.

А ў д у л я. Каму што: мне шанцуюць дабракі, а табе дзяцюкі. Адзін Андрэй Агеяў чаго стоіць! А тут яшчэ і паніч з двара. Шчасьлівая ты, Надзейка.

Н а д з е я. Кінь, Аўдулька, мне завідваць. Праўда, Андрэя я люблю. Не такі ён нейкі, як другія хлопцы. Калі скажа слова, дык яно адразу ў сэрца і лезе. А ў вачох— столькі чароўнасьці і каханьня! Іншы раз задумаецца: стаіць, як дуб малады, ні адна галінка не скранецца. Глядзіш і бачыш, што на твары ў яго вялікая, вялікая думка. Не, Аўдулька, кажы, што хочаш, а сакрыта нешта ў яго грудзёх... А гэты... паніч... Ня ведаю, чаго ён да мяне чэпіцца. Колькі разоў гаварыла, каб ня лез, а ён... як той смоўж... Андрэй ужо ведае аб гэтым. Чуе сэрца, што быць бядзе. *(Чуць шорах).*

А ў д у л я. Ой, нехта йдзе! *(Углядаюцца абедзьве).*

Н а д з е я. Ён! Бяжым! *(Зараз-жа выскаквае паніч са стрэльбай).*

ЗЬЯВА 2

П а н і ч. Гэ, не ўцечаце! Ды чаго вы баіцеся? Хіба я воўк! *(Падыходзіць да Надзеі і дае ёй кветкі).* Вось, Надзейка, як хораша пахнуць. Дзеля цябе ў самую нетру лазіў. *(Аўдуля адыходзіць).*

Н а д з е я. Ніхто не прасіў вас, каб лазілі, і ня трэба мне вашы кветкі: захачу—сама нарву.

П а н і ч. І чаго ты заўсёды гэткая злосная? Няўжо і з Андрэем ты такая?

Н а д з е я. Панічу няма ніякага дзела, якая я з Андрэем. А вас апошні раз прашу—не чапайце мяне, усё роўна нічога з гэтага ня будзе.

П а н і ч. Эх, Надзейка! Сама сваё шчасьце ад сябе адпіхаеш. Ты падумай, чым-бы ты стала? Паглядзі, якая ты цяпер: і босая і ўчарнелая. А тады ты цьвіла-б, як рожа.

Н а д з е я. Не клапацецеся аба мне. Цяпер я хоць і босая, але здаровая, хоць і ўчарнелая, але вясёлая. Ды ня ўмею я хадзіць па вашых коўзкіх падлогах. Лепей хай мяне сонца ў полі пячэ, чымся халадкі церці ў вашых пакоях.

П а н і ч. Дурная, дык дурное й пляце.

Н а д з е я. Дык навошта-ж вам з дурнымі чапацца? Шукайце сабе-ж такую, як і самі.

П а н і ч. Ну, ня сердзься. Яшчэ раз кажу табе: паслухаеш—будзеш паняй хадзіць па пакоях. Вось ты цяпер прышла ў грыбы. Ці-ж ты сьмела ходзіш? Усё аглядаешся, каб лясьнік ня ўбачыў. Тады-ж, як добрая гаспадыня, хадзіла-б тут з парасонам.

Н а д з е я. Не хачу я вашых багатых пакояў. Жыць у іх боязна. Сколькі там загублена людзей вашымі дзядамі і прадзедамі! Упоўнач яны павінны кішэць замучанымі мужчынамі і згвалтованымі кабетамі! Ня жыцьцё, а пекла ваш палац!

П а н і ч. Ха-ха-ха! Дык вось якое страхацьцё ты гаворыш. А я вось жыву і нічога гэтага ня чую і ня бачу. Начаўплі табе з малых гадоў усяго гэтага. Вось прыдзі заўтра, сама пабачыш, што ўсё гэта—выдумкі. *(Хоча абняць Надзею, тая б'е яго па руцэ і адбягае).*

Н а д з е я. Прэч панскія свае рукі! Думаеце, што ў лесе ды са стрэльбаю, дык усё й зрабіць можаце? Памыліліся.

П а н і ч *(злосна)*. А, дык ты вось як! Мяне біць! Пачакай-жа! Вон з майго лесу! Цяпер-жа знай: калі хто прыдзе сюды ў грыбы—атрымае добры гасьцінец. Для гэтага ў мяне ёсьць добрыя майстры.

Н а д з е я. Ведаю, ведаю, што вашы хваленыя пакоі кішаць цяпер жандарамі, якія як ня трэба лепей, пісяжаць шкуру мужыка. Хваліцца, здаецца, няма чым *(пайшла)*.

П а н і ч *(адзін)*. Вось чортова насеньне! Нічым не дагодзіш. Усе ўжо спосабы перапрабаваў. Засталося толькі сілаю ўзяць. Але, як і дзе? Гэты пракляты Андрэй мяшае. І як-бы да яго дабрацца? Вось пацешыў-бы рукі! Аж цяпер сьвярбяць. (*Чуваць—пяюць дзяўчаты*):

Хвалілася каліна, ў густым лесе стаячы:
„Ніхто мяне да ня высеча
Без мяча, бяз тысячы,
Бяз вострае шабелькі".

Абазваўся марозе: „Не хваліся, каліна,
Я цябе так высеку: без мяча, бяз тысячы,
Бяз вострае шабелькі".

Хвалілася Надзейка ў свайго роднага таткі:
„Ніхто мяне ня вывезе бяз мёду саладзенькага,
Бяз віна зеляненькага".

Абазваўся Андрэйка: „Не хваліся, Надзейка,
Я цябе так вывезу: бяз мёду саладзенькага,
Бяз віна зеляненькага".

(*Паніч стаіць і слухае. Дзяўчаты выходзяць, бачаць паніча, кідаюць пець, і, спуджаныя, глядзяць на яго*).

## ЗЬЯВА 3

Паніч. А вам хто тут казаў хадзіць? На, цю, на! (*Чуваць сабака брэша*). На, Марс, на! Кусі іх! (*Дзяўчаты з крыкам разьбягаюцца; некаторыя, нават, кідаюць кошыкі. Чуваць, як далёка недзе стукае сякера аб дрэва. Паніч пільна прыслухоўваецца, потым хутка йдзе ў той бок, адкуль чуцён стук сякеры. Зараз-жа выбягаюць дзьве дзяўчыны спуджаныя*).

## ЗЬЯВА 4

Ганна. Ой, любачка, дай аддыхацца.

Наста. Хай ты не дажджы! Ну, і спужала-ж ты мяне.

Ганна. У мяне ў самой аж зелена ў ваччу стала. Ты паслухай: толькі сагнулася грыб браць, ажно чую—нехта мяне за сярэдзіну бярэ. Падымаю галаву, гляджу—і ледзь не абамлела: пан Тадэуш, гэты зьвер, з нагаем, за поясам, чырвоны, як бурак, зубы выскаліў ды рагоча, як жарабец. Ня памятаю, калі я ўцякла, кошык кінула і хусту згубіла.

Наста. Ты так нема закрычала, што я падумала, ці не гадзюка цябе ўкусіла. Калі-ж пабачыла, хто каля цябе, сама давай наўцекі.

Ганна. Я цяпер ня ведаю нават, у які—бок дамоў. Што, калі нас знойдзе той гвалтоўнік. (*Баязна азіраюцца*). Ціха! Нехта йдзе і моцна гаворыць. (*Як маланка, хаваюцца ў лесе. Чуваць галасы: „Дык вось як, лес красьці!—„Ды не, панічок, дальбог-жа мы толькі асінку хацелі сьсекці". Выходзяць паніч і Андрэй з бацькам*).

## ЗЬЯВА 5

Паніч. Так, так, Андрэй! Рукі ў цябе хоць куды: І каля Надзеі ўмеюць хадзіць і каля панскага лесу.

Андрэй. Ня ваша дзела!

Паніч. Як гэта не маё дзела: што і мой лес сячэш, дык мне і тут няма ніякага дзела? Вот дык сьмяхоцьце!

Андрэй. Чаму гэта ваш лес? Вось вы—разумны чалавек, вучыліся заграніцай. Растлумачце нам, цёмным мужыком, чаму гэты лес ваш? Чаму вось мой бацька, які бачыў, як кожны кусьцік тут вырас, ня мае права сказаць, што гэты лес яго?

Агей. А запраўды, чаму гэта панічоў лес? Ніколі я да гэтага не дадумаўся. Ты, Андрэйка, разумна пытаеш.

Паніч. Мужыччо! Як вы сьмееце гаварыць так са мною! Паглядзім, што жандары ў вас будуць пытаць.

Агей (*спужаўшыся*). Панічок, дарагенькі, зьмілуйся, даруй нам. Ніколі больш ня будзем. Я і цяпер-бы... але, ведаеце, трэба было: Андрэйку на Сёмуху жаню, ганак новы думалі зрабіць.

Паніч. Цікава. Ці не з Надзеяй?

Андрэй. Няма чаго цікавацца, на вясельле ўсё роўна не пазаву. А ты тата годзі стагнаць. Ён перад табою блазьнюк, а ты яму ледзь у ногі ня кланяешся. Няхай пасылае жандараў. Няма чаго нашай мужыцкай шкуры баяцца—ні бізуноў, ні шомпалаў: мы ўжо раджаемся на гэты сьвет з пісягамі на ёй.

Агей. Дык як-жа, сынок? Каб жандары прыйшлі да нас? Няўжо-ж гэта можа быць? А, курачкі мае, а, парасятачкі мае! Няшчасныя-ж вы!

Андрэй. Кінь, тата. Парасят шкадуеш, а сваёй шкуры ня шкода.

Паніч. Ага, а табе шкода сваёй? Вось мы яе пашкадуем. Гэтак, па мякішу—клясь! цок!

Андрэй. Эх, вы, вучоны! А яшчэ чалавекам хоча звацца. Мала дзяды вашы нацокалі? Цокайце і вы. Пацерпім, пакуль што.

Агей. Вось слухаю я, панічок, ды чую, што вы аб нейкіх тут цоках гутарыце. Нядобрыя, знаць гэтыя цокі. Адпусьцеце нас, дарагенькі. Няўжо-ж вы забыліся, як я для вас, маленькага, калісь ночы ня спаў, а ў садзе сядзеў пад яблынаю, каб злавіць тую жар-птушку, пра якую вы ў казцы чулі ды ўсё хацелі, каб злавілі яе ў вашым садзе.

Паніч. Ты, стары, ідзі сабе. А сына не адпушчу. Вельмі ён у цябе разумны.

Агей. Дык, як-жа панічок, гэта... Я-ж вам казаў, што жаню свайго Андрэйку на Сёмуху. Няўжо-ж вы ня зьлітуецеся над ім? Гэта-ж, як пачуе Надзея, што з Андрэйкам зрабілі, дык яшчэ ня пойдзе за яго замуж.

Андрэй. Ня бойся, тата, яна тады яшчэ мацней мяне пакахае.

Паніч. Пакахае! А калі я перашкоджу.

Андрэй. Ня страшце. Я ведаю Надзею, Надзея ведае мяне. Перашкодзіць нам, ніхто ня здолее, адна хіба сьмерць.

Паніч. Добра! Пабачым. Надта не бярыся. Хваляцца з кірмашу едучы. Ну, а цяпер, хадзем, стары. Сын хай сабе тут застаецца. Думаю ў Амэрыку не ўцячэ. А калі і хацеў-бы ўцячы, дык Надзея памяшае. (*Ідуць у лес*).

Андрэй (*адзін*). Скуль ён ведае, што мы з Надзеяй любімся? Няўжо яна яму сказала? Ну, што-ж, тым лепей. Значыцца, вось адкуль гэта яго злосьць на мяне. Пачакаем, паглядзім. Нічога, паночкі! Пацешцеся яшчэ трошкі. Зараз за вамі чарод. Вы, як п'яныя, напіўшыся крыві мужычай, ня чуеце, што зараз гэты абсмактаны мужык перагрызе вам горла. Не дагадваецеся, вы, нават, што тут-жа, супольна з вамі, расьце сіла страшэнная. Мы гаворым з вамі, а вы ня здолеце прыслухацца, што ў нашым голасе чутно скорае адмшчэньне. (*Вылятае перапуджаная Надзея*).

## ЗЬЯВА 6

Надзея. Андрэйка, хавайся, цябе жандары шукаюць.

Андрэй (*спакойна*). Хай шукаюць, хаця і гэта лішняе: я сам к ім пайду.

Надзея. Пойдзеш у лапы к гэтым тыграм? Апамятайся!

Андрэй. Што-ж, уцякаць? Гэта я мог-бы зрабіць. Але што-ж тады яны зробяць з маім старым, з табою? Не, лепей аддацца ім... А ты, Надзейка, тады, як мяне .. скрывавяць... будзеш любіць?

Надзея (*кідаецца на шыю*). Яшчэ мацней, мой каханы Андрэйка! Ніхто цяпер не адарве мяне ад тваіх прыхільных грудзей!!

(*Заслона*)

## ДЗЕЯ II

Гара каля лесу. Усюды трава, кветкі, пяюць жаваранкі. Сьвеціць сонца. На дзьвюх бярозах павешана гушкалка. Як адчыняецца заслона, Надзея ходзіць па гары, зьбірае кветкі і пяе:

Вясна-красна на двары,
А я хаджу па гары.
Хочу кветак я нарваць,
Каб вянок мне з іх зьвязаць.
Я надзену той вянок
У апошні ўжо разок.
Хай паглядзіць Андрулёк,
Як хораша мне вянок.

Цяпер трэба паваражыць, ці любіць мяне Андрэй. Любіць, ня любіць, к сэрцу прыжме, к чорту пашле, плюне, пацалуе. О, к сэрцу прыжме! Значыцца, любіць! А як хораша, калі ён прыціскае к сэрцу! Слухаеш, а яно: так... так... Але чаму ён часамі гэткі сумны? Што ў яго на думках? Сколькі разоў пыталася—зьверне, збочыць, што як-бы ўсё надта добра. Бач, вельмі нешта цікавае і сакрэтнае. Сягоньня канешне дапытаюся. (*Садзіцца на ўзгорку, задумваецца. Чуваць дзесьці песьня дзяўчат*):

Ты, калініца,<br>Ты, малініца,<br>Гэй, ты ня стой, ня стой<br>На гары крутой!<br>Ня спускай гальля<br>На сіне мора;<br>Гэй, па сіняму мору<br>Карабель плыве!

(*На гару з сьмехам і крыкам узьбягаюць шмат дзяўчат, паміж якіх Ганна, Наста і Аўдуля. Усе абкружаюць Надзею і пяюць*):

Любка-Надзька,<br>Што з табой?<br>Скажы хоць славечка.<br>Хочаш—зробім карагод,<br>Супакой сярдзечка.

Надзея (*адпявае*):

Ах, вы, дзевачкі мае!<br>Не магу я пеці,<br>Бо апошні разок мне<br>З вамі ўжо сядзеці.

Дзяўчаты. Хіба стаў ўжо ня люб<br>Твой Андрэйка мілы?<br>Не жадаеш браць з ім шлюб?<br>Любіць няма сілы?

Надзея. Ах, скарэй-бы ўжо часы,<br>Каб з Андрэйкам жыцьці.<br>Шкода-ж дзявочай красы,<br>Ды мне ня з вамі быці.

Дзяўчаты. Усіх нэс, знаць, такі лёс.<br>Дзеўкай не пражыці<br>Калі трохі ўжо падрос,<br>Трэба йсьці служыці.

Ганна. Дзевачкі, давайце гушкацца! (*Усе згаджаюцца і падбягаюць к гушкалцы. Ганна, Наста і Надзея лезуць на апошнюю. Другія дзяўчаты іх гушкаюць і ўсе пяюць*):

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Няма майго Андруля.
Гу-шкі, гу-шкі!
Йдзі, Андрэй, на падушкі,
Гай-да-да, гай-да-да!
Без цябе, Андрэй, нуда.

Наста. Даволі ўжо. Аж галава закруцілася. Давайце Надзеі апошні вянок саўём. (*Усе зьбіраюць кветкі і пяюць*):

Маладая Надзейка,
Ўсе тваё да мінаецца:
Дзявоцкае пагуляньнейка,
Хлапецкае жартаваньнейка.
Годзе табе з намі быці,
Каб вяночкі ўсё віці
Да таночкі вадзіці.
Ідзі сьвякрусе служыці.

(*Назьбіраўшы красак, дзяўчаты садзяцца навокал Надзеі на ўзгорку, і Ганна пачынае віць вянок, гаворачы*).

Ганна. Ведаеце, што, сястрыцы, мне цётка Агата казала, што калі, плятучы вянок перад Сёмухаю, зломіцца хоць адна кветка—быць вялікаму няшчасьцю. (*Усе пільна глядзяць на работу Ганны, зацікаўленыя*). Ну, тут пакуль-што ўсё добра. Каб гэтак і далей.

Надзея. Ах! Гора-ж мне!

Усе. Чаго ты, Надзейка? Што з табою здарылася?

Надзея. Вы глядзіце на вянок там, дзе ўплятаюцца кветкі, а чаму-ж ня бачыце, што з самага пачатку. (*Дзяўчаты глядзяць і ўскрыкваюць: з самага пачатку ледзь ня ўсе кветкі пераламаліся і кончык вянка павіс бяспомачна*).

Надзея. Што-ж чакае маю галоўку? І ў самым пачатку супольнага жыцьця з Андрэем!

Наста. Ды кінь, Надзея. Мала чаго людзі нагавораць. Калі вам ужо добра ня жыць, дык каму-ж тады? Андрэя ўсякі ведае, што ён за чалавек. Кожная з нас была-б рада на тваім месцы. (*У лесе кукуе зязюля*).

Наста. Надзейка, запытайся ў зязюлі, ці доўга замужам будзеш.

Надзея. Зязюлька сівая, скажы праўду шчырую, колькі засталося мне жыць. (*Зязюлька змаўкае*). Дзевачкі, чуеце? Змоўкла. Што-ж гэта сягоньня? І чаму я такая гаротная? Няма мамкі, а ніякай радні. А тут яшчэ кветачкі і птушкі прочыў мяне. Якая-ж доля мяне чакае? (*Чутна песьня хлопцаў і йгра на гармоніку*).

# ВЕРШЫ

**Ал. Дудар**

## З поэмы 1920 год

I

—Дзевятнаццаць!—Гарматным гулем
Прагудзеў гадзіньнік гадоў—
Зноў будзілі шалёныя кулі
Адпачынак стаптаных палёў.

Зноў з усходу плывуць эшалоны,
Мітынгуе суровы завод...
А па вёсках трывожны гоман:
— Пачалася вайна! У паход!..

Вёска, вёска у зрэбнай кашулі,—
Ня прышоў яшчэ час адпачыць...
Ўжо і поле з-пад сьнегу бліснула,
Ўжо і сонейка сталі пячы...

А дзесяцкі—стары Мікола
(Сэкратар сельсавету цяпер)—
Кліча ўсіх на нядзелю ў школу:
— Ад начальства прышла папера...

Нібы той растрывожаны вулей
Загудзела ў нядзелю школа;
Нехта з гораду сумны і хмурны
Папрасіў для дакладу слова.

— Гавары! Ды кажы зразумела!
І дзядзькі і кабеты змоўклі—
Загарэўся прызывам сьмелым
Дакладчыка голас звонкі.

— Хатам мір і вайна палацам!..
— Ўсе на фронт! За агульную справу!..
Толькі помста ў вачох палала
Ды пагроза ў грудзёх вырастала.

— Дабравольцамі пойдзем усе мы.
Наша права—стрэльба ды порах.
Хай зьбірае, што сам пасеяў,
Рэвалюцыі люты вораг.

А назаўтра заплакалі маткі,
Ў кожнай хаце жонкі галосяць:
— Божа, божа, сыноў ў салдаты
Нам ізноў выпраўляць прышлося!

І ў садочку доўга Ануля
Ігнася цалавала, туліла...
— Ой, каб толькі бяда абмінула,
Каб ня лёг без пары у магілу...

— Будзь, што будзе. Бывай здарова!..
Падкаціліся сьлёзы пад горла—
— Ня сумуй!—хутчэй у дарогу,
Там на фронце разгонім гора.

II

Залівалася кроўю й потам
У змаганьні чырвоная раць,
Стракаталі ў палёх кулямёты!..
Адступалі!.. За пядзьдзю пядзь...

Наступаў на нас голад і холад
І хваробы зайшлі ў тыл—
Ўжо здавалася: ўзялі за горла
І агонь барацьбы астыў.

Гэты год ня жытам засеяў
Здратаваныя нашы палі—
Беларусь, Украіна, Расія
Ў гэты год іх крывёй залілі...

III

Зноў трывогаю вёска спавіта,
Ўжо грымяць гарматы за лесам;
Ігнасёваму бацьку Мікіта
Ліст прывёз са шпіталю з Менску,

— Ў галаву... чуць ня лёг у магілу...
Вораг блізка... ня маю часу...
Зноў на фронт...дамоў на пабыўку,
Можа буду, калі удасца...

Ой і было-ж бацькам вясельле—
З тварам, нібы-то вылітым з воску,
(Партбілет ў рукаве у шынэлі)
Прыехаў зноў у вёску.

Бацька з маткай рукамі спляснулі:
— Ой сыночак, ты-ж ледзьве дышаш.
А Ігнат спаткацца з Гануляй
За хату ў садочак вышаў.

Толькі сонца з-за дрэў паглядала...
І яно схілілася к долу;
Змрокі вытк алі сінія далі,
Як вярнуўся Ігнась дадому.

IV

Дзень і два пракаціліся чынна,
Загудзелі мацней гарматы...
Агарнула нуда дзяўчыну:
— Правяла, правяла Ігната!..

Эх, вясёлы парадак новы:
Комуністых шукалі жандары;
У двары, пад жандарскай аховай.
Пан стары пачаў гаспадарыць.

А ў горадзе ўсё, як трэба—
І на біржы—гоман вясёлы,
І ў падвалах ня стала хлеба,
Стала больш жабракоў ля касьцёлу.

Зноў вітрынамі зьзяе горад,
Знаць, мінулыя годы ажылі...
І зьвіняць афіцэрскія шпоры,
І працуе, як сьлед, дэфэнзыва.

Панавалі... Ліліся сьлёзы.
Доўга дні тыя будзем мы помніць!
Памаглі яны подыхам грозным
Паўстаньня лясы напоўніць...

Толькі раз у маёвую ночку
Нехта стукнуў у дзьверы хаткі.
Матка ўстала. Ў шэрым змроку
Адчыніла...—Ігнась, дзіцятка!..

І гарэлі галовы пажарам,
Пахаваліся хлопцы ў лесе...
Хутка, хутка канец жандарам,
Бо паўстанцам у лесе цесна!..

Дні ішлі і кожную ночку
Спатыкалася Ганна з Ігнатам...
Чэрвень з дзён выплятаў вяночак,
Ліпень ладзіў да бою гарматы.

V

Ой і плакала-ж сёньня Аўдоцьця,
Разьлівалася ў тры ручаі—
— Па якой, па якой дарожцы
Нашы хлопцы ў паход пайшлі...

А ў лесе на сіняй паляне
Вырастае паўстаньня гмах...
— Хлопцы! Годзі ўжо іх панаваньня!
Больш цярпець, дык і сілы няма!..

Эх ты, доля, ліхая доля!
Занудзіў на растаі крыж...
Вось і жыта калосіцца ў полі,
А жандары кругом, як зьвяры.

Вось-бы ў вёску! Марнеюць сілы,
А старым усяго не зрабіць
(І Ганула сягоньня прасіла
За млыном, каля сушы быць).

— Сёньня ўночы Брады запалім:
Пасядзеў там даволі пан,
Усё паліць, руйнаваць бяз жалю!..
Загадаў Ігнась-атаман.

А ў галовах заселі думы
І палае агнём Ігнат:
— Будзе наша—ізноў збудуем,
Трэба ворага толькі прагнаць!..

— Пушча—крэпасьць, а мы салдаты,
На удары—адказам удар;
Гэтай ночкай напомніць праклятым
Пра паўстанцаў зьвястун—пажар.

VI

Вось і млын... Замігалі зоркі,
Утапіліся ў сіні начы,
І Ігнат спусьціўся з горкі,
На пяньку прысеў адпачыць...

Вочы, вочы. Блакітныя вочы
Агарнулі душу, як хмель...
У паўстанца прытулак воўчы
Адляцеў за трыдзевяць зямель.

Хутка поўнач... Яшчэ пацалунак...
Цягне холадам з цёмнай вады.
— Ну, бывай-жа здарова Гануля,—
К пану ў госьці пайду у Брады!

VII

Ад усходу грымяць гарматы.
Уцякаць зьбіраецца пан;
Напужаў павукоў багатых
Бальшавіцкі напор-ураган...

Вось і ночка!..—А заўтра рана
У Варшаву!.. І будзем жыць...
Хутка, хутка канец будзе хамам,
Што на нас навастрылі нажы!..

Раптам... стрэльбы агнём заржалі,
Вочы сьлепіць агонь і дым...
— Ўсё прапала, кругом партызаны,—
Уцякаць няма ўжо куды!..

А назаўтра мутныя хвалі
Дыму шэрагу ўкрылі руіны.
Для таго пажары палілі,
Каб лягчэй жылося краіне...

VIII

Пахла порахам. Цэлы тыдзень
Расплываліся плёткі ў завулках...
— О, ня прыдзе Ігнась, ня прыдзе,—
У Ганулі кіпела думка.

Раптам вестка магутнаю хваляй
Скалыхнула ўсё мора бруду:
— На Бярэзіне фронт прарвалі!
Хутка, хутка у Менску будуць!

Закружыліся вуліцы гулам...
Уцякаць, уцякаць у Варшаву!
„Żolnierze“ зьвярыным разгулам
Прабіваюць дарогу да славы.

— Разьвітаньне! Апошні дзень наш
(Гэта знача—грабёж, разьня);
Усё ўзялі-б! Ды нідзе ня дзенеш...
Дык разбурым, што нельга ўзяць!

Запаліць! Пажару узоры
Крыюць чырваньню захад і ўсход.
Ўспамінае палаючы горад
Яраславічаў грозны паход.

Ліпень, ліпень! Ты ночкаю сіняй
Агарнуў азьвярэлы зьдзек!..
Ці-ж ня мог ты сваёю сілай
Абярнуць зьвяроў у людзей?..

Знаем мы. Было немагчыма.
Хто стрымаў-бы разбойны напад?
На вачох у бацькоў дзяўчыну
Гвалтаваў ашалелы салдат.

Праз ваконца жыдоўскай хаткі
Выглядае спалоханы спас;
І душа ў ім схавалася ў пяткі—
Не па ім гэты страшны час.

Ноч прышла. А на вуліцах гоман,
Ад пажараў—сьветла, як днём.
А з лясоў партызанаў загоны
З больлю ў сэрцы сачаць за агнём.

То ня шыбы зьвінелі ўвечары,
Не пажары калечылі хаты—
Гэта звон—„Беларусь, на веча!"
Гэта полымя—помста катам!

Вось і дзень. За садам зялёным
Разасланіся раніцы сьцягі.
Вольны Менск пасылае праклёны
Ўсьлед сваім учарайшым гасьцям.

Яшчэ дым над руінамі сьцелецца,
Яшчэ вуліцы пахнуць крывёй—
А зганяе ўжо з гораду цені
Новай песьні магутны звон.

IX

Зазьвінелі драцяныя краты,
Рве нашчэнт іх чырвоны шквал—
Ўжо за Бугам грымяць гарматы,
Ўжо трашчыць у арла галава.

А Ігнат у зорным шаломе
Разьвітаўся ізноў з Ганулян:
— Ну, цяпер ужо хутка да дому,
Бо чорныя дні прамінулі!..

Лопнулі путы іржавыя,
Помстай душы гарацьˉ—
Узяла за глотку Варшаву,
Узяла сярмяжная раць.

Закружыліся дні карагодам,
Зарунела жыцьцё барацьбой,
Ў тыя дні, калі вёска з заводам
Ішлі ў вялікі бой.

X

Нядарам расьлі магілы
І агні крывавілі палеткі—
Беларусь—свабоднаю краінай,
Беларусь—рэспублікай савецкай.

Толькі ў сэрцы—крывавая рана
Па целе жывому межы...
Толькі Вільня ў няволі пана,
І сякеры зьвіняць ў Белавежы.

Толькі там парадзелі вёскі—
І гусьцей крыжы на пагостах,
Ды з лясоў сярмяжнае войска
Правіць вялікую помсту.

---

**М. Чарот**

# З поэмы „Босыя на вогнішчы“

На вогнішчы стала пячы.
На вуліцы вецер... бура...
— Трэба ўцячы,
Каб была цэлая скура.
— А мы, босыя, адступаем...
Не дадзім ахвотаю
Новай зямлі.
Таварышы, страляем!
Ротаю!..
плі!..
Разьлягаецца грук...
Чорны жук
І павук
Сядзяць у падвале, слухаюць,

Баяцца выткнуць жывот,
Дзеці сабачыя!
Босыя патыліцы чухаюць,
Пазіраюць праз плот,
У кулак плачуць:
—Бач, нашы паўцякалі,
Куды дзявацца нам?
Зноў служыць панам
Мы прычакалі?..
Людзей мала на вуліцы.
Ноч прышла, горад—пустка,
Толькі новы крык чуецца:
„Пшэ-пу-стка!!!“

* * *

Застагналі вёскі і сёлы...
Брычка стаіць ля сьвятлічкі.
А горад схаваўся ў касьцёлы:
Моліцца, чытае кантычкі...
„Бэндзь, люд спанялы...“
На шапку „ожал бялы“,—
Блішчаць гузікі,—
Чыноўнік зноў на скверы
Лушчыць гарбузікі,
Думае, якой ён веры?
— Ах, халеры!
Каб дастаць работу,
Пытаюць, хто ты?
А босым—холадна,
Абутым—голадна...
Жыць не ахвота.

* * *

Над балотамі дыміцца—
Згас агонь.
А па вогнішчы імчыцца
Белы конь.

Скача ўлева, скача ўправа,—
Ня стрымаць.
Захацеў улан на славу
Пагуляць.

Раступіся, сьвет, дарога—
Аднаму!
„За айчызну і за бога“.
Што яму?!
Яго сіла, яго права,
Ёсьць бізун...

Скача ўлева, скача ўправа
Конь-скакун.

Гэй, ляці, але дзяржыся,
Злы яздок,
Без пары не праваліся
У масток.

На вадзе ляжыць мост новы,
На агні.
Не праедзеш ты дубровы,—
Пагані!?

Усхадзіўся лес шумлівы,—
Вые воўк.
Конь спаткнуўся палахлівы.
Стой яздок!

На балоце і на полі
Зноў агні.
Ня гуляць табе тут болей—
Павярні!

* *
*

Вёскі і гарады
Дымам спавіты
Днём.
У ночы глянеш куды—
Неба абліта
Агнём.

Сьлёзы... кроў на траве...
Як у магіле
Сьпіш.
— Бач, чырвоны плыве
Па небасхілу
Крыж.

Цёпла, і груганы
Усе на чужыне..
Эх!
Чуеш гоман? Яны!
Леташні гіне
Сьнег.

Нам ня шкода: бяры
Стужы зімовай
Цень.
Крыж! Ты стань на гары:
Радзі нам новы
Дзень!

* * *

На вогнішчы басанож,
У руках вінтоўка, нож...
Здабываць галодным славу:
„Даёш Варшаву!?“
— Нам ня трэба гарады:
Волі сьцяг нясём туды,
Іскры гонім мы пажару.
Сьмялей ударым!
„Нам дарогу – уцякай!“
Чуваць крыкі: а-я-яй!..
Бач, улан астатні едзе:
„Ах, цо то бэндзе?..“
А чырвоныя ідуць,
Песьні волі зноў пяюць.
Адусюль бягуць к ім людзі:
— Нам цёпла будзе!

**Янка Купала**

* * *

Зручна, гучна, грай нам, грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.
Селі макам усе тыя,
Што нас, вольны люд,
Не шкадуючы памыяў
Аблівалі тут.
Барын веку дажывае
Выгнаны Масквой,
Пан Варшаву прапівае,
Гонар панскі свой.
А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары,
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары.
Нібы пчолы ў соты з мёдам
Да свайго вульля,
Мы вяртаемся да дому,
Як адна сям'я.
На сход сходзімся і лічым,
Ці ўсе прышлі,—
Хто спазьніўся—прыйсьці клічам
Да сваёй зямлі.
— Вы, хтось кажа асьцярожна—
Ня ўсе ў грамадзе.

— Гэй, дарогу, лях вяльможны!
Беларусь ідзе.
Грай-жа, грай нам гулка, грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.

**З. Бядуля**

# Беларусь

I

Цябе вякі, як мумію, спавілі
Папоўскай цьмой і панскім бізуном.
Сярод жывых ляжала ты ў магіле,
Паміж славян—між каласоў залом.

А над табой жрацы, бы ў ночы совы,
Сьпявалі кант і жудасна раўлі.
Выцьцё званіц глушыла шум дубровы,
Задушан шэпт палохаў шыр ральлі.

Касьцёл, царква жар-сонца затулялі,
Тумaніў мозг вядзьмарскі забабон.
А зьдзек-груган з высотаў, зьнізу, з даляў
Ірваў твой сьпеў—„мужыцкі, хамскі",
стогн.

Страшным судом яго званар палохаў,
А бізуном—агідны пан ліхі.
Ў нядзельны час бядак крахтаў і вохаў—
Грашмі ў царкве замазываў грахі.

Як п'явак жмут, сасуць твой карк бажніцы,
А гандляроў—як плойма дымных хмар.
Радзіны, сьмерць, хаўтуры ці жаніцца—
Два макляры пры гэтым: поп, карчмар.

Застыгла ты, як той вулькан, знадворку,
Уся пад куцьцёй „за душачак дзядоў".
Была ты ўся курганам-лысагоркай,
Музэем цьмы пазгубленых гадоў.

II

А пад старой пад шматвяковай сьвіткай
Кіпела кроў бунтарская ў грудзёх,
Хоць гнулі карк, цягнулі жылы ў ніткі
Зьдзіракі тры: і пан, і цар, і бог.

Прыгоньнік-раб загартаваўся ў полі;
Уся Беларусь абросла мазалём.
А дзікі лес русаліўся аб долі,
Трывожыў сны падземны буралом.

Рака Вільля, Дзьвіна, лайбовы Нёман
Шапталі сказ, раздольны сьпеў вясны;
Паміж лясоў, лугоў бурлілі гоман,
Аб вольных днёх наш лірнік бачыў сны.

Ён бачыў сны: гэрой радзіўся з зораў,
Пайшоў у бой за гарапашны люд;
Там булавой сталёвай на пpасторы
Гадзюку біў, чыніў за цудам цуд.

І вырас мост на дзесяць верст мядзяны,
На ім дубы-разбойнікі стаяць,
Паднялі крык, страхоцьце на палянах,
Асілка рве, калечыць злая рась.

З аблоку ўніз мільгнула палатнішча—
То казак цар—чароўны самалёт.
На ім пястун народны на ігрышча
Да сонца ўвысь узносіў горны ўзьлёт.

Імчыць стралой, а хтосьці ў лузе грае;
Жаўронка сьпеў ці трэлі хтось пляце,—
То пастушок дзьме ў дудку каля гаю,
Канцэрт дае авечай грамадзе.

Падобен ён Афінскаму Амуру,
Што выдлубаў на мармуры разьбяр;
А сьпеў яго—і смутны і пануры:
Якраз бы наш нядаўных дзён пясьняр.

Як наш пясьняр з эпохі адраджэньня,
Якога кат цанзурны цікавіў.
Між апцугоў было яго імкненьне—
Ён горкі лёс сьлязьліва апяваў.

З нямой тугі, з глухой недагаворкі
Гусьлярскіх струн будзіўся наш ратай.
У ночны час поэт глядзеў на зорку,
Вучыў любіць ён вукрадкам свой край.

Вяла ігру благая доля з намі,
Як варажбіт калодай старых карт.
Аднак народ пяўца свайго ўцяміў:
„Тутэйшы“ люд здабыў патрэбны гарт.

III

Праз грукат-хрып сусьветнай дзікай бойні,
Праз груды цел, праз алавяны стогн,
Праз пустыры разрытых родных гоняў,
Праз мора сьлёз, праз царскі, трухлы трон.

Праз дым, пажар магнацкіх гнёзд прынадных,
Праз крык, праз гнеў і праз бясьсільля злосьць
Паноў, мяшчан, пры кераншчыне здраднай
Да нас Акцябр прымчаў—чаканы госьць!

Бы Сьветагор славутны з казкі сівай,
Ён родны край перотварыў у дзіў;
Свабоды гымн запеў на рабскай ніве,
Ён прышлы час бы казку спарадзіў.

Як гэні зор, Акцябр зірнуў у сенцы—
Пакіраваў свой бег усьцяж назад.
Эўропа—стук панамі ў вакенца:
Ты адчыні ім браму, хоць ня рад.

IV

У першы раз—Вільгельм тут еў сьняданьне,
У раз другі—Пілсудзкі зводзіў звод.
Буржуй быў рад: „Пануй-жа тут, мой пане“!—
І піў да дна свой келіх наш народ.

Сярмяжны гнеў як бухнуў буйнай бурай—
Пачалі мсьціць дзяцюк і стары дзед.
Магнат дрыжыць, трасецца яго скура:
Шмат вілаў, кос забразгалі ў багнэт.

Паўстанчы край і вечарам і ўранку
Глядзеў на сьмерць, на груды цел, на кроў
Зрываў з паноў арлістую „пазнанку“
І спраўдзіў сказ—паданьне гусьляроў.

Таіў наш бор сьпяваньне партызанаў,
Таіў кляцьбу—прысягу пры агнях.
Бор знае моц савецкіх атаманаў,
У зброі ўсе ды з лірай у руках.

V

І зноў Акцябр зазьяў, сакол магнутны:
Зазвалі к нам чырвоныя з Масквы.
Яны былі галодны, неабуты,
Яны былі адважны, нібы львы.

Акцябр у нас наводзіць лад у хаце:
Працоўных друг і рупны гаспадар.
Пануе ўсюль асьвета, творчасьць, праца,
Макцьветны сьцяг шатром абняў абшар.

Іржу вякоў скрыбе Акцябр чырвоны,
Зрывае з воч халопскую луску.
Штыхом, мячом запісаны законы,
З якіх карысьць на вёсцы бедаку.

Замест каляд, Акцябр адзначыў эру:
Сусьветны Май - наш пролетарскі фэст,
Замест „сьвятой" часоў паганскіх веры—
Здабылі мы Комуны маніфэст.

Брыдзе, імчыць ад вёскі і да вёскі,
Брыдзе ў палёх, далінах, пустырох;
Грымяць усюль адгукі-адгалоскі,
Шуміць-гудзіць па местах-гарадох.

Нябёсны „цуд" ён рупна комсамоліць,
Трасе царквой, здымае „божы" звон.
А словы—гром, а словы—гучны молат.
Юнак-прарок бязбожніцтва—то ён.

Знаходзіць цуд працоўны у навуцы,
У радыё—ўсе фокусы багоў.
І на'т дзяды ў храм навукі рвуцца,
І пастухі—сыны лясоў, лугоў.

Наш край цяпер чытае рупна кнігу,
Варожаць слух казаньні лектароў;
Гарбар, шавец і гарапашнік з нівы,
Жанчыны ўсе бяруцца за пяро.

Царкву, касьцёл, мэчэт і сынагогу,
Дзе фальш лунаў у храмах блуду, цьмы,
Народ бярэ назад ў ідола-бога—
Пад школу, клюб „нябёсныя дамы!"

VI

А Беларусь бязбожніцаю стала,
Цьвіце, расьце, партыйкай маладой
Глядзіць у даль—ў Эўропу капітала,
Трасе сярпом і молатам з гразьбой.

На ёй блішчаць і літары і кропкі
Ў агні сьцягоў савецкіх устаноў.
Рабочы там і селянін ў атопках
Вартуюць край ад дзікіх грызуноў.

О, шчасьця шмат над быўшай лысагоркай
Тут быўшы „хлоп“ знайшоў сябе цяпер.
Варожыць цьвет пяцікантовай зоркі,
Абліт красой узор СССР.

О, колькі ў тых у літарах значэньня!
За іх сыноў шмат лепшых палягло.
Тут не адно людзкое пакаленьне
Сваіх байцоў за волю аддало.

Няхай наш сьцяг спрабуе зьдзёрці з мейсца
Ганебны пан, сусьветны капітал:
Тады мы ўсе—чырвоныя армейцы,
Тады мы ўсе—чырвоны, страшны шквал.

VI

А Беларусь зрабілась будаўніцай,
Куе свой лёс, будуе новы быт.
Усюль кіпіць магутная крыніца,
Ніводны кут у краі не забыт.

Куе ў адно і гарады і сёлы,
Ў адзін саюз, у творчы, моцны чын,
Працоўны люд сьпявае гымн вясёлы,
І мазалю тут лішне супачын.

Наш селянін у пух пратворыць глебу
Імпэтам сіл спрунжынавых канёў;
Акрыліць край і заваюе неба
Шматкрыльны ўзьлёт сталёвых жураўлёў.

Сьмялей, Заход! Ня плачце, нашы землі,
Пад каршуном ачумленых паноў!
У хуткі час мы пад чырвоным вэльмам
Разлучны край у цэлы злучым зноў!

---

**М. Чарот**

## Адплата

*(З часоў польскае окупацыі)*

Ноч прышла... Ад дыму хмары...
Адусюль нясецца крык...
Горад Менск увесь у пажары—
Баль спраўляе польскі штык..

Сэрца роднае краіны,—
Колькі ты нясеш ахвяр!
Дзе ні глянь - адны руіны,—
Гэта Польшчы белай дар.

Найміт шляхціча—магната,
Польскай арміі салдат,
Беднату б‘е, коле брата,
Адступаючы назад...

А здалёку песьні чутны:
Йдзе чырвоны барацьбіт.
Ён свабодны і магутны...
Гэй, дрыжы, капіталіст!

Ї чакае люд працоўны,
Покуль выгляне прамень,
Ї заместа ночы цёмнай,
Прыдзе жданы, ясны дзень...

Вось і раніца... уздыхнулі.
Люд працоўны стаў вялік.
Ї зладзеям сьмерці кулі,
Шле ўздагон чырвоны штык.

**М. Чарот**

## Урывак з поэмы „Марына“

Калі каханьне сэрца томіць
Марыне ціхім сонным змрокам,
Здаецца, вецер між кустоў
Сьпявае песьню аб далёкім...
Аб краю тым, што за Бярозай
На Ўсходзе Вольным—за ракою..
Паволі зімнаю рукою
Марына расхіляе лозы...
Прыслухаецца, як капае раса...
Лёнам-кужалем распушчана каса...
Жыве ў лесе не адзін ужо дзянёк...
Восень... холад... захліпнуўся аганёк.
Не адна Марына ў лесе,
Не адна ў паўстаньні,—
З хлопцамі-малойцамі вандруе...
Каб злавіць таго, павесіць,
Хто разьбіў каханьне...
Прыдзе час—Марына не даруе!
Ї адважная паўстанка
Падышла да грамады.
Ад шагоў яе—

Прачнулася палянка,
Ад вачэй яе—
Сьвятло, як заўсяды.
— Гэй да ну, паўстанцы!..
Ці-ж ня сорам!..
Ночку цёмную у лесе спачываць:
За Бярозу гляньце!—
Скора, скора
Загукае песьню сыч-сава...
Ды налятуць птушкі з Усходу
Чырвонакрылыя,
Ды прынясуць радасну прыгоду
Пра майго мілага...
Гляне, гляне сонца з-за Бярозы,
Згоніць, як расіцу, мае сьлёзы...
І пашлі паўстанцы,
Ціца-ціха сьпяваючы,
І пашлі паўстанцы,
Долі-шчасьця шукаючы...
А паперадзе дзяўчына—
Паўстанка Марына.

---

**М. Грамыка**

## З поэмы „Лясьнічанка“

### ПЕСЬНЯ II

Жыць цяжка на крэсах усходніх,
Марнуецца дарма народ.
Гудзіць Навагрудак, Гародня
Пад Вільню ідзе карагод.

„Ня можна ўжыцца з панамі.
„Як-бы ня тутэйшым стаў край.
„Цар неба, зьмілуйся над намі,
„Народу загінуць ня дай!“

„Хто-ж пройдзецца з плугам у полі,
„Каб сытнага хлебца здабыць?
„Ці-ж пан гэта зробіць,—ніколі!
„Ён лепей адмовіцца жыць“.

„Хто сьвечкі паставіць ў касьцеле,
„Хто будзе там „здровасьць“ сьпяваць?
„Паны?—Каб яны пазгарэлі:
„Яны-ж толькі здольны гуляць!“

Парадкі зямель пад'ярэмных
Ўжо лаяў стары каталік.
А моладзь, бяз слоў тых дарэмных,
Паўстанчаскі множыла лік.

За зьдзекі асаднікаў дзікіх,
За землі паснуўшых дзядоў,
За соткі няпраўдаў вялікіх,—
Паўстаўшыя здані вякоў;

За ўціск тутэйшага слова,
За крыўду бяспраўных дзяцей,
Якіх праз чужацкую мову
З-пад родных зрываюць грудзей;

За войтаў насланых учынкі,
За брыдкі жаўнерскі пастой,
За сьлёзныя матак расінкі,—
Адна тут адплата—крывёй!

„Пакіньма прытульныя хаты!
„Хутчэй павяжы паясы!
„Хай ведаюць гэтыя каты,
„Што ёсьць яшчэ ховы-лясы!

„Няма пакуль стрэльбаў?—А вілы?
„Сякеры ды дым сярнічкоў?
„Хлапцоў ня спужаеш магілай:
„Пасьпім пад каронкай дубкоў!“

І шырыцца ў вёсках паўстаньне.
Хлапцоў падбываюць рады...
Чырвонага полымя зданьне
Палохаць ідзе гарады.

Тады налятаюць жаўнеры,
На сьцягах бялее арол;
Сярэдніх вякоў кавалеры
Зьбіваюць усё навакол.

Хто тут ў барацьбе пераможа?
Упарты, напужаны пан,
Ці той, чыё топчацца збожжа,
Чый ўвек зьневажаецца стан?!

* * *

Хто поўначчу ходзіць за рэчкай,
Гукае кагось аганьком;
Як вокам, запаліцца сьвечкай,—
Раз... два —і загасьне суздром?

Галена той знак разумее,
Бяжыць Стасюка разбудзіць.
Хлапец яшчэ болей нямее,
Праз цьму на дзяўчыну глядзіць.

— „Бярыся за човен,—гукаюць!
„Сюды, во сюды, на той бок!
— „Чаго?—Ды ня бауся, чакаюць!
„Хутчэй! Дзе пакінуў чаўнок?“

Бягуць удваіх пад вярбіну,
Штурхаюць той човен ад сну.
Трывожыць агоньчык дзяўчыну:
— „Ну, Стаська, чаго ты заснуў?“

„Там двое хлапцоў, разумееш?
„Дык іх каб сюды перавёз!
„Ды што ты, Стасюк, слупянееш—
„Сапіш, як благі паравоз!“

І клопат дзяўчыне і жарты,
Ды гэтак сьпіхнула дубок,
Што з рук тых Галененых, вартых
Хлапец хістануўся убок.

Бяжыць, азіраючысь, ў хату
Сустрэць нязвычайных людзей,
Ды трэба паштурхаць і тату,
Прыбраць хоць куток для гасьцей!

— „Татуня, уставайце, татуня!
„Ідуць ужо тыя да нас!“—
— „Якія?“—Ну, Костусь з-пад Руні
„Ды гэты... Андрэйчык Тарас!“

— „Дапраўды? Што добра, дык добра!
„Дык знача хлапцы ўцяклі!
„Ну, трэба-ж прыняць тых харобрых,
„Ці-ж мала іх там прыпяклі!“

І Бронік на рэчцы. Ледзь плешча
Вунь там з-за прылукі вясло.
— „Сюды!“—адгукнуўся Трапешча
За хлопцаў: каб добра-ж было!

Ў цішы патаемнае ночы
Тры хлопцы растуць з чаўнака.
— „Здароў, бацька!“ першы падскочыў,
Шукае вітацца рука.

У хату ідуць. Небясьпечна
Размову вясьці тут утрох.
У хаце цішэй. Ды яешня
Напэўна чакае й тварог...

Сядзяць за сталом убрусовым.
Стары ажна чаркі дастаў,—
Бутэльку з настоем зубровым
Ў руцэ, яшчэ моцнай, трымаў.

— Ну, выпі, хлапцы! Хай шанцуе
„У справе вялікай далей!
„Жандар бізуноў не шкадуе,
„Дык будзе й яму на алей!“

Ўсе разам: „Так будзе!“—„Галена“,—
Тарас на дзяўчыну зірнуў,
— „А вы з намі чарку? Ня дрэнна!“
І ў сінія вочы зірнуў.

— „Што-ж, вып‘ю за лепшую долю,
„За права ўсіх на зямлю,
„За нашую некалі волю
„Глядзеце, Тарас і я п‘ю!“

— „Дачка ў мяне малайчына!“
Стары лесавік пахваліў.
— „Ну вып‘ем, браткі, за айчыну!
„За тых, хто тут поту праліў!“

— „Ну, як уцякалі, скажы-ка?
„Ды як не забіў вас жаўнер?“
— „Э, бацька, а мы хіба з лыка,
„Хоць носім няшыты каўнер!“

— „Ды б‘юць-жа, сабакі, удала“,
Дадаў рудаваты Кастусь,
— „Ну, сып там, дзе мякка,—дык мала:
„Як скруцяць,—аж костачка хрусь!“

Усе замаўчалі панура.
Галены палаючы твар
Зірнуў праз вакенца, як бура,
Як слаў ён тым катам пажар.

Але час надыходзіць. Сьвітаньне
Каб іх не застукала тут!
Сказаць, дык ня надта жаданьне
Пакінуць гасьцінны той кут.

Ня выдаць-жа востраў жандарам,—
Куды!—Лепш у Нёман на дно!
Ці-ж з гэтым чаруючым тварам
Прапасьці ёй тут заадно?

Тарас паглядзеў на дзяўчыну,
Заныла пад сэрцам чамусь;
Нэрвова паправіў аўчыну.
— Ну, годзе! Зьбірайся, Кастусь!

Падняліся хлопцы.—„Бывайце!"
І голас Тарасаў дрыжэў...
— „Ня хутка ў госьці чакайце",
Дадаў ён і раптам зьбялеў:

Сустрэўся з вачамі дзяўчыны.
Па іх спачуваньня дымок
Прабег, як туманчык з лагчыны.
Галена крутнулася ўбок...

Знайшлася старая вінтоўка:
Лясьнік адкапаў з-пад кустоў.
— „Плывеце ўніз, за Дубоўку,
„Сягоньня тут мала плытоў.

„Вось гэты вам чоўн староваты,
„Але ўтрымае дваіх.
„Схавайце яго там заўзята
„У ісладкіх плаўнях глухіх".

Лясьнік падае ім нараду.
Галена над рэчкай стаіць...
Вэнэрына зорка лямпадай
У небе прадраньнім гарыць.

— „Як трапіце часам да нашых,
„Скажэце Андрэю Плыту,
„Што ў Шчорсах заварым мы кашу!"—
Хтось кінуў з хлапцоў у цемнату.

Галена ў адказ ім: „Пабачу
„Праз тыдзень я нашых хлапцоў.
„У Шчорсах я часу ня страчу!"
І зьніклі два цені плаўцоў.

Стары і Галена стаялі
Яшчэ час нядоўгі ў кустох.
Дзесь пляскала нешта аб хвалі,
Ды ветрык трапаў пералог.

Бяз слоў варацілася ў хату.
І зноў астравок засыпаў;
І толькі дзед Нёман, як кратаў
Яго берагі, падмываў.

---

**А. Александровіч**

## Падпольлю

У глыбі, дзе сеткай карэньні,
комсамольцы выкоўваюць волю,
— прынясе, прынясе вызваленьне
комсамол Беларусі падпольлю!

Падпольле—дзіця рабочых!
Вінтоўка—штык—наган...
Стальлю звоніць друкарня ноччу,
адбівае паўстаньня плян.

А на вуліцах панская варта—
ня нырне ў сутарэньне жыцьця!
Ей ня ведаць, што там не на жарты
змагаецца волат-дзіця.

Эх, зможам мы паншчыну, зможам!
Сьмерць прыгорне яе ў свой прыпол;
без дарогі пашле ў падарожжа,
размахнуўшы з пляча—комсамол!

---

**Я. Колас**

## Братом Заходняй Беларусі

### На разгром „Грамады“

Няхай паны ў сваёй дурноце
Мацней сьціскаюць абцугі,
Каб вас душыць у моцным гнёце,
Каб на калючым панскім дроце
Павесіць скарб наш дарагі;
Няхай ксяндзы, жрацы блюзьнеры,
Падпёршы тылакам аўтар,
Выводзяць панскія намеры
З „сьвятых законаў“ свае веры,
Каб болей сталася ахвяр;

Няхай шалее гэта зграя,
Няхай чадзіць „сьвяты“ дурман,
Каб выбіць з беднага ратая
Прагненьне к волі таго краю,
Дзе ня прышчэпіцца ўжо пан;
Няхай караюць там сурова,
Каб дух народу загасіць;
Хай „ужонд польскі“ слова ў слова
Бярэ прыклады з Мураўёва,
Каб рух спаганіць, ахлусіць;
Няхай—„ад мора і да мора“—
Жыве ў закручаных мазгох,—
Браты, мінецца ліха-гора,
І панскі шал затхнецца скора,
Бо стукне молат па панох!

---

**А. Александровіч**

## Паднявольным

Эх, беларуская вёска,
бедная вёска, ня плач.
Няхай п'яная паншчына госкае,
няхай скача крывёй імгла.

Тя ня плач... Іх сіла тлее...
Ты ўзыходзіш на вольны шлях!
Руньню новай ужо зелянее
Беларусі Заходняй зямля.

Ім вядома,—яшчэ больш пазнаюць
край, дзе толькі адны крыжы.
Гэта край—Беларусь маладая!
Ім ня зьнішчыць яе!
Будзе жыць!..

Ня плач ты, радзімае поле,
весялейшы кідай перазвон.
Прынясе вызваленьне падпольле—
яно—жыцьцё новых дзён!..

Серабрыстаю ноччу паслухай
ня плача жыцьцё, а бурліць!
Ой, завые яшчэ завіруха—
вызваленьне роднай зямлі.

* * *

У хаце холадна, у хаце цёмна
ня жыцьцё, а ігрышча бяды.
Мы й ня жывём,—
а страшаць жыцьцём нас.
Эх, непрападзём,
як у хмарах дым!
Нас мільёны!
Зьмена наша:
партызанскі бор, завод.
Нас мільёны
нам ня страшны
ажырэлы панскі род.
Пераможам
сілай працы!
Ня стрыножыць
дух юнацкі...

Беларусь ня церпіць пана,
Беларусь бунтарскі род.
Эх, паўстане край забраны—
дзеці працы—наш народ.

Серабрыстаю ноччу паслухай,
ня плача жыцьцё, а бурліць!
Эх, завые яшчэ завіруха,
вызваленьне роднай зямлі...

**А. Александровіч**

## Я чую кліч...

Я чую, як плюскочуць Нёманавы хвалі;
Я чую яго гулкі, неўгамонны кліч.
Я чую яго кліч, бы звон бадзёры сталі,—
Кліч Захаду,—паўстань! Палае Волі Зьніч!

Паўстань!—яму шапоча луг зялёны—ўлетку;
Паўстань, народ!—плыве звон стромкае сасны;
Паўстань!—гудзіць акорд, калыша ён палеткі;
Паўстань, стыхія працы! Сустрэнь жыцьцё Вясны!..

Даволі сьлёз крывавых! Жыцьцё дай арлянятам!..
Узварушы ты хмары... Разгані туман...
Загляне Сонца-Волі ў вокны тваёй хаты.
Над сваёю працай будзеш сам ты пан.

І Беларусі дзеці больш ня будуць ценьмі...
Беластоку, Вільні—лір, цымбалаў звон
Паплыве магутным гімнам вызваленьня...
Сьлед мінулай паншчыны, будзе толькі сон!..

---

**Ізраіль Плаўнік**

# Панская „ласка“

## (Аб Заходняй Беларусі)

Дык вось яна панская „ласка“!—
Частуе турмою, крывёй!..
„Па „хлопах“ бізунамі ляскаць,
„Каб зьвесьці са сьцежкі „крывой“...
„Зблудзілі“ зусім беларусы:
(Да волі імкнуцца, сьвятла)
„А мы іх замоўкнуць прымусім!..
„Каб думка, як „сьветач“, была—
„Заглохне хай „хамская“ мова:
„Пілсудзкі „сваю“ ім нясе...
„Іх поле, іх зерне, дубровы—
„Асаднікам здаць пакрысе!..
„Бо што беларусы?..
— То-ж „быдла“.
Зьмяіцца шыпеньне паноў...

. . . . . . . . .

І цемра разьвесіла скрыдлы
На шыр беларускіх палёў...
Нясуцца стагнаньні і енкі:
За сына катуюць бацькоў...
Адказам на просьбы, маленьні—
Бізуны і звоны акоў.
І гвалцяцца маткі і сёстры
На дзікім, агідным піры.

. . . . . . . . .

Але-ж і бунтар шаблі вострыць:
Пажарышчам помста гарыць! ..

* * *

Гэй, панства! чаго звар‘яцелі?..
Даволі вам сьмерцяй, крыві!..
Рубцы у саміх ‘шчэ на целе
Ад „ласкавай“ царскай рукі.
Гэй!..
Шляхта!
Паны!..
І падпанкі!..

Вы бачылі молат, касу?!
Як блісьне паўстаньня заранка,
Пакліча народ вас на суд!..
А суд гэты
будзе крывавы:
Такіх мо‘ яшчэ ня было!..
Аб гэтым
Узьмежкавым травам
У страху зашэпча быльлё.
Хай тысячы
Гіне нявінных...
Мільёны за іх аддасьцё!..
Нядарам
Хавае ўспаміны
Аб бойках мінулых трысьцё...
Шалёная
Будзе расправа—
Як прыклад на цэлы сусьвет...
Дык годзі-ж,
Дэспот крывавы,
Расьсейваць атрутны свой цьвет!

---

# ПЕСЬНІ

## Інтэрнацыянал

Паўстань пракляцьцем катаваны,
Паўстань хто з голаду век пух,
Бурліць наш розум збунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг.

Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І сьвет на новы лад збудуем,
Хто быў нічым, той стане ўсім.

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб ў злучнасьці братняй
Узьняўся людзкі род.

Ніхто ня дасьць самохаць волі—
Ні бог, ні цар, ні багатыр.
Даб'емся самі лепшай долі...
Дабро для ўсіх—наш правадыр.

Каб ня згібаці плеч пакорных,
Каб волі дух лунаў у нас,—
Адважна плаўма сталь у горнах,
Пакуль у кузьні жар ня згас.—

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб ў злучнасьці братняй
Узьняўся людзкі род.

Мы ўсе работнікі, сяляне—
Сусьветны рой працаўнікоў—
Мець будзем на зямлі ўладаньне,
А дармаеды - прэч! далоў!

Жывіцца целам нашым годзе
Усім трутнём і груганом.
Для нас, паўстаўшых, сонца ўсходзе,
Сьвяціць нам будзе век-вяком.

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ.
Каб ў злучнасьці братняй
Узьняўся людзкі род.

---

## Ад веку мы спалі

Ад веку мы спалі і нас разбудзілі,—
Мы знаем, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў пабіць—

Што гэта за марная доля, няшчасная:
Бяз хлеба, бяз грошай працуй.
Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца,
Ну, проста, хоць крыкні—ратуй!

Сьмяюцца над намі багатыя людзі,
Здаецца, панамі іх зваць.
Мы доўга цярпелі, цярпець больш ня будзем,
Дык пойдзем мы долі шукаць.

Мы дружна паўстанем з касамі, сярпамі,
Прагонім зямлі палачэй.
Няхай нас сустрэнуць палямі, лугамі
Грамады працоўных людзей...

---

## Аружжам на сонцы блішчучы...

Аружжам на сонцы блішчучы,
Пад гукі ўдалых трубачоў,
Па нашай зямлі беларускай,
Полк проходзіў чужых панічоў.

Як прышлі да нас з Польшчы палякі,
Дык хваліліcь—адчыняць нам рай,
І столькі свабод надавалі,
Што хоць проста кладзісь памірай.

Як маглі, яны нас абіралі,
І нагайкай стараліся біць,
І гэткім парадкам хацелі—
Беларусь да сябе прылучыць.

Беларусь ўжо і „Крэсамі“ звалі,
Бо хацелі, каб к Польшчы пашла,
Лятуцелі аб Польшчы вялікай,—
Каб ад мора й да мора была.

Але гэта ніяк не ўдалося,
Бо ужо беларускі мужык
Паном пакарацца ня хоча,
І ад панскай апекі адвык.

Дык, як можна, з панамі змагались,
Сваю волю ішлі бараніць;
А паны з свайго боку старались
Беларускі ўвесь рух задушыць.

Эх, паны нам даліся у знакі,
А бадай-жа іх болей ня знаць!
Але-ж, пэўна, паноў дык ніколі
З нас ніхто ўжо ня будзе чакаць.

І цяпер, калі цесна зьбярэмся,
Ўстанем дружна усе, як адзін,
Ад усіх мы паноў адаб'емся,
І паном Беларусь не дадзім.

І тады зажыве сабе вольна
Увесь працавіты народ.
Дык за шчасьце працоўнага люду—
Усе, як адзін, уперод!

---

## Узьніміся, Сьцяг Чырвоны!..

Узьніміся, Сьцяг Чырвоны!
Першай, коньніца, ўпярод!
Пала царская карона.
Беларускі ўстаў народ.

Сьмела ўсе на барыкады!
Мы ня знаем, што ёсьць страх;
Мы памерці будзем рады
З сьцягам вольнасьці ў руках [1]).

[1]) Гэты прыпеў—пасьля кожных чатырох радкоў.

Беларусы мы, ня зломкі,
Моцны ўсе ў паходзе мы,
Нас вядуць не камандзіры,
А жалезныя арлы.

Мы Пілсудзкага разьбілі,
І ўсіх ворагаў паб'ем,
Ды мазолістай рукою
Капітал з зямлі зьмяцем.

Менск наш быў захоплен панам,
Але ўцёк пан, як мага...
За свабоду Беларусі
Гукнем громкае „ура!"

Беларусы дружна ўстануць
За савецкія правы,
Нас паны яшчэ пазнаюць,
Як у бойку пойдзем мы.

Узьніміся, Сьцяг Чырвоны!
Першай, коньніца, ўпярод!
Пала царская карона,
Беларускі ўстаў народ.

---

## Песьня піонэраў Захаду

(*На мотыў „Варшавянка"*)

Віхрам бушуе мяцеліца злая,
Хоча засыпаць, замесьці наш шлях.
Мы—піонэрская рань маладая—
Сьмела ідзем, свой трымаючы сьцяг.

Прыпеў.

Нас ня пужаюць прашкоды ў дарозе,
Знаем: да часу мы ўсё пераносім...
Фабрыкі сын і сялянскіх загонаў
Заўжды гатовы змагацца з прыгонам!

Час на хвілінах жыцьця капіталу,
Волі на захадзе чуецца кліч.
Рушыць, шугне рэволюцыя шквалам...
Прэч ты з дарогі, фашысцкі [1]) паніч!

---

[1]) Фашыстыя—організацыя памешчыкаў і капіталістых, якае паўстае супроць рабочых організацый.

Прыпеў.

Сьмела-ж і горда ідзеце ў калёны,
Жвава за кніжку, юнак-піонэр!
Сьвет капіталу, як вырасьцем—зломім,
Будзем гатовіцца к справе цяпер.

Прыпеў.

Кацялок, наш сябра, бульбай
Дражніць, дражніць жываты.
Гэй жывей, жывей ты булькай...
Узьвівайся сівы дым.

Прыпеў.

Сьвеціць месяц і ня грэе,
Узышла ўдалі зара.
Хутка, хутка і вячэра,
Аддыхаці нам пара.

Прыпеў.

---

## Піонэрская

(*На мотыў „Чырвоная армія“*)

Мы—піонэры працоўнай сям'і,
Дзеці з загонаў чырвоных краін—
Сьцяг вызваленьня на захад нясем,
Сьвет капіталу: узрасьцем—растрасем.

Прыпеў.

Палае помстаю
Наш дух юнацкі...
Мы зьнішчым зьдзекі і прыгон!
І на ўсім сьвеце працоўных дзеці
Убачаць сонца ясных дзён.

Мы не баімся буржуйскіх сынкоў,
Супроць іх рушым сям'ю беднякоў.
Сьмела-ж усе ў піонэрскі хаўрус
Новага шчасьця спаткаем зару.
Палае помстаю...

Прыпеў.

Жвава за працу, за кніжку хутчэй!
Сьвет комунізму засьвяе ярчэй.
Дзеці заводаў, сялянскіх палёў—
Новая зьмена жыцьця кавалёў.

Палае помстаю...

Прыпеў.

Мы піонэры—комуны сыны;
З намі працоўныя—мы не адны.
Сьцяг наш чырвоны затопіць зямлю,
Працы свабоднай зьяднае сям'ю.

Палае помстаю...

Прыпеў.

---

## Да працы

Замоўклі грымоты гарматаў
На нашых палёх і далінах.
Крыві пралілося багата,
Ахвяр было шмат на руінах.

Закончыліся бітвы на полі
Спынілася ўлада пажараў.
Знашоў селянін сваю долю
Пад слаўным чырвоным штандарам.

Рабочы пабеду сьвяткуе,
Парваўшы нявольнікаў путы.
Працоўны народ не бядуе,—
Ён будзе адзеты, абуты.

Нядолю прагоняць навекі
Элэктрыка, трактар, машына.
Ня скрыўдзіць ніхто чалавека—
Ні бог, ні магнат, ні купчына.

Упыры наш край хай пакінуць,
Прэч той, хто шчыр-працай ганьбуе,
Бо хітрыкі-фальшы загінуць,
Бо жыць будзе той, хто працуе.

Спыняецца цьма векавая,
Праменяцца думкі, як сонца.
Прачнулась грамада людзкая
У вольнай шчасьлівай старонцы.

Працуюць да поту сяляне,
Гмах волі будуе рабочы.
Да працы усе грамадзяне,
Хто вольна і добра жыць хоча!

---

## Воўк да лесу цягне

Воўк да лесу цягне,
Як з ім ні мудрыць;
Пан ня шчыры з намі,
Як з ім ні дружыць.

Нельга душагубу
Верыць ні на крок—
Пацалуе ў губы,
Суне нож у бок.

Адагрэй зьмяюгу
І кусаць пачне.
Прыгарні зладзюгу—
Пэўна абкрадзе.

Так у нас з панамі
Лад і мір ідзець.
Скачуць перад намі,
Спрытна круць і верць.

Пан заўсёды змалку
Да абману лас.
Як сабака палку,
Ён шануе нас.

Йшчэ ад Польшчы можна
Розных штук чакаць,—
Трэба моцна, грозна
Востры штык трымаць.

---

## Быў калісь-ці гэткі час

Запявала:

Быў калісь-ці гэткі час,
Што паны дурылі нас.
Нас цяпер не абдурыць,—
Знаем, што і як рабіць.

Усе [1]):

Нас цяпер не абдурыць,—
Знаем, што і як рабіць.

Мы ахвяры ўсё складалі,
А паны ў кішэні бралі.
І маліліся, білі лоб...
Так вучыў і ксёндз і поп.

---

[1]) Усе сьпяваюць два апошнія радкі таго, што сьпявае запявала.

Цалавалі і падлогу,
Усё, малітвы слалі богу.
Усё, каб бог пачуў хоць раз,—
Ласкай сыпнуў-бы на нас.

Пан з духоўным—удваіх.
Так калпачылі дурных.
Усё ад нас яны цягнулі
Мы-ж за гэта сьпіны гнулі:

Йшлі так цэлыя вякі,
Мы-ж, як тыя чарвякі...
Трутняў ўсё сваіх кармілі,
Каб яны нам больш манілі.

Як цямніць нас не старалісь,
Усё-ж мы праўданькі дазналісь:
З воч мы скінулі павязкі:
Бог прапаў, засталісь казкі.

Вось народ, як цёмны быў,
Гультаёў сваіх карміў.
І таго ён сам ня знаў,
Думаў—богу аддаваў.

Быў калісьці гэткі час,
Што паны дурылі нас.
Нас цяпер не абдурыць,—
Знаем, што і як рабіць.

## СЬПІС КНІЖОК

1. **Ц. Гартны.** Трэскі на хвалях. Менск 1924 г.
2. **М. Зарецкі.** 42 дакумэнты. Менск 1926 г., ц. 35 кап.
3. **Тарас Гушча.** На рубяжы. Менск 1925 г., ц. 1 руб.
4. **Янка Купала.** Безназоўнае. Менск 1925 г., ц. 1 руб.
5. **А. Вольны.** Два. Менск 1925 г., ц. 40 к.
6. **Тарас Гушча (**Якуб Колас**)** На прасторах жыцьця. Менск 1926 г., ц. 1 р. 50 к.
7. **М. Чарот.** Веснаход. Менск 1926 г., ц. 80 к.
8. **Яго-ж.** Марына (поэма). 1926 г., ц. 20 к.
9. **Яго-ж.** Босыя на вогнішчы. 1925 г., ц. 20 к.
10. **А. Александровіч.** Па Беларускім бруку. Менск 1925 г., ц. 30 к.
11. **П. Капаевіч, М. Сеўрук і Я. Баркоўскі.** Чырвоная сялянская вечарынка. (зборнік). Менск 1927 г., ц. 75 к.
12. **Я. Нёманскі.** На зломе. Менск. 1925 г., ц. 1 р. 65 к.
13. **М. Нікановіч.** Золак. Менск 1926 г., ц. 75 к.
14. **Я. Бядуля.** Буралом. Менск 1924 г.
15. Доклад Правительства БССР на III сессии ЦИК СССР. Менск 1927 г., ц. 65 к.
16. Заходняя Беларусь (зборнік). Менск 1925 г.
17. **М. Лучанін.** Заходняя Беларусь пад панаваньнем Польшчы. Менск. 1925 г., цана 20 к.
18. Памятник Борцам погибшим за освобождение Белоруссии (зборнік матар‘ялаў. Менск 1925 г.
19. **„Крывавай пуцявінай“**—Зборнік твораў аб белапольскіх зьдзеках над працоўнымі Беларусі. Менск 1927 г. Стр. 80, цана 30 к.

ЗЬМЕСТ

Стар.

